*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

6 САКАВІКА 1992 г.
№ 10 (3628)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 50 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)





Валянцін Занковіч...

Ягонае імя звязана найперш з высокагуманістычным творам, шэдэўрам сусветнага мастацтва — мемарыяльным комплексам «Хатынь». Ды і менш маштабныя работы скульптара — мемарыяльныя знакі і дэкаратыўная пластыка — гавораць пра яго як пра шчырага мастака і багатага душою чалавека.

У хуткім часе новая работа Валянціна Паўлавіча з'явіцца перад вачыма менчукоў: барэльеф дзяржаўнага герба Беларусі зойме сваё месца на будынку парламента.

В. БОГУШ.

# Кола Дзён

**27 ЛЮТАГА** Некалькі тыдняў назад, пасля сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў у Мінску, сяму-таму здавалася, што хісткае збудаванне пад назвай СНД пачынае набіраць устойлівасць. Але падзеі апошніх дзён паказваюць, што гэта было ўсяго толькі чарговая ілюзія.

Сустрэчу ў Маскве прадстаўнікоў парламентаў СНД Узбекістан, напрыклад, праігнараваў без усялякіх тлумачэнняў. А Азербайджан і Малдова аб'явілі сябе назіральнікамі (?) Удзельнікі сустрэчы спачатку пагадзіліся з прапановай стварыць міжпарламенцкую асамблею, але тут жа адклалі яе да «лепшых часоў»... А напярэдадні адбылася сустрэча ў Кіеве па пытанні раздзелу ўласнасці былога СССР і знешняй пазыкі (ад гэтага пытання залежыць пазіцыя Міжнароднага валютнага фонду). У перамовах прынялі ўдзел усе, акрамя... Расіі.

**28 ЛЮТАГА** З'явілася інфармацыя аб тым, што на Беларусь з Нагорнага Карабаха самалётамі эвакуіраваны сем'і вайскоўцаў Узброеных Сіл СНД. І звязана гэта, нібыта, з тым, што ў ходзе ўзброенага процістаяння армян і азербайджанцаў 366-ы стралковы полк у раёне Сцепанакерта знаходзіцца пад абстрэлам. Ёсць забітыя і параненыя сярод салдат, пачалося дэзерцірства. Інфармацыю аб эвакуацыі сем'яў у прэс-цэнтры Узброеных Сіл СНД, праўда, пацвердзіць адмовіліся. Але ясна іншае—сітуацыя для аб'яднаных Узброеных сіл Садружнасці (пагадненне аб якіх падпісала, дарэчы, і Беларусь) у Закаўказзі сёння складаецца патавая. Далейшая інтэрнацыяналізацыя канфлікту ў Азербайджане нічога добрага не абяцае астатнім дзяржавам, грамадзяне якіх служаць у войску СНД.

**29 ЛЮТАГА** Апублікавана пастанова Саўміна Беларусі «Аб дадатковых мерах па сацыяльнай абароне ў сувязі з лібералізацыяй цэн». Мінімальная зарплата ўстанаўліваецца ў 550 рублёў. Адначасова на «свабоду» выпускаюцца цэны на птушку і гарэлку (акрамя белай, якая будзе ўсяго на 7 рублёў даражэй.)

Але самае цікавае чакае нас, відаць, наперадзе, калі будуць адпушчаны, згодна з рашэннем расійскага ўрада, цэны на нафту і газ.

**1 САКАВІКА** Першы інцыдэнт у магчымай «паліўнай» вайне ўжо адбыўся. Туркменістан адмовіўся пастаўляць Украіне газ па афіцыйна ўзгодненай (!) паміж рэспублікамі цане. У адказ Украіна перакрыла газапровад, праз які газ транзітам паступае з Сярэдняй Азіі ў Еўропу. Якая ж цана пагадненням, падпісаным у Мінску паміж краінамі Садружнасці аб гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве?

**2 САКАВІКА** Нягледзячы на гандлёвыя і нават сапраўдныя войны паміж некаторымі рэспублікамі былога Савецкага Саюза, якія не былі прадстаўлены ў ААН, усе яны разам прыняты ў міжнародное супольніцтва. (У сувязі з падзеямі ў Прыднястроўі вельмі хвалявалася Малдова, але і яе прынялі). Ад імя Беларусі, Расіі і Украіны восем новых паўнапраўных членаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый павіншаваў пастаянны прадстаўнік Украіны пры ААН Г. Удовенка. Міністр замежных спраў Беларусі П. Краўчанка падпісаў у Варшаве пагадненне аб устанаўленні дыпламатычных адносін. Міністр у час візіту быў прыняты прэзідэнтам Польшчы Л. Валенсам. На перамовах з прэм'ер-міністрам Я. Альшэўскім і міністрам замежных спраў К. Скубішэўскім закраналіся, у прыватнасці, праблемы этнічных палякаў і беларусаў, якія жывуць у абедзвюх краінах.

Становішча вернікаў на Беларусі і праблемы правядзення богаслужэнняў на беларускай мове закраналіся на сустрэчы Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі С. Шушкевіча з дэлегацыяй Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы Канады і ЗША на чале з мітрапалітам Мікалаем.

**3 САКАВІКА** На нарадзе краін Еўрапейскага Супольніцтва (ЕС) прынята рашэнне яшчэ летась заключыць пагадненні аб супрацоўніцтве з чатырма краінамі Садружнасці — Беларуссю, Казахстанам, Расіяй і Украінай.

**4 САКАВІКА** Пасля доўгіх намаганняў апублікаваны праект Закона Рэспублікі Беларусь «Аб выбарах народных дэпутатаў Беларусі», унесены дэпутацкай апазіцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце. Цяпер на пытанне рэферэндуму, прапанаванага фронтам: «Ці лічыце Вы неабходным правядзенне ўвосень 1992 года выбараў у вышэйшы орган дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь на падставе «Закона аб выбарах народных дэпутатаў...» (і далей па тэксце), можна будзе адказваць з веданнем справы. Па некаторых звестках, пад патрабаваннем аб рэферэндуме сабрана ўжо каля трэці неабходных подпісаў.

# ПАСТАНОВА

## Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

## Аб беларускай мове ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Зыходзячы з палажэнняў Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь і Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь, Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

**1. Звярнуць увагу кіраўнікоў дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі Рэспублікі Беларусь на неадкладнае выкананне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб мовах у рэспубліцы Беларусь».**

**2. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:**

**— прадугледзець у 1992—1993 гг. выдзяленне фінансавых сродкаў і тэхнічнае забеспячэнне для якаснай падрыхтоўкі і трансляцыі праграм Беларускага тэлебачання і радыё на ўсёй тэрыторыі рэспублікі і за яе межамі;**

**— сумесна з мясцовымі органамі ўлады і кіравання прыняць неабходныя меры па выкананні запланаваных аб'ёмаў будаўніцтва аб'ектаў тэлебачання і радыёвяшчання Беларусі;**

**— разгледзець пытанні, звязаныя з фінансаваннем і тэхнічным забеспячэннем спецыяльных перадач дзяржаўнага тэлебачання і радыё на мовах нацыянальных супольнасцей рэспублікі, іх трансляцыі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь у месцах кампактнага пражывання адпаведных нацыянальных груп грамадзян рэспублікі;**

**— ажыццявіць меры, накіраваныя на тэхнічнае і матэрыяльнае забеспячэнне выдання, распаўсюджвання і экспедзіравання газет і часопісаў на беларускай мове, прадугледжаных Дзяржаўнай праграмай развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у рэспубліцы;**

**— прадугледзець першачарговае і поўнае забеспячэнне паперай і пераплётнымі матэрыяламі выдання грамадска-палітычнай, тэхнічнай, навуковай, вучэбнай, мастацкай і навукова-пазнавальнай літаратуры, альбомаў, паштовак, канвертаў, календароў і картаграфічнай прадукцыі на беларускай мове;**

**— забяспечыць прыярытэтныя ўмовы для гандлю і рэкламы, а таксама льготныя тарыфы па аплаце за экспедзіраванне, распаўсюджанне па падпісцы і ў розніцу перыядычных выданняў на беларускай мове ў адпаведнасці з Дзяржаўнай праграмай развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у рэспубліцы;**

**— прадугледзець пры неабходнасці выдзяленне сродкаў для пакрыцця страт, якія панясуць дзяржаўныя выдавецтвы, заснавальнікі перыядычных выданняў, Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь і Беларускае рэспубліканскае аб'яднанне «Саюздрук» у выніку выпуску, распаўсюджвання і экспедзіравання літаратуры, газет і часопісаў на беларускай мове.**

**3. Міністэрству інфармацыі Рэспублікі Беларусь на аснове матэрыяльна-тэхнічнай базы Беларускага дома друку забяспечыць першачарговае выданне перыёдыкі, літаратуры і іншай друкаванай прадукцыі на беларускай мове.**

**4. Кантроль за ажыццяўленне гэтай пастановы ўскласці на камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, па галоснасці, сродках масавай інфармацыі і правах чалавека.**

**Старшыня Вярхоўнага Савета**
**Рэспублікі Беларусь**
**С. ШУШКЕВІЧ.**

10 лютага 1992 г.
г. Мінск.

**У складзе дэлегацыі, што прыехала ў канцы лютага па запрашэнні Беларускага народнага фронту і Таварыства беларускай мовы — найпачэснейшы Мікалай, мітрапаліт Беларускай Праваслаўнай аўтакефальнай царквы (сяліба ў Таронта, Канада), старшыня Фонду БАПЦ дапамогі ахвярам Чарнобыля; сп. Мікола Ганько, старшыня Згуртавання беларусаў Канады, дырэктар Канадскага дабрачыннага фонду дапамогі ахвярам Чарнобыля ў Беларусі; сп. Васіль Русак, сябра Рады БАПЦ, сябра Рады Беларуска-Амерыканскага Задзіночання.**

**Прадстаўнікі беларускага замежжа наведалі Мінск, Магілёў. У нядзелю першага сакавіка ўладыка Мікалай адслужыў у Курапатах імшу па бязвінна загінуўшых у гады сталіншчыны (на здымку).**

**У. ПАНАДА.**

# УСІМ—ВЯЛІКІ ДЗЯКУЙ!




У мінулую пятніцу мы, лімаўцы, адчулі, што недарэмна робім сваю справу. Мабыць, лепшы таму доказ — паўнюткая зала Дома літаратара падчас святкавання 60-годдзя «ЛіМа». Было вельмі радасна сустрэцца з вамі, дарагія нашы чытачы і аўтары, зноў адчуць вашу падтрымку! Гэта значыць, што і ў будні мы таксама будзем разам.

Нас віталі хормайстар Міхась Дрынеўскі і мастак Аляксей Марачкін, камандуючы арміі Вячаслаў Асмалоўскі і паэт Леанід Дранько-Майсюк, гітарыст Валерый Жывалеўскі і міністр інфармацыі Анатоль Бутэвіч, народны дэпутат Алег Трусаў і кампазітар Зміцер Яўтуховіч, старшыня пісьменніцкага саюза Васіль Зуёнак і намеснік міністра культуры Уладзімір Рылатка, галоўны рэдактар «Полымя» Сяргей Законнікаў і ўладыка Мікалай, мітрапаліт Беларускай аўтакефальнай царквы.

Усім, а таксама фірме «Дайнова», якая дапамагла нам у правядзенні вечарыны,— вялікі дзякуй!

У сваім выступленні на лімаўскім юбілеі міністр замежных спраў Пётр Краўчанка, сярод іншага, расказаў пра сустрэчу ў Канадзе з Наталляй Арсеньевай і выканаў просьбу паэткі — перадаў «ЛіМу» яе верш, які мы сёння і змяшчаем.

**Наталья АРСЕНЬЕВА**

## Чарнобыль

Весьні ранак...
ужо на парозе
я нязнак прыпыняю хаду:
надта-ж хораша зноўку бярозы
карагоды на ўзорках вядуць!
Іх імклівыя рукі на сіні
далячынь ткуць празрысты вузор.
Курапаты,
Чарнобыль,
Катыні
ім ня засцяць ні вёснаў, ні зор.
Мне-ж...
скрозь мроіцца іншае ранне:
хлопчык з пужкаю...
статак...
раса...
ўпярэшыню ў поле выгнаў ён сяньня...
Красавік...
Люба ў сонца гайсаць!
Сонца-ж скрозь!
Увачу, у лазовым
жоўтым пухам прыбраным гальлі,
і у шчаснасці той, без назову,
ад якое аж сэрца баліць!
І няўпрыцям нікому з худобы
чалавечай —
ня сонца, а сьцень,
чорны сьцень... найчарнейшы...
Чарнобыль...
Ужо крые, накрыў іхны дзень,
што з худой пастушковае жменькі
хутка выпадзе пужка,
што ён,
як і безьлічы меньшых,
маленькіх
моўчкі прыйме пакутлівы скон,
што ізноў над маёй Беларусяй
прарасьце, забуяе бяда,
што...
ды лепей вазьму памалюся,
да людзкога і свой боль дадам.
Божа! Божа!
Адзіны ў сусьвеце,
што ўсё знае, ўсё можа,
зрабі-ж,
каб за нас не пакутвалі дзеці,
не яны каб,
а мы неслі крыж!

## Х. ШНОР: «БЕЛАРУСЬ НАКІРАВАНА Ў ЕЎРОПУ»

Сувязі паміж Беларуссю і Германіяй — і на дзяржаўным узроўні, і на міжпартыйным — апошнім часам становяцца ўсё больш трывалыя. Нядаўна ў Мінску на чале ўрадава-парламенцкай дэлегацыі пабываў дэпутат Бундэстага, былы кіраўнік Сацыял-дэмакратычнай партыі Германіі, віцэ-прэзідэнт Сацінтэрна Х.-Й. Фогель. Ён правёў перамовы з кіраўніцтвам Беларусі, а таксама сустрэўся з кіраўнікамі Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады — у прыватнасці, са старшынёй цэнтральнай рады М. Ткачовым.

На гэтым тыдні ў рэспубліку прыехаў з ФРГ віцэ-прэм'ер сацыял-дэмакратычнага ўрада зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія доктар Х. Шнор.

Гэта ўжо другі яго візіт на Беларусь. І другі раз запар доктар Шнор прыязджае з грузам гуманітарнай дапамогі для пацярпеўшых ад Чарнобыля і канкрэтнымі прапановамі. Адна з прапаноў тычыцца стварэння аперацыйнай з самым сучасным абсталяваннем для Дзіцячага хірургічнага цэнтра. Мільён з чвэрцю нямецкіх марак дзеля гэтага ахвяруе аўтамабільная фірма «Фольксваген». (На гэтым прадпрыемстве, як расказваў гер Шнор, у час апошняй вайны працавалі палонныя — у тым ліку з Беларусі. Таму сучаснае кіраўніцтва фірмы лічыць сваім маральным абавязкам дапамагаць народу, які столькі пацярпеў у вайне).

Пасля перамоў са Старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі С. Шушкевічам Х. Шнор сустракаўся з народнымі дэпутатамі. У прыватнасці, ён меў гутарку з групай дэпутатаў фракцыі БСДГ — А. Трусавым, А. Вярцінскім, М. Крыжаноўскім, В. Малашкам і іншымі.

А. Трусаў і А. Вярцінскі расказалі аб дзейнасці і задачах Грамады, яе кантактах з сацыял-дэмакратыяй Германіі, іншых еўрапейскіх краін і аб намеры БСДГ у перспектыве ўступіць у Сацыялістычны інтэрнацыянал.

Х. Шнор сказаў у гутарцы, што, паводле яго асабістых уражанняў, Беларусь з усіх былых рэспублік Савецкага Саюза ў найбольшай ступені накіравана ў Еўропу. Тут няма канфліктаў, якія раздзіраюць зараз іншыя дзяржавы Садружнасці.



# ГУЧАЛА МАЛІТВА, ГАРЭЛІ СВЕЧКІ...

**2 САКАВІКА 1942 ГОДА ГІТЛЕРАЎЦЫ РАССТРАЛЯЛІ Ў МІНСКУ ПЯЦЬ ТЫСЯЧ ЯЎРЭЯЎ. У МІНСКІМ ГЕТА НА ПАЧАТКУ АКУПАЦЫІ БЫЛО СТО ТЫСЯЧ ЧАЛАВЕК. АМАЛЬ УСЕ ЯНЫ ЗАГІНУЛІ.**

**50-ГОДДЗЮ ТРАГІЧНАЙ ДАТЫ БЫЛІ ПРЫСВЕЧАНЫ ДНІ ПАМЯЦІ АХВЯР ГЕНАЦЫДУ, ЯКІЯ АРГАНІЗАВАЛА АБ'ЯДНАННЕ ЯЎРЭЙСКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ І АБШЧЫН БЕЛАРУСІ.**

«Чорная яма», ці проста «Яма» называюць гэтае месца старыя менчукі. Яно знаходзіцца зусім побач з гістарычным цэнтрам горада, за некалькі крокаў ад фешэнебельнага гатэля на праспекце Машэрава. Сюды не часта наведваюцца турысты (у турысцкіх маршрутах гэтае месца не значыцца). Дый не кожны жыхар Мінска падкажа, як знайсці сціплы помнік-стэлу на вуліцы Мельнікайтэ...

Цяпер ужо не верыцца, што зусім нядаўна для таго, каб сабрацца тут 9 мая (!) у памяць аб загінуўшых ад рук фашыстаў, патрабаваўся дазвол розных інстанцый, уключаючы міліцыю. Нават прыйсці сюды на жалобны мітынг было ўчынкам. Зразумела, ніхто і ніколі АФІЦЫЙНА не забараняў яўрэям шанаваць памяць аб ахвярах мінулай вайны. Існаваў нават прапагандысцкі штамп: «Ніхто не забыты, нішто не забыта». Але мы ведаем цану гэтым словам, ведаем, якой крывадушнай, выбарачнай была афіцыйная гісторыя Вялікай Айчыннай. Ды хіба толькі аб Вялікай Айчыннай не дазвалялася гаварыць усю праўду і хіба толькі аднаго народа гэта тычылася?

Але і ў нашы дні нялёгка даецца кожны новы крок да аднаўлення гістарычнай памяці...

У 41-м годзе ў акупаваны Мінск пачалі прыбываць эшалоны з яўрэямі, высланымі з Германіі і Аўстрыі. 7 лістапада ў горадзе адбыўся першы фашысцкі пагром. У напамінак аб тых падзеях у нямецкім горадзе Брэмене мінулай восенню была ўстаноўлена мемарыяльная дошка. Такую ж дошку дэлегацыя з Брэмена даставіла ў Менск. Але спатрэбілася некалькі месяцаў, каб гэтая дошка знайшла сваё месца. Днямі яна была ўмацавана на доме на Юбілейнай плошчы. (Якой горкай бывае іронія лёсу!)

У мінулую нядзелю адсюль і рушыла жалобная працэсія да Ямы. Былі тут людзі рознага ўзросту. Але найбольш — старыя. Сярод іх знаходзіліся вязні лагераў смерці, удзельнікі падпольнага і партызанскага руху.

...Ільза Штэйн — адна з нямногіх, хто перажыў крывавую трагедыю мінскага гета. Яна прыехала з Германіі, каб праз доўгія гады сустрэцца з Лізай Гутковіч, якая сама цудам уратавалася ў 42-м ад смерці, а потым уратавала Ільзу. Пазней, з дапамогай аднаго нямецкага афіцэра (амаль фантастычная гісторыя!), ім удалося вырвацца з горада да партызан.

І вось цяпер яны разам прыйшлі пакланіцца загінуўшым.

Елізавета Захараўна Гутковіч расказала на жалобным мітынгу пра той жахлівы дзень на пачатку вясны. Пра тое, як фашысты сартавалі людзей... як адрывалі дзяцей ад мацярок... як забівалі старых і малых... як жывыя хавалі мёртвых у яме... як паліцаі пасля ўсяго прымусілі тых, хто застаўся ў жывых, стаяць на каленях...

Гучала старажытная малітва — кадзіш, гарэлі памінальныя свечкі. Выступалі грамадскія і рэлігійныя дзеячы (сярод іх — і равін, і ўніяцкі святар), пісьменнікі, госці з Украіны, з Ізраіля, з ЗША. Дарэчы, у горадзе-пабраціме Мінска Дэтройце ў той дзень таксама адбылася памінальная малітва ў памяць загінуўшых у мінскім гета. Успаміналі мінулае. Але гаварылі і пра дзень сённяшні.

Фашызм застаецца фашызмам, якім бы адзеннем ён ні прыкрываўся, сказаў, адкрываючы мітынг, М. Данцыг, старшыня мінскага яўрэйскага аб'яднання. І тэма антыфашызму гучала ў многіх выступленнях. Як ні горка, а трэба прызнаць, што сёння тэма гэтая не страціла сваёй актуальнасці.

**Віталь ТАРАС.**

P. S. Дні памяці ахвяр генацыду яўрэйскага народа, якія пачаліся з адкрыцця аднайменнай выстаўкі ў музеі Вялікай Айчыннай вайны, былі вельмі насычаныя. За гэтыя дні адбыліся не толькі паездкі ў Драздны, Трасцянец, Хатынь, не толькі жалобны мітынг, не толькі дабрачынныя спектакль і канцэрт. Рабілася спроба асэнсаваць урокі мінулага і задачы дня сённяшняга. Гэтаму, у прыватнасці, была прысвечана тэарэтычная канферэнцыя ў Доме літаратара (перад яе пачаткам тут адкрылася выстаўка мастака Л. Рана). На ёй спрачаліся і шукалі ісціну навукоўцы-гісторыкі, актывісты яўрэйскага руху, пісьменнікі і публіцысты.

А скончыць гэты няпоўны расказ пра дні памяці хочацца інфармацыяй аб тым, што на ўрачыстым пасяджэнні ў Рускім тэатры прэзідэнт яўрэйскіх арганізацый і абшчын Беларусі архітэктар Л. Левін прадставіў праект мемарыяла, распрацаванага разам з А. Градавым. Ён павінен увекавечыць памяць аб вязнях Мінскага гета.

**В. Т.**

## Над Ямай

Галовы схілім
Над жахлівай Ямай.
Яна нямая,
Бо не мае дна.
Ахвяраў наглыталася яна.
Суцішымся над ямай,
Прагнай самай.

Палеглі тут
Праправнукі Майсея,
Вясёлыя і сумныя ў жыцці,
Каб травамі журботнымі
ўзысці,
Пакуль зямля лысее ды лясее.

Аблокі думак
Счэзлі ў змоўклай Яме,
І шлях з Егіпту
Абарваўся тут.
Іскрынкі веры на адчаю трут
Красаліся ў апошняе праяве.

А Неўміручасць крэсіва
трымала
І неба жалю
Хмурыла чало,
Каб ветах Запавету
Ліў святло
У сямісвечнік смутна і трывала.

...Ці прамянём сягай,
Ці ледзьве кламай —
Адно ў Краіну Ценяў
Прыйдзеш ты...

Па радасці і па бядзе браты,
Мы ўсе стаім
Над апраметнай ямай..

**Рыгор БАРАДУЛІН.**
1 сакавіка 1992 г.

# КІТАЙЦЫ ДАПАМОГУЦЬ...

## Нататкі не-эканаміста

Не вельмі даўно бытаваў у нас такі немудрагелісты анекдот: кітаец пасадзіў бульбу, але на другі дзень пачаў яе выкопваць. «Навошта ты гэта робіш?» — спытаў у яго савецкі турыст, які надарыўся тут на той час. «Не магу здаць,— адказаў кітаец,—оцэнь кусаць хоцца».

Анекдот гэты ўспомніўся мне падчас выступлення па Беларускім радыё нашага паважанага прэм'ер - міністра Вячаслава Францавіча Кебіча, у якім ён не мог нахваліцца ўсім бачаным у час сваёй нядаўняй паездкі ў Кітай. Пра Кітай апошнім часам шмат пішуць, народ гэтай яшчэ ўчора адсталай, жабрацкай камуністычнай краіны дамогся значных зрухаў літаральна ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі. Спрацавалі эканамічныя рэформы — стварэнне свабодных эканамічных зон, замежныя інвестыцыі, рыначныя адносіны, раздзяржаўленне таго ж гандлю і, відаць, самае галоўнае — разняволенне сялян, некалі арганізаваных у камуны, скасаванне тых камун, увядзенне прыватнай уласнасці на зямлю.

Калі я ўжо ўзбіўся на кітайскую «тэму», дык дазволю сабе яшчэ і нагадаць стары кітайскі праклён: «Каб ты заўсёды жыў пры пераменах». Адным словам, у час няпэўны, неакрэслены, цяжкі. Не ведаю, як гэты праклён гучыць сёння ў вуснах кітайцаў — яны ўсё-такі ўбачылі святло ў канцы тунеля, але для нас ён у самы раз. І не толькі цяпер. Уся наша савецкая гісторыя — бесперапынны ланцуг рэформ, рэарганізацый, пераўтварэнняў, перайменаванняў і да т.п. Ды каэфіцыент іх карыснага дзеяння — як у таго паравоза, што імчаў нас у камуну, але не даімчаў, бо ўся пара ў яго, як заўважыў адзін дасціпны сатырык, пайшла ў свісток...

Прахожы, у якога я спытаў, дзе знаходзіцца аптова-рознічны садавіна-гароднінны камбінат Заводскага раёна, з усмешкай адказаў: «Дык жа вы каля яго і стаіце». Сапраўды, на доме вісеў указальнік з адрасам, які я шукаў, але шыльда сцвярджала, што тут месціцца «Саўгас-аграфірма «Мінскі». Потым я даведаюся, што шыльда гэтая вісіць тут яшчэ з часоў даўно скасаванага Міністэрства садавіна-гароднiннай гаспадаркі.

Міністэрства тое ўзначальваў Мікалай Сцяфанавіч Якушаў, з якім мне давялося аднойчы доўга гутарыць. Гутарка гэтая неўзабаве пабачыла свет на старонках «ЛіМа» і сталася прычынай, як мне неўзабаве пазваніў па тэлефоне міністр, вельмі непрыемнай для яго гаворкі ў ЦК КПБ. Аказалася, што лімаўскую гутарку з ім перадала радыёстанцыя «Свабода», ды яшчэ з не вельмі, мякка кажучы, прыязным каментарыем, прысвечаным парадкам у нашай эканоміцы. Я пацікавіўся ў Якушава, ці чуў ён сам тую злашчасную перадачу? Міністр са злосцю адказаў, што варожыя радыёгаласы ён не слухае, а гэты матэрыял запісала служба радыёперахопу і накіравала той запіс у ЦК. «Але ж мы з вамі сказалі ў гутарцы праўду»,— працягваў я сыпаць яму соль на раны. «Праўду то праўду,— адказаў ён крыху супакоіўшыся,— ды бачыш, хто ёю пакарыстаўся, каб зрабіць мне ўтык». Я так і не зразумеў, каго ён меў на ўвазе — «Свабоду» ці ЦК...

Помню, рыхтуючыся да сустрэчы з Якушавым, я пабыў у некаторых аграфірмах, магазінах, якія былі ім перададзены, і прыйшоў да высновы, што і пры новым міністэрстве горад, спажывец па-ранейшаму гароднінай не забяспечаны — асартымент яе ў магазінах надзвычай бедны, якасць дрэнная, у той час як на рынку той жа яблык, памідор, агурок, ягады — адна любата. І цана не вышэйшая за дзяржаўную...

Самая апошняя генерацыя структурных новаўвядзенняў, звязаных з вітамінным забеспячэннем нашага рацыёна, — аптова-рознічныя садавіна- гароднінныя камбінаты (пакуль вымавіш, дык язык зламаеш), якія купляюць гародніну ў вытворцаў (калгасаў і саўгасаў) і прадаюць яе праз свае магазіны. У Мінску такіх камбінатаў — дзевяць, па адным на кожны гарадскі раён.

Ішоў я сюды з адной мэтай — высветліць, як атрымалася, што гародніна — традыцыйна ў нас танны прадукт—узрасла ў цане ў 20 — 30 разоў. Магазінная цана той жа бульбы, якую на Беларусі здаўна ахрысцілі другім хлебам, сёння падскочыла да 2 рублёў 71 капейкі за кілаграм. Так, так, чую падказку — лібералізацыя цэн! Але ж яна, па ідэі, заклікана выяўляць сапраўдны кошт тавара, у тым ліку і затраты на яго выраб вытворцы. Нядаўна я пабыў у калгасах «Беларусь» і імя Калініна Мінскага раёна. Мінулай восенню яны прадалі нарыхтоўшчыкам, тым самым мінскім аптова-рознічным камбінатам, бульбу па цане 800 — 850 рублёў за тону. Калгас імя Калініна, напрыклад, прадаў 588 тон бульбы на суму 471 тысяча рублёў (па 80 капеек за кілаграм). У сярэднім па Мінскім раёне, як мне пацвердзілі ў раённым упраўленні сельскай гаспадаркі і харчавання, нарыхтоўчая цана бульбы склала 81 капейку за кілаграм. Прадаюць жа бульбу ў мінскіх магазінах амаль

(Працяг на стар. 14).

# З пошты «ЛіМа»

## Так мяне перапісвалі

У сваёй нататцы хачу падзяліцца ўспамінам пра тое, як праводзіўся ў 1979 годзе перапіс насельніцтва адносна пытання аб роднай мове. Перапіс па гэтым пытанні не быў усеагульным. Толькі некаторым пашанцавала адказаць, якую мову яны лічаць роднай. Зразумела, справа зусім не ў тым, як пытанні ставіліся. Мы самі за ўсё павінны несці адказнасць, але і падштурхоўвалі да расейшчыны нас вельмі ўжо спрытна.

У артыкуле «Брэйк-даўн» па-беларуску?» («ЛіМ» № 4, 1992 г.) С. Польскі прывёў цікавыя статыстычныя дадзеныя аб тым, якая частка беларусаў за межамі Беларусі лічыць сваёй роднай мовай беларускую. У сувязі з гэтымі сумнымі лічбамі (па Смаленскай вобласці — менш за палавіну) узгадалася пра перапіс насельніцтва 1979 года. Можа, аб гэтай падзеі і не засталося ўспамінаў, калі б не тое пытанне аб роднай мове.

Маладая, ветлівая, спрактыкаваная ў сваёй справе жанчына, хуценька запісаўшы дадзеныя жыхароў кватэры, дадала, што я трапіў пад пашыраны перапіс, якому падлягаў нейкі працэнт насельніцтва. Вось тут сярод іншых пытанняў прагучала: «Родной язык, конечно, русский?» Нельга сказаць, што ў той час я з поўнай свядомасцю адстойваў сваю беларускасць, але ад таго, што мая родная мова беларуская, не адракаўся ні ў якай анкеце. Да таго ж і сама форма напаўпытання з закладзеным адказам насцярожыла. Адказваю: «Нет. Родной язык — белорусский». На здзіўленне быў зроблены яшчэ адзін захад: «Но вы давно живете в Смоленске, хорошо говорите по-русски...» Толькі пасля другога майго пацвярджэння ў слупок «родной язык» было ўпісана — «белорусский». Не ведаю, ці былі такія пытанні падрыхтаваны загадзя. Прымусу не было, фальсіфікацыі таксама і вынікі перапісу можна лічыць аб'ектыўнымі. Але ж ці быў гэты факт адзіным? Ці не знойдуцца пры наступным перапісе зноў дарадчыкі далучацца да «великого и могучего»?

**Міхась МАХНАЧ.**

г. Смаленск.

## Дыягназ — слановая хвароба

**Бясспрэчна, Расія — гігант. Для мяне няма сумневу, што рускія неўзабаве падымуцца, каб дагледзець сваю заняпалую за больш чым паўвека культуру. Само сабой, і каб пракарміцца — нельга назваць культурным народ, няздольны забяспечыць сабе пракорм. Я ўпэўнены ў адраджэнні рускіх як народа. Нацыя, якая столькі гадоў упітвала інтэлект лепшых сіл другіх народаў, не можа загінуць.**

**Від** homo sovetikus **значна губляе ў колькасці, бо ўсё больш людзей вяртаецца да гістарычных каранёў, але на змену яму прыходзіць** homo imperialis.

**Сустракаю нядаўна аднаго. Нібыта дэмакрат, амаль з самага заснавання быў сябрам Народнага фронту. Потым не прайшоў на выбарах і нібы ў ваду кануў. «Як, — кажу, — жывеш, з чаго жывеш, ці там працуеш, дзе раней, ці перайшоў куды?» «Давно, — адказвае, — перешел. Я теперь консул России в Бресте». Праз хвіліну, апрытомнеўшы, пытаю: «Што, і афіцыйныя паперы ёсць?» «Есть», — адказвае. «А намеры якія? Кантраляваць тэрыторыю?» — «Нет, только на равных».**

**З тым і разышліся. Але ніякавата было на душы. Палітсэрфінг якісьці.**

**А на ніве культуры наогул дзівосы. Заснаваў Берасцейскі фонд культуры газету «Брестский курьер». Прынясеш верш альбо артыкул на беларускай мове — атрымліваеш поўны адлуп. Рэдактар Аляксандраў кажа, што ў друкарні няма магчымасцей. Няпраўда гэта, бо ў той самай друкарні для абласной «Зари» часам друкуецца «газета ў газеце» на беларускай мове.**

**От гэта і ёсць слановая хвароба. З сваімі янычарамі мы ўжо як-небудзь дамовіліся б, а да рускіх, знайшоўшых прытулак на гэтай таптанай-ператаптанай верхаводамі зямлі, у мяне агромністая просьба: не дайце сабе захварэць на слановую хваробу. Цяпер анічога не вырашыш сілай, і толькі ў адным выпадку падзеі будуць развівацца ў лепшы бок для ўсіх — калі мы будзем талерантнымі. Ёсць здаровы сэнс, які падказвае, што калі ты не саступіш і захочаш «выраўняць сортнасць» з тымі, чые бацькі і дзяды ляжаць у гэтай зямлі, то гэта будзе толькі фармальная праўда, а на самой справе гэта прымус да самазабойства малога народа. Гвалтоўная пагібель у сябе дома. Слон, не раздушы мурашку! Альбо біблейскімі словамі: не зрабі другому так, як ты не хочаш, каб зрабілі табе.**

**Але ж я не стамляюся казаць, што рускі народ вялікі, шырокай душы. Значыць, была і ёсць надзея на тое, што хвароба адступіць.**

**Я. БЯЛАСІН.**

г. Брэст.

## Паэт і вуліца

Шматпакутная вуліца Мінска пяты раз атрымала новую назву — імя Максіма Багдановіча. Дагэтуль яна называлася паслядоўна Віленскай, Траецкай, Аляксандраўскай, Камунальнай, М. Горкага. Сёння — Максіма Багдановіча. Я вельмі люблю і паважаю паэта, аднак лічу, што трэба як менш называць вуліцы, праспекты, завулкі, плошчы асабовымі імёнамі, у тым ліку пісьменнікаў, паэтаў. Паглядзіце на карту Мінска — колькі назваў вуліц у гонар паэтаў і пісьменнікаў, а некаторыя з іх ніколі не былі ў гэтым горадзе і жыццё іх не звязана нават з Беларуссю.

Назва вуліцы павінна арыентаваць нас у напрамку, накшталт Вакзальная, Аэрапортная, Лагойскі тракт, Слуцкая шаша... Выехаўшы з Мінскай вуліцы г. Чэрвеня, патрапіш на Чэрвеньскі (вул. Маякоўскага) тракт у Мінску. Я не буду затрымліваць увагу на іншых нюансах — мілагучнасці, шматслоўнасці (імя газеты «Правда», імя I з'езда РСДРП), многалітарнасці (Інтэрнацыянальная, ці можа выгаварыць малое дзіця?), загадкавасці для прыезджых — такія назвы, як Караля, Цёткі, Бяды...

Ну а як жа ўшанаваць вялікага паэта? Канешне, папулярызацыяй яго твораў, выданнем іх, стварэннем яго музея, пакоя. Лагічна надаць імя паэта, пісьменніка бібліятэцы.

У нашым горадзе на многіх дамах вісяць мемарыяльныя дошкі, апавяшчаючы аб тым, што тут жыў паэт, пісьменнік, другія дзеячы. На фасадзе аднаго з дамоў па вул. К. Маркса прымацавана ажно сем мемарыяльных дошак. Не дом, а пантэон!

А вось дом, пабудаваны Я. Коласам, гэта сапраўды «Дом Якуба Коласа».

Увогуле лічу, што калі, напрыклад, паліграфічны камбінат носіць імя Якуба Коласа, то калектыў гэтага прадпрыемства павінен шэфстваваць над магілай паэта, яго музеем, помнікам, мемарыяльнай дошкай. Гэта значыць, трымаць іх у чыстаце, у адпаведныя дні ўскладаць кветкі, арганізоўваць мерапрыемствы, мець музейны пакой на камбінаце. А бібліятэка імя Талстога па логіцы павінна атрымліваць для сваіх патрэб частку прыбытку ад выдання твораў гэтага пісьменніка.

Хочацца асобна выказаць думку пра ўшаноўванне рэпрэсіраваных літаратурных дзеячаў. Пры выданні іх кніг на вокладцы мог бы быць адзіны для ўсіх сімвал — запаленая свечка, ці яшчэ нешта...

Пры выданні твораў, за якія аўтары атрымалі прэміі, — сілуэты лаўрэацкіх знакаў, год прысваення звання.

Відавочна, павінен быць прыняты закон аб найменаванні і перайменаванні вуліц, плошчаў і да т. п. А закон многае дае і многае патрабуе, у тым ліку і ад той арганізацыі (юрыдычнай асобы), якая выносіла прапанову аб найменаванні.

**А. АНЦІПОВІЧ.**

г. Мінск.

## «Дзякуй» ці «дзякую»?

**Мне здаецца, што я добра ведаю беларускую мову, бо нарадзіўся і пражыў жыццё ў вёсцы на Случчыне. А мова Случчыны і Прынямоння ўзята за ўзор літаратурнай мовы. І бывае крыўдна, калі бачу і чую наўмысны ці ненаўмысны перакрут яе, роднай...**

**Вось, скажам, у руска-беларускім слоўніку пад рэдакцыяй К. Крапівы чытаем: «Спасибо» — «Дзякуй». Прытым слова «дзякуй» залічана ў назоўнікі. Чаму ж так?**

**Рускае «спасибо», г. зн. «СПАСИ БОГ», правільна мусіць перакладаецца «РАТУЙ БОЖА», «ЗАСЦЕРАЖЫ БОЖА». Назоўнікі з адпаведным коранем — «ПАДЗЯКА», «УДЗЯЧНАСЦЬ». Але ж «падзяка» адпавядае рускаму «БЛАГОДАРНОСТЬ», а «дзякуй» — загадны лад ад дзеяслова «ДЗЯКАВАЦЬ» (па-руску — «благодарить»). Адсюль лагічна перакласці: «дзякуй» — «благодари». Тым самым відавочна, што выразы «вялікі дзякуй» або «вялізны дзякуй» — неправамерныя. Лепш перакласці так: «большое спасибо» — «шчыра дзякую», «шчыра дзякуем», хоць пры адваротным перакладзе і атрымліваецца «сердечно благодарю», «искренне благодарен».**

**Чамусьці згаданая мною недарэчнасць прысутнічае і ў радыёперадачы «Жывое слова», хоць і вядзе яе аўтарытэтны пісьменнік Уладзімір Юрэвіч.**

**У. АЛЯШКЕВІЧ,**
**настаўнік-пенсіянер.**

## «Габрэі зь Сырыі», альбо Звычайнае самаўпраўства

Зайшоў да мяне пляменнік з нейкім часопісам у руках і прачытаў:

— Кампазытар габрэй і гэнэрал зь Сырыі прыехалі.

— Што за габрэі? — не зразумела я.

— Яўрэй з Сірыі, — растлумачыў пляменнік і працягваў чытаць. — Прывёў да іх вучня пятай клясы ў лябараторыю, дзе на глёбусе плян узбэцкай краіны...

Прачытаў, засмяяўся, сказаў:

— Далей слухай. Да Йгната брата Йсакі мэтар... Я ня буду ў клюбе ў пэрыяд, хоць там бразыльская фільма.

Я ўзяла ў пляменніка той часопіс, разгарнула і здзівілася — «Бярозка», часопіс для беларускіх школьнікаў! І сапраўды, усе гэтыя **габрэі, клясы, Сырыі** — у тэкстах на яго старонках. І там жа рэдакцыйная прадмова, дзе тлумачыцца, што з гэтага нумара рэдакцыя перайшла на граматыку Б. Тарашкевіча і з дапамогай Вінцука Вячоркі будзе выпускаць часопіс па даўняму правапісу.

Такое самаўпраўства рэдакцыі мяне здзівіла. Ну яшчэ куды ні ішло — пісаць мяккі знак перад мяккім зычным—**сьнег, сьмех,** хоць такія словы беларусы вымаўляюць і чытаюць і без напісанага мяккага знаку мякка. Да таго ж (яшчэ даўно моваведы падлічылі) і стратны эканамічны бок для паліграфіі, калі будзе ўведзены гэты знак — памер друкаванага аркуша значна павялічыцца.

Ну, а ці патрэбна пісаць **зь імі, бязь іх, ня быў, бяз волі!** Няўжо і цяпер пачнём ужываць Ї скарочанае, як, напрыклад, **на Йсая, на Йвана!**

І хацела б спытаць у шаноўных рэдактараў часопіса В. Адамчыка і В. Вячоркі, дзе, у якіх месцах Беларусі яны чулі, каб людзі гаварылі **Сырыя, габрэі, мэтар, пэрыяд, гэнэрал, Казаскі, плян, лёгіка, кляса!** Няўжо яны вераць, што, чытаючы «Бярозку», людзі пачнуць так гаварыць і пісаць?

Мова змяняецца, адно ў ёй аджывае, другое з'яўляецца. Сам Тарашкевіч, я ўпэўнена, цяпер бы не настойваў на ўсіх правілах сваёй граматыкі. Ён пісаў некалі, што правапіс — гэта сталы моўны закон і яго «не трэба змяняць індывідуальна-партызанскім спосабам». А вось «Бярозка» такім партызанскім спосабам і змяніла яго.

Трэба адзначыць, што і сама рэдакцыя «Бярозкі» лічыць, што не ўсе правілы граматыкі адновяцца ў сучасных умовах, «некаторыя зь іх здаюцца спрэчнымі й нам» (рэдакцыі). Дык навошта ж прапагандаваць гэтыя спрэчныя архаічныя правілы і тлуміць галаву чытачам?

Рэдакцыя «Бярозкі» назвала ўнармаванне мовы ўрадавым дэкрэтам адзнакай таталітарнай дзяржавы, маўляў, такога не было і не магло быць у вольным грамадстве. У рэдакцыі, відаць, кепска ведаюць заканадаўства краін з вольным грамадствам. У гэтых краінах існуюць строгія законы аб мове, там іменна дзяржава стаіць на ахове сваёй мовы. Ну хоць бы ўзяць Францыю, дзе існуе спецыяльны ўрадавы камітэт, які строга сочыць за чысцінёй французскай мовы. І калі, напрыклад, нейкае выданне без патрэбы ўжыве чужаземнае слова ці свядома пачне парушаць правапіс, то падлягае вялікаму штрафу.

Шкада, што ў нас няма такога закона і кантрольнага моўнага органа. Кепска б прыйшлося тады рэдакцыі «Бярозкі»!

Уявім цяпер, як быць школьніку, чытачу «Бярозкі», які вучыцца па правапісе цяперашнім, нікім не адмененым і не змененым? Як пісаць майму пляменніку — па-бярозкаўскаму правапісу ці ўсё ж карыстацца дзеючым? Я лічу, што правільна зрабіла настаўніца беларускай мовы, дзе вучыцца мой пляменнік, калі параіла вучням не чытаць пакуль што «Бярозку». Гэтак жа параіла і я сваім пляменнікам ды і суседзям.

Заадно хачу і яшчэ зрабіць папрок часопісу — вельмі ўжо многа на яго старонках паланізмаў. Відаць, і на «Бярозку» распаўсюдзіў свой стыль шаноўны рэдактар...

Далей, калі чытаеш у «Бярозцы» старонкі пра рэлігію, то здаецца, што заснавальнікам часопіса з'яўляецца нейкая каталіцкая ўстанова. Усе рэлігійныя гісторыі, тлумачэнні пададзены па-каталіцку. Нават у календары рэлігійных свят значацца толькі каталіцкія. Але ж чытачоў праваслаўных больш за каталікаў.

Цікава, хто з'яўляецца заснавальнікам «Бярозкі» і як ён, ды і члены рэдкалегіі адносяцца да моўнага самаўпраўства і да іншых дзівосаў рэдакцыі?

**Валянціна ЧАРНЯЎСКАЯ.**

## Як пачуваецеся, спадары артысты?

**Неяк у студзені па Беларускім тэлебачанні мы глядзелі перадачу «Сустрэча для вас»,якую вёў журналіст Аляксандр Радуцкі. У перадачы прымалі ўдзел заслужаныя і народныя артысты рэспублікі Беларусь Я. Глебаў, Б. Райскі, Т. Раеўская, Т. Пячынская. Здавалася, што гэта перадача ідзе не ў Беларусі, а дзесьці ў расейскай глыбінцы. Нам было сорамна і крыўдна за ўдзельнікаў перадачы. Ну як гэта так, каб людзі пражылі амаль усё жыццё ў Беларусі, атрымалі тут ганаровыя званні, а не ведалі беларускай мовы? Так і хочацца ў іх спытаць: дзе ж ваша нацыянальная самасвядомасць, дзе ж ваш нацыянальны гонар, спадары народныя і заслужаныя артысты рэспублікі Беларусь? Які ж прыклад вы паказваеце беларускаму люду ў адраджэнні роднай мовы, культуры?**

**А вядучы спадар Радуцкі, які, дарэчы, вёў і перадачу «Ало, ёсць пытанне» і таксама на рускай мове? Яму проста час выконваць закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы.**

**А яшчэ нам хочацца адзначыць такі прыемны факт. Доўгі час па беларускім радыё ішла перадача «Для веруючых і няверуючых» на рускай мове. Яе вёў журналіст Юрый Ермалюк. І вось у студзені мы былі прыемна здзіўлены, калі пачулі, што спадар Ермалюк праводзіў гэтую перадачу на беларускай мове. Мы яму за гэта ўдзячны. Жадаем поспехаў.**

**В. КУЙКО, А.КОРБАН,**
**ветэраны працы.**

г. Віцебск.

## Затое ёсць помнікі...

У нагу з часам ідзе «дэмакратычны» гомельскі гарсавет. Да 850-годдзя горада з мэтай выхавання нацыянальнай свядомасці і павышэння культурнага ўзроўню гамяльчан у горадзе мяркуецца адкрыццё помнікаў... Чайкоўскаму і Астроўскаму. На маю заўвагу, што Гомель — беларускі горад, і на пытанне, ці прадугледжана ўстаноўка помнікаў дзеячам нацыянальнай культуры, атрымаў адказ: «Так, графу П. Румянцаву і воінам-інтэрнацыяналістам».

Магчыма, такое стаўленне «бацькоў горада» да культуры беларусаў — адна з прычын таго, што адзін час у Гомелі праводзілася кампанія па зборы подпісаў з патрабаваннем пераходу горада пад юрысдыкцыю Расіі.

Дарэчы, у Гомелі няма ніводнага помніка дзеячам нацыянальнай культуры. Затое ёсць помнік Леніну, Дзяржынскаму, Хмяльніцкаму.

**А. СУВАЛАЎ,**
**студэнт ГДУ імя Ф. Скарыны.**

**АДДЗЕЛ ПІСЬМАЎ І ГРАМАДСКАЙ ДУМКІ.**

**Дзе жыве нацыя! Найперш — у духоўным космасе, з якога розныя пакаленні набіраюцца ведаў і рашаюцца на новае Адраджэнне.**

**Сёння мы прывыкаем да слоўца «менталітэт», яно актыўна ўжываецца, але — ці не з-за таго — само паняцце застаецца нераскрытым. Зрэшты, да пэўных фармулёвак у галіне духоўнасці імкнуцца, відаць, не варта і нават шкодна, бо шмат у гэтай тэасафічнай сферы святога і свяшчэннага. Але агульныя пачуцці, псіхалагізм народнай супольнасці варта і патрэбна выказваць, абмяркоўваць, бо толькі такім чынам духоўны космас, у якім жыве нацыя, становіцца нам бліжэйшым і больш спагадлівым да нашых вымогаў.**

**Археолаг і даследчык духоўнай культуры Эдвард ЗАЙКОЎСКІ лічыць, што асновы беларускага менталітэту закладзены ў часы паганскае гісторыі, і тэма паганства набывае сёння актуальнае гучанне, бо без разумення першапачатку духоўнай гісторыі народа нельга паспяхова адраджаць і развіваць культуру далей.**

**Гутарыць з вучоным наш карэспандэнт Юрась ЗАЛОСКА.**

ПУЦЯВІНЫ АДРАДЖЭННЯ

# СПАСЦІГНУЦЬ КОСМАС, У ЯКІМ ЖЫВЕ НАЦЫЯ



**— Эдвард, чым выклікана ваша надзвычайная зацікаўленасць тэмаю паганства?**

— Займаючыся даволі працяглы час археалогіяй, я паступова прыйшоў да думкі, што звядзенне ўсяго жыцця нашых продкаў толькі да вытворчай дзейнасці, да здабывання ежы вядзе да «прыніжэння» нашае гісторыі. Канцэнтруючы ўвагу толькі на тым, як расколваўся крэмень, кавалася жалеза ці ляпілася пасудзіна, даследчыкі ў большасці выпадкаў пакідалі ўбаку пытанні ўнутранага свету чалавека, яго светапогляд, звычаі, эстэтычныя ідэалы. А духоўная культура ва ўсе эпохі з'яўлялася неабходнай складовай часткай жыцця чалавецтва.

Найбольш устойлівыя этнавызначальныя прыкметы адносяцца не да сферы вытворчасці, а — да асаблівасцяў мовы, самасвядомасці, рэлігіі, арнаменту, пахавальнага абраду і іншых галін духоўнае культуры. Таму вывучэнне старажытнай духоўнай культуры як з'явы дастаткова кансерватыўнай, уплыў змен у гаспадарцы, на якую апасродкаваны і адбываецца не адразу, можа ў значнай ступені паслужыць ключом да высвятлення складаных пытанняў этнагенезу і этнічнае гісторыі беларусаў.

Варта прызнаць, што паганская (язычніцкая) рэлігія і міфалогія, першабытнае мастацтва, якое ў моцнай ступені мела магічна - сакралізаваны характар, а таксама звязаныя з імі культавыя помнікі і абрады з'яўляюцца аднымі са старажытнейшых праяў творчага духу чалавека. Старажытная духоўная культура — гэта сукупнасць ведаў нашых продкаў пра акаляючы свет, прасторавы і сацыяльны космас, рэлігійны пантэон і дэманалогію, эстэтычныя ідэалы і этычныя нормы. Рэканструкцыя ўсяго гэтага — неабходная ўмова для разумення этнагенетычных працэсаў і каранёў беларускага менталітэту, псіхалагічных перадумоў фармавання нацыі.

**— Выбачайце, але такое даследаванне падаецца надта ўжо «акадэмічным», адарваным ад надзённых патрэб...**

— На маю думку, здзіўляючыя поспехі Японіі ў сваім развіцці за апошнія дзесяцігоддзі ў значнай ступені абумоўлены максімальным выкарыстаннем нацыянальных традыцый, «унутраных струн» японскага характару. Для таго выкарыстання патрэбна было адпаведнае веданне свае духоўнае гісторыі.

Варта ўлічыць, што ва ўмовах сучаснай няўмольнай аўтаматызацыі жыцця, якое ўсё больш адрываецца ад сваіх вытокаў, у розных мясцінах Еўропы ўзнікла настальгічная туга па мінулым з яго сапраўднай ці ўяўнай гармоніяй, з імкненнем да пошуку гістарычных каранёў, да вяртання страчанага ў розныя часы, усведамлення віны за гібель спракаветнага духоўнага космасу. Асобныя аўтары плённасць гэтых пошукаў звязваюць з псіхатэрапеўтычным эфектам, які дапамог бы чалавеку ці супольнасці займець духоўную цэласнасць, пазбавіцца «расколатасці свядомасці».

**— Вырашыць тую праблему, якую так і не адолеў псіхааналіз?**

— Бадай што так. Шматаспектныя даследаванні духоўнай гісторыі толькі распачынаюцца, нават няма тэрміну для назову даследчыкаў. Але якія крыніцы, якія матэрыялы ў нас!

Дарэчы, пачынаючы займацца вывучэннем старажытнабеларускага паганства, я зважаў і на рост аналагічных даследаванняў у Польшчы, на Украіне, у балтыйскіх суседзяў. Шэраг выдадзеных прац па «агульнаславянскім» паганстве падаліся мне надта эклектычнымі і павярхоўнымі, напісанымі з пазіцый «старэйшага брата».

Беларускі ж фальклор (нават калі ўлічваць толькі апублікаваныя крыніцы) —адзін з самых багатых у Еўропе. Калі гэтыя матэрыялы выкарыстаць разам з назапашанымі археалагічнымі звесткамі, а таксама прыцягнуць дадзеныя этнаграфіі, мовазнаўства, старажытных пісьмовых крыніц, параўнаць іх з міфалагічнымі сістэмамі іншых індаеўрапейскіх народаў, дык можна рэканструяваць тое, што складала сутнасць духоўнага жыцця старажытных насельнікаў Беларусі да прыняцця хрысціянства.

На Беларусі захавалася даволі шмат археалагічных помнікаў, звязаных з паганскімі культамі: свяцілішчаў, камянёў, крыніц, свяшчэнных узгоркаў, палеастранамічных аб'ектаў, месцаў знаходжання ідалаў. Нягледзячы на тысячагадовае панаванне хрысціянства, многім з гэтых помнікаў насельніцтва працягвае пакланяцца, прыносіць ахвяраванні. Здзівіла, напрыклад, як падчас даследавання Дажбогава каменя каля Лагойска мясцовыя бабулькі прыходзілі на раскопкі і, не саромеючыся старонніх, клалі на камень манеты і кветкі. Пад Менскам, ідучы па слядах маляўнічага падання аб прыгажуні-дзяўчыне і загінуўшых у змаганні за яе любоў хлопцах, пашанцавала выявіць цікавы помнік, звязаны з дахрысціянскім культам — Дзявочую гару. Распаўсюджаны ў нас і валуны-следавікі. Усё гэта — знакі тае старажытнае духоўнасці.

**— Ці можна лічыць паганства вызначальным чыннікам у станаўленні беларускага менталітэту?**

— З аднаго боку, багаты беларускі фальклор — паганскі ў сваёй аснове, а некаторыя яго жанры прама адлюстроўваюць дахрысціянскую міфалогію. Хрысціянскія сюжэты ў фальклоры складаюць адносную меншасць. З другога боку, прайшла тысяча гадоў, як на Беларусі афіцыйна прынята хрысціянства. Але яго гістарычны шлях быў тут своеасаблівы. Пэўны час старажытным беларусам давялося суіснаваць у адной дзяржаве з этнічнымі літоўцамі (ранняе Вялікае княства Літоўскае), хрысціянізацыя якіх адбылася толькі ў 1387 годзе. Значыць, да Крэўскай уніі дапускаўся некаторы плюралізм у рэлігійным жыцці. Згодна «Жыццю віленскіх пакутнікаў» святыя Іаан, Антоній і Яўстафій, што загінулі ў часы князя Альгерда, мелі да хрышчэння славянскія імёны — Кумец, Круглец і Няжыла. Слушна меркаваць, што і пасля «абславяньвання» частка ліцьвінаў працягвала заставацца язычнікамі. Болей таго: і пасля, да Рэфармацыі, хрысціянізацыя нашых продкаў была павярхоўнай, можна сказаць, фармальнай. Гэта акалічнасць выклікала крытычную ўвагу пратэстанцкіх прапаведнікаў, якім было выгадна абвінавачваць сваіх апанентаў у захаванні пераж ыткаў паганства, што ў сваю чаргу актывізавала дзейнасць каталіцкіх і праваслаўных святароў па больш глыбокім пранікненні ў жыццё вернікаў.

Рэлігійная барацьба за ўплыў на беларусаў і пазней своеасаблівым чынам уплывала на народ, выпрацоўваючы ў ім некаторую індыферэнтнасць да афіцыйнай царквы і спрыяючы захаванню народнай формы рэлігійнасці, дзе значнае месца займалі традыцыі паганства. Фальклярысты сведчаць, што светаўспрыманне беларусаў у аснове сваёй засталося дахрысціянскім — язычніцкім. Характарызуючы багацце міфалагічных паданняў і песняў, змест якіх прыйшоў з часоў паганства, даследчыкі мінулага стагоддзя адзначалі, што сюды ж трэба аднесці і «абрадавыя звычаі, якія тояць у сабе шмат ніцяў, што звязваюць сучаснасць з даўнейшым мінулым». Адам Багдановіч падкрэсліваў абагаўленне беларускімі сялянамі прыроды (пантэізм), іх веру ў персанажы дахрысціянскае міфалогіі. Невыпадкова нават князі-хрысціяне дзяржаўным сімвалам Беларусі зрабілі Пагоню, правобразам якой з'яўляецца бог-вершнік Ярыла. Бел-чырвона-белы колер сцяга вядзе паходжанне ад славянскай, а глыбей — ад індаеўрапейскай колеравай сімволікі.

**— Чакайце, пра судакрананне паганства і хрысціянства пагаворым трохі пазней, а цяпер хацелася б даведацца пра асаблівасці нашае паганскае гісторыі.**

— Кранаючы гэты перыяд, найперш трэба ведаць, што апошнія яго стагоддзі былі часам засялення славянамі Беларусі. Да таго часу нашу тэрыторыю займалі балцкія плямёны. Асаблівасці беларускай народнасці былі абумоўлены асіміляцыяй балтаў славянамі. На месцы ядра будучай Расіі славяне сутыкнуліся з фіна-units, на Украіне—з фракійскімі, цюркскімі ды іранамоўнымі групамі. Уплыў гэтых субстратаў значна абумовіў асаблівасці будучых беларускай, украінскай і расейскай народнасцяў.

Пры славянізацыі балтаў захоўваліся многія іх асаблівасці ў матэрыяльнай культуры (прыёмы домабудаўніцтва, прылады земляробства, промыслаў, адзенне), мове, міфалогіі, фальклоры, народным мастацтве, а таксама ў фізічным тыпе. Адзінага ўсходнеславянскага паганства, гэтаксама як і старажытнарускай народнасці, ніколі не было. Існавала некалькі агульных багоў, але такія ж па функцыях і блізкія па назве вядомыя і ў балтаў (Пяркунас, Велс). Што да іншых персанажаў пантэона, дык яны ў славянаў адрозніваліся. У той час, як у кіеўскіх палян вярхоўным богам быў Пярун, уладар грому, апякун вайсковай справы, на беларускіх землях галоўнае значэнне надавалі Вялесу, богу жывёлагадоўлі, багацця, уладару царства мёртвых і апекуну святароў — валхвоў. У адрозненне ад Кіева, дзе пануючым саслоўем былі воіны, у крывічоў больш шанаваліся святары.

Беларуская і балцкая міфалогіі надзвычай блізкія, блізкія касмаганічныя паданні, некаторыя культы (ушанаванне змей, камянёў і інш.). Сярэднявечныя аўтары паведамляюць, што да прыняцця хрысціянства ўсходнія славяне (найперш, вядома, з абшараў Беларусі) хадзілі на Жмудзь пакланяцца тамтэйшым багам. Ёсць падставы меркаваць, што Вільня ўзнікла менавіта як паганскі культавы цэнтр славянаў і балтаў. Дасюль археолагі і мовазнаўцы спрачаюцца, які з гэтых двух элементаў першапачаткова пераважаў у племені крывічоў, назоў якіх збліжаюць з найменнем вярхоўнага літоўскага святара Крыве. Паганскі перыяд гісторыі аказаўся больш працяглым на паўночным захадзе Беларусі.

Узнікшыя ў паганскія часы адрозненні паміж этнасамі прасочваюцца і ў пазнейшых фальклорна - этнаграфічных матэрыялах. Напрыклад, валачобныя песні распаўсюджаны толькі ў беларусаў і звязаны яны са святам Вялікдзень, якое ў старажытнасці было прысвечана Вялесу. Штосьці падобнае ёсць толькі ў сербаў.

**— А цяпер пагаворым пра суадносіны паганства і хрысціянства. Апошнім часам друкуецца багата рэлігійных і «народных» календароў, і можна пачуць супярэчлівыя сцвярджэнні наконт узаемаўплываў паганскае традыцыі і хрысціянства.**

— Будзе, бадай, бясспрэчным тое, што рэзкага выцяснення паганскіх вераванняў не было. У летапісах не паведамляецца, каб на нашай зямлі адбывалася штосьці падобнае хрышчэнню «агнём і мячом», як у Ноўгарадзе. У старажытным Полацку князь Усяслаў Чарадзей, які пабудаваў Сафійскі сабор, цярпліва адносіўся да паганства. У Польшчы тагачасны каталіцкі касцёл выкараненне дахрысціянскай культуры праводзіў больш жорсткімі метадамі.

Наколькі сярэднявечных беларускіх сялян можна лічыць хрысціянамі? Вядома, надыходзіў час, калі ў нейкай мясцовасці пасяляўся хрысціянскі святар, які праводзіў акт хрышчэння над сваімі парафіянамі, магчыма, нават будавалася царква, у якую на вялікія святы сыходзіліся жыхары навакольных вёсак. Але ж гэтыя людзі ні Бібліі, ні Катэхізіса не чыталі, пра хрысціянства мелі прыблізнае ўяўленне з казанняў падчас рэдкага наведвання храмаў (не будзем забывацца, што сетка цэркваў была досыць рэдкая), у лепшым выпадку вывучалі некалькі малітваў і дзесяць запаветаў. Спатрэбілася каля трох стагоддзяў, каб знік паганскі абрад насыпання курганоў над памерлымі.

У першую чаргу знікалі знешне прыкметныя абрады і звычаі. Іншыя ці адаптаваліся царквой і такім чынам як бы «нейтралізаваліся» (напрыклад, Вялікдзень, Сёмуха, Каляды, збліжэнне датаў Купалля і дня Іаана Хрысціцеля, падключэнне да ўшанавання ранейшых паганскіх культавых камянёў, крыніц, узгоркаў). Але пранікнуць ва ўсе сферы і куткі паўсядзённага жыцця царква не мела магчымасці. Менавіта гэтым можна тлумачыць захаванне шматлікіх, паганскіх па паходжанні абрадаў, фальклорных твораў, звычаяў. Колішнім паганскім багам і духам надаваліся імёны хрысціянскіх святых. Каталіцкія і асабліва праваслаўныя святары сталі з цягам часу служыць набажэнствы на земляробчых святах.

Глыбокага ўспрымання хрысціянства непісьменнымі сялянамі не магло адбыцца. Упершыню такое сталася з распаўсюджаннем пратэстанцкіх плыняў, калі кожны вернік усвядомлена, «тоесна», трымаўся пастулатаў веры. Што да традыцыйнага хрысціянства, дык глыбіннае яго распаўсюджанне варта аднесці да пачатку развіцця народнай асветы.

Даследчыкамі выяўлена досыць шмат перажыткаў паганства ў хрысціянстве. Ёсць нават падставы думаць, што пасля афіцыйнага прыняцця хрысціянства развіццё паганскай міфалогіі не спынілася, а працягвалася далей. Спецыфіка сялянскай працы вяла да захавання пад хрыціянскай афарбоўкай аграрных культаў і звязанага з імі

(Працяг на стар. 12).



Паганскі камень з выбітым пазней (XII ст.) праваслаўным крыжам (в. Камена) Вілейскага раёна).

Фота з архіва аўтара.

# «ПАЛЕСКІ СМУТАК, АГРОМНІСТЫ СМУТАК...»

**Прэзентацыя новай кнігі М. МЯТЛІЦКАГА**

...І «ўпала» зорка Чарнобыл красавіцкай ноччу на зямлю. Не ўздрыгануўся пасля гэтага шар зямны, але пацяжэў з той самай мінуты, як паліліся нябачныя промні, разносячы наўкола тугу і смерць, журбу і боль. І стала на зямлі столькі смутку, што ўжо не выказаць яго словамі. Мала слоў звычайных, патрэбны словы высокамастацкія. З душы самай, ад сэрца. Так загучала ў літаратуры, прынамсі, у беларускай, тэма, пра якую да чарнобыльскай эры і падумаць нельга было. Бо сама яна, гэтая тэма — чарнобыльская. У прозе, у паэзіі, у драматургіі. На змену першым балявым усплёскам, у якіх гэтага болю хапала, праз край ён ліўся, прыйшла паэзія душы, высокага сумлення. Паэзія асабіста перажытага, паколькі за пяро ўзяліся аўтары, якія родам з той самай, цяперашняй чарнобыльскай зоны...

Адзін з іх Мікола Мятліцкі, родам з Бабчына Хойніцкага раёна. Былога Бабчына. Мёртвая сёння вёска, а жыхары яе жывуць у розных кутках Бацькаўшчыны. І талакой, і асобнымі сем'ямі. Але гэта не стала перашкодай для бабчынцаў, калі даведаліся, што ў Доме літаратара маецца адбыцца прэм'ера кнігі іх земляка «Палескі смутак», паспяшаліся ў стольны Мінск.

Яны сядзелі ў зале — зусім яшчэ маладыя, і старыя, што размянялі восьмы дзесятак, — і ў кожнага была кніга. Паэт-зямляк парупіўся, падарыў свой новы зборнік кожнаму, як рабіў гэта і раней, з ранейшымі сваімі кнігамі. Усіх, хто сабраўся ў зале, яднаў гэты самы чарнобыльскі смутак. Радкі, што сталі эпіграфам да кнігі, з аднолькавым болем успрымаюцца і тымі, хто вымушаны быў пакінуць свае сядзібы, і тымі, хто знаходзіцца далёка ад чарнобыльскай зоны. Ды толькі ўсе мы заложнікі чарнобыльскай бяды: «Палескі смутак, агромністы смутак шукае да сэрцаў людскіх першапутак, ступае з ношай жахлівых чутак, гняздуе ў хатах — у межах сутак, бяссоннем сцятым парыўна дыша, маю Радзіму — наскрозь калыша пагорклы самы палескі смутак».

Вершы паэта чытае народная артыстка рэспублікі М. Захарэвіч. Вершы не толькі з гэтай паэтавай кнігі, а і з ранейшых — пра маці, пра родны Бабчын, пра Чарнобыль.

Выступае І. Шамякін, прыгадвае сваіх, даўно памёршых бацькоў, успамінае пабачанае падчас паездак з М. Мятліцкім і Б. Сачанкам у чарнобыльскую зону.

Гавораць слова пра малодшага таварыша вядучы вечара А. Лойка, М. Лужанін, Б. Сачанка, яго сябры-паплечнікі У. Марук і У. Сауліч. Яны аднадушныя ў сваіх меркаваннях: «Палескі смутак» М. Мятліцкага напісаны сумленна, таленавіта, годна.

І зноў гучаць вершы — іх чытаюць В. Анісенка, Т. Мархель. Усіх узрушыла выступленне колішняй настаўніцы М. Мятліцкага Валянціны Сяргееўны Бачышча. У адказ слова ўзяў сам паэт.

А на заканчэнне намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі А. Пісьмянкоў паведаміў, што кніга М. Мятліцкага «Палескі смутак» вылучана на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.

НАШ КАР.

# «БЫЦЬ ПАЧУТЫМ СВАІМ НАРОДАМ»

**Па старонках серыі «СПАДЧЫНА»**

ЗАДУМА выдання творчай спадчыны дзеячаў навукі і культуры Беларусі з'явілася ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» яшчэ ў 1988 годзе. Не будзем пералічваць усе выдадзеныя кнігі, іх многа. Хацелася б назваць факсімільнае выданне Алеся Гаруна «Матчын дар», «Старыя беларускія хронікі» Уладзіміра Караткевіча «Вершы. Пераклады. Нарысы» Янкі Лучыны, «Навагрaдскі замак» Яна Чачота.

Нельга не згадзіцца са зваротам Васіля Быкава да чытача зборніка «Матчын дар»: «Мабыць, не шмат трэба паэту для шчасця, але яму заўжды неабходна быць пачутым сваім народам...»

Плённа папрацавалі работнікі выдавецтва, сустракаючы 500-годдзе Францыска Скарыны. У кнізе Юрыя Лабынцава «Пачатае Скарынам» падрабязна расказваецца аб беларускай друкаванай літаратуры эпохі Рэнесансу. Лабынцаў знаёміць чытачоў з многімі малавядомымі і зусім невядомымі літаратарамі таго часу, паказвае вядучую ролю беларускай друкаванай літаратуры XVI стагоддзя сярод літаратур шэрагу еўрапейскіх краін.

Літаратурная крытыка ўдзяліла шмат увагі кнізе Аляксея Каўкі «Тут мой народ». Не спрачаюся з тым, што гэта цікавае і каштоўнае выданне. Але, на вялікі жаль, па-за ўвагай гісторыкаў і літаратуразнаўцаў засталося даследаванне сусветна вядомага скарыназнаўцы Яўгена Неміроўскага «Францыск Скарына: Жыццё і дзейнасць беларускага асветніка» (1990 г.). На мой погляд, выданне гэтай кнігі з'яўляецца адным з найбольш значных дасягненняў «Мастацкай літаратуры» ў апошнія гады.

Яшчэ гадоў дзесяць таму назад у групы беларускіх гісторыкаў і літаратараў узнікла ідэя выдання штогодніка, дзе б друкаваліся новыя літаратурныя матэрыялы, цікавыя архіўныя знаходкі і дакументы, давалася б аб'ектыўнае асэнсаванне некаторых старонак гісторыі беларускай культуры. Гэту ідэю падтрымала выдавецтва «Мастацкая літаратура», але зборнік, якому меркавалася даць назву «Спадчына», тады так і не выйшаў. Напэўна, ідэалагічныя «бацькі» пабаяліся, што яго матэрыялы занадта будуць садзейнічаць росту нацыянальнай самасвядомасці беларусаў.

Гэта ідэя здзейснілася толькі ў 1990 годзе. Зборніку, складальнікам якога стаў вядомы даследчык Г. Кісялёў, далі новую назву — «Шляхам гадоў».

У чым жа яго вартасць?

Па-першае, гісторыка-літаратурны зборнік «Шляхам гадоў» адрозніваецца ад іншых аналагічных выданняў сваім маштабам: ён ахоплівае падзеі амаль трохсот гадоў (XVIII—XX стст.).

Па-другое, кніга здзіўляе чытача дыяпазонам розных жанраў. Сюды ўвайшлі думкі вядомых беларускіх пісьменнікаў аб сваёй творчасці, эпісталярная спадчына, публікацыі, пошукі і знаходкі, клопаты тэкстолагаў, пераклады ранніх польскамоўных вершаў Янкі Купалы, рэцэнзіі, хроніка, весці з архіваў, музеяў, бібліятэк.

Па-трэцяе, пераважная большасць прадстаўленых у зборніку матэрыялаў знаёміць з невядомымі старонкамі жыцця і дзейнасці людзей, чые імёны складаюць гонар і славу беларускай культуры. Я маю на ўвазе Янку Купалу і Якуба Коласа, Максіма Багдановіча і Алеся Гаруна, Змітра Жылуновіча (Цішку Гартнага) і Браніслава Тарашкевіча, Вінцука Дуніна-Марцінкевіча і Францішка Багушэвіча, Аляксандра Рыпінскага і Аляксандра Ельскага, Міхала Карыцкага і братоў Каліноўскіх, Уладзіміра Караткевіча і Сяргея Астрэйкі.

Для многіх чытачоў, аматараў беларускай паэзіі сапраўдным падарункам стала знаёмства з паэтычнай спадчынай Сяргея Астрэйкі, які трагічна загінуў у 1937 г. у 25-гадовым узросце. Асаблівую каштоўнасць мае публікацыя ў зборніку невядомай нават літаратуразнаўцам яго паэмы «Смарагды кроз», рукапіс якой захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва БССР і быў падрыхтаваны для зборніка І. Багдановіч і А. Шарахоўскай.

Разам з тым нельга не адзначыць, што выхад зборніка крыху спазніўся, і «каэфіцыент карыснага дзеяння» ў 1990 годзе аказаўся зусім не тым, калі б ён выйшаў хоць бы на пяць гадоў раней.

Нягледзячы на шэраг вартасцей, той першы зборнік «Шляхам гадоў» не быў пазбаўлены канкрэтных недахопаў і недакладнасцей. Так, на с. 173 сцвярджаецца, што М. М. Ганчарык быў акадэмікам АН БССР. На самай справе, ён з'яўляўся членам-карэспандэнтам АН БССР. Пад фатаграфіяй беларускага паэта Алеся Гаруна прыводзяцца даты яго жыцця — 1887—1919. Хаця ў публікацыі Н. Мазоўкі «Паэт у няволі. Матэрыялы судовай справы А. Гаруна» год смерці паэта дадзены правільна — 1920. Змяншае каштоўнасць зборніка «Шляхам гадоў» і тое, што шэраг яе матэрыялаў да гэтага ўжо публікаваўся ў газетах і часопісах, перадаваўся па радыё. Гутарка ідзе аб артыкуле Івана Шамякіна «Біяграфія рамана» («Петраград—Брэст». — Э. І.).

Другі зборнік «Шляхам гадоў», складальнікам якога стаў Уладзімір Мархель, аказаўся яшчэ больш цікавым і змястоўным, хоць і датуецца ён тым жа 1990 годам. Гэту кнігу склалі сем раздзелаў гістарычна-літаратурных матэрыялаў — сем кругоў вяртання, аднаўлення і асэнсавання спадчыны беларускіх пісьменнікаў. Уключаныя ў кнігу пераклады з паэтычнай спадчыны Андрэя Рымшы, Францішка Князькіна, Яна Аношкі, Юзафа Маралёўскага, Францішка Рысінскага, Ігната Кулакоўскага, Антона Адынца і Юліяна Корсака — гэта першыя прыступкі да ўваходу ў літаратуру мінулых стагоддзяў.

Цяжка пераацаніць каштоўнасць невялічкай часткі лістоў у «Нашу Ніву», якую прапануюць чытачу Віталь Скалабан і Ганна Сурмач. Публікацыя лістоў, адрасаваных рэдакцыі газеты і датуемых 1909—1915 гадамі, дазваляе прыйсці да вываду, што гэта было вельмі папулярнае ў беларускім народзе выданне.

Унікальнай з'явай нашаніўскага і заходнебеларускага перыядаў беларускай літаратуры з'яўляюцца мемуары дзеяча беларускай дэмакратычнай культуры Аляксандра Мікітавіча Уласава.

Сярод іншых матэрыялаў кнігі выключную цікавасць прадстаўляе даследаванне Ігната Дварчаніна «Стымулы дзейнасці Францішка Скарыны» з прадмовай і ў перакладзе з чэшскай Тамары Кароткай.

Хоць на тытульным лісце другога зборніка «Шляхам гадоў» паўтараюцца словы першага — «гісторыка-літаратурны зборнік», у ім зроблены значны «крэн» у бок літаратуры. Добра гэта ці дрэнна, цяжка сказаць. Улічваючы тое, што амаль усе матэрыялы другога зборніка прысвечаны гісторыі беларускай культуры, асабліва літаратуры, больш правільным было б пазначыць на тытульным лісце «з гісторыі беларускай культуры».

На жаль, у абодвух выданнях вельмі мала новых аўтарскіх імёнаў. Між тым яны ёсць, але іх не заўсёды заўважаюць складальнікі кніг і работнікі выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Бясспрэчным поспехам выдавецтва «Мастацкая літаратура» можна лічыць публікацыю ў 1991 г. першага выпуску літаратурна-навуковага гадавіка «Скарыніч» (укладальнік Аляксей Каўка). На мой погляд, самы каштоўны і вельмі цікавы матэрыял, апублікаваны ў «Скарынічу» — гэта ўспаміны выдатнага беларускага гісторыка, якога яшчэ пры жыцці называлі энцыклапедыяй беларускай гісторыі. Пад назвай «Хроніка» іх падрыхтаваў да друку сын вучонага А. М. Улашчык.

Добра, што ў гэтым зборніку апублікаваны матэрыял «Згукі дзён мінулых. Беларусы ў Маскве: 20-я гады». Але было б яшчэ лепш, калі б хто-небудзь з маскоўскіх беларусаў заняўся навуковым пошукам па тэме «Беларусы ў Маскве XV—XIX стагоддзяў», або «Беларусы ў Маскве ў пачатку XX стагод-

Асэнсоўваючы змест двух зборнікаў «Шляхам гадоў», хацелася б выказаць некалькі пажаданняў.

Мэтазгодна, каб будучыя зборнікі (а іх павінна выйсці яшчэ два) і выданні падобнага тыпу былі тэматычнымі або праблемнымі. Складальнікі кніг павінны дакладна паставіць перад сабой мэту: якой тэме або праблеме яны жадаюць прысвяціць зборнік, што новага і цікавага дасць ён шырокаму чытачу, а не толькі спецыялісту.

**ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ**

# ЛЯТАЮЧЫ ЗДРАДНІК?

Дагэтуль пра нашага земляка Сяргея Сіняка (Хмару), які жыве ў канадскім горадзе Таронта і выдае газету «Беларускі голас», пісалі толькі адмоўнае. Але вось Сяргей Чыгрын змясціў у «ЛіМе» за 22 сакавіка 1991 года пахвальны артыкул і фотаздымак маладога Сіняка.

Я даўно мог бы напісаць пра гэтага чалавека, але не рашаўся. Не рашаўся, бо не хацелася дапусціць якую-небудзь недакладнасць, кажучы пра яго дзейнасць. Сам цярплю ад незаслужаных паклёпаў. Рашыў: раскажу тое, чаму сам быў сведкам.

Дык вось, Сяргея Сіняка з Казлоўшчыны ведаю з трыццатых гадоў як аўтара вершаў і замалёвак, што друкаваліся ў беларускай прэсе Заходняй Беларусі. Аднойчы прыязджаў да мяне ў вёску Чамяры з цьмянаю прапановаю стварыць нейкае літаратурнае згуртаванне ў процівагу віленскім таварышам Максіму Танку, Валянціну Таўлаю і іншым. Ён не хацеў лічыцца са становішчам у нацыянальна-вызваленчым руху, выломваўся з канспірацыйнай дысцыпліны.

Наступная мая сустрэча з Сіняком адбылася ў верасні 1939 года. Я працаваў ужо ў рэдакцыі слонімскай раённай газеты «Вольная праца». С. Сіняк прыбыў з канцэнтрацыйнага лагера Картузскай Бярозы, прыбыў з кіёчкам, кульгаючы. Паступіў у рэдакцыю газеты. Мы ўдвух пару начэй спалі на падлозе ў рэдакцыйным пакоі, паклаўшы пад галовы бярэма рэспубліканскіх газет, што ў першыя дні пасля вызвалення пачкамі прыбывалі да нас.

Аднойчы вечарам у рэдакцыі зазваніў тэлефон. Трубку схапіў Сіняк. Званілі з НКУС і прасілі яго зайсці да іх. Сіняк разгубіўся, кажа мне: «Пойдзем удвух, пэўна, клічуць наконт кватэры». Я адмовіўся, сказаў, што мяне не клічуць. А Сяргей як пайшоў, так і не вярнуўся. Па наіўнасці раніцай я пазваніў у НКУС. Адказваюць: «Ничего не знаем, к нам не приходил...»

Недзе вясной 1940 года, памятаю, пайшлі мы з жонкай у кінатэатр «Мадэрн». Тут жа аказаўся са сваёй жонкай і рэдактар Іосіф Антонавіч Чарняўскі. Сядзім у фае, чакаем сеанса, гутарым. Ведаеш, — кажа, — дзе падзеўся Сіняк? Яго пасадзілі, знайшлі дакументы, што быў канфідэнтам. Нават у Бярозе Картузскай выдаваў палітзняволеных»...

Гэтая вестка пеканула, нібы маланкай. Я ж так верыў Сіняку — актывісту, камуністу, катаржніку.

Тым часам падзеі на нашай зямлі пачалі мяняцца так хутка, што людзі не паспявалі агледзецца назад. 24 чэрвеня 1941 года гітлераўцы занялі Слонім. Я перабраўся ў вёску, на хутар да бацькі. Сяды-тады наведваўся ў горад, каб раздабыць навіны для вясковых падпольшчыкаў, а таксама для акружэнцаў — будучых партызанаў. Аднойчы нечакана сустракаю Сіняка. Прывіталіся. Бачу: у яго няма аднаго зуба. Пытаюся, дзе згубіў. «Давалі, брат, — кажа, — па-пралетарску». — «Дык ты супраць Саветаў?» — «У такім выпадку я супраць Саветаў».

Я пачаў яшчэ больш асцерагацца Сіняка. Прыпомнілася і гутарка з рэдактарам у кінатэатры.

15 красавіка 1942 года я вярнуўся ў горад на падпольную работу. А каб легалізавацца, уладкаваўся ў гарадскую ўправу бухгалтарам фінансавага аддзела. Сіняк працаваў ужо дырэктарам раённай бібліятэкі.

Іду аднойчы па вуліцы Мастовай (цяпер Янкі Купалы). Праз адчыненае акно дома № 10, дзе размяшчалася СД, чую: «Спадар Міско, зайдзіце». Вось, думаю, надарылася ліха. Але што зробіш, заходжу. У кабінеце сядзіць эсдовец Алёйзы Пецюкевіч, брат Мар'яна Пецюкевіча, які да 1939 года выдаваў газету «Шлях моладзі». Прывіталіся. Запрасіў сесці, і адразу пытанне: «Якія ў вас адносіны з Сіняком?» Адказваю: «Нармальныя». А Пецюкевіч працягвае далей: «Нядаўна ён быў тут, прыносіў падшыўку «Вольнай працы», паказваў артыкулы, вершы, заметкі за вашым подпісам, казаў, што пад бокам сядзіць камуніст, а мы, маўляў, вушамі хлопаем». Па словах Пецюкевіча, ён крыху пастрашыў Хмару, каб не даносіў на беларусаў, падшыўку тут жа кінуў у печку, дзе гарэлі дровы. Я падзякаваў, сказаў, што не з'яў-

дзя», «Беларусы ў Маскве ў час першай сусветнай вайны. Гэта было б вельмі цікава і карысна для стварэння новых падручнікаў па гісторыі Беларусі, для распрацоўкі гісторыі беларускай культуры.

Уласна серыя «Спадчына» ў выдавецтве была заснавана ў 1990 г. Першай публікацыяй гэтай серыі стала кніга аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях». Прачытаўшы гэты твор, хачу пагадзіцца з тымі літаратуразнаўцамі, якія параўноўваюць кнігу Баршчэўскага з сусветна вядомым казачным эпасам «Тысяча і адна ноч». Напісаныя па-польску, фантастычныя апавяданні Я. Баршчэўскага неслі магутны зарад беларускай нацыянальнай ідэі.

Пісьменнік прадстае перад намі выразнікам простанароднай міфічнасці і звычаяў беларускага народа. Каштоўна, што творчая спадчына Яна Баршчэўскага цесна звязана з духам і паэзіяй нашага народа, паказвае яго патэнцыяльныя духоўныя магчымасці.

У тым жа годзе выйшла другая кніга серыі «Спадчына». Гаворка ідзе аб творах Старога Уласа (Уладзіслава Пятровіча Сівога-Сівіцкага) «Год беларуса. Вершы. Вершаваныя апавяданні. Публіцыстыка». Найперш хочацца адзначыць плённую працу Вячаслава Рагойшы, які з'яўляецца укладальнікам, аўтарам уступнага артыкула і каментарыяў.

У свой час Максім Гарэцкі адзначыў, што такія паэты, як Стары Улас, «...маюць у нашай паэзіі літаратурна-маральнае значэнне як паэты з мазолістай рукою, што не толькі «з народа», але і «сам народ». Зрэшты, пра гэтую кнігу «ЛіМ» пісаў асобна.

Трэцім выданнем серыі «Спадчына» стала «Выбранае» Браніслава Тарашкевіча. Сюды ўвайшлі крытыка, публіцыстыка, пераклады. У адной асобе ўдала спалучаны талент палітычнага дзеяча, лідэра нацыянальна-вызваленчага руху працоўных Заходняй Беларусі, кіраўніка стотысячнай рабоча-сялянскай грамады з талентам бліскучага вучонага-лінгвіста, аўтара першай граматыкі беларускай літаратурнай мовы, перакладчыка.

Бадай, самы цікавы раздзел кнігі Браніслава Тарашкевіча складаюць культурна-асветныя артыкулы. Выключны інтарэс прадстаўляе работа «Не пакідайце нашай мовы», якую нельга чытаць без хвалявання. Я маю на ўвазе, у першую чаргу, наступныя словы Браніслава Адамавіча: «...каб не памерлі— гэта праўдзівая перасцярога павінна пастаянным рэхам адбівацца ў душы кожнага беларуса і зрабіць яго слугой харства слова...

Зык, літара — гэта толькі цень, а слова — кроў і косць, жывое цела ў нашых душах, дарагое, майстэрскае начынне— у ім наш духоўны набытак...»

Да цяперашняга часу не страціла сваёй каштоўнасці і актуальнасці палітычная публіцыстыка Браніслава Тарашкевіча.

Вельмі шкада, што да сённяшняга часу яшчэ не знойдзены пераклад Тарашкевічам «Іліяды» Гамера, які прадстаўляе вялікую культурна-грамадскую каштоўнасць. У «Выбраным» змешчаны толькі яго фрагменты.

Трэба дадаць, што ўкладанне, уступ і каментарыі да кнігі Б. Тарашкевіча «Выбранае» — заслуга таленавітага вучонага Арсена Ліса.

У планах выдавецтва «Мастацкая літаратура», якія датычацца серыі «Спадчына» на бліжэйшыя гады, плануецца выпуск твораў М. Гарэцкага, Л. Гмырака, Л. Калюгі, А. Мрыя, Б. Мікуліча, К. Сваяка, В. Каратынскага, К. Лейкі. Планаў шмат. Адно трывожыць: каб шэраг праблем, якія паўсталі перад выдавецтвам, не спынілі выпуск многіх кніг, у тым ліку і па названай серыі.

У гутарцы з аўтарам гэтых радкоў дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Валерый Грышановіч адзначыў:

**— У нашай рабоце нямала цяжкасцей. Мы ўжо не гаворым, што кошт паперы вырас у 25 разоў, 90 працэнтаў прыбытку забірала дзяржава (цяпер 30). У нас у рэспубліцы тысячы школьных, студэнцкіх, прафсаюзных і іншых бібліятэк. Становіцца вельмі балюча і крыўдна, што многія творы з творчай спадчыны, кнігі вельмі цікавыя, патрэбныя і карысныя не трапляюць у гэтыя бібліятэкі, а значыць, і да чытачоў.**

**Нас вельмі хвалююць пытанні распаўсюджвання літаратуры з творчай спадчыны пісьменнікаў, дзеячаў нашай культуры. Так, цікавая кніга пра беларускую мову — «Матчына слова» — мае заказ 2300 экземпляраў. Значыць, яе не будзе ў многіх бібліятэках Беларусі. Збіраемся выпусціць вельмі каштоўны зборнік «Аднаўленне духам». І што ж вы думаеце? Па сістэме Белкаапсаюза не заказана ніводнага экземпляра гэтай кнігі!**

**Праходзіць рэарганізацыя рэдакцый, расказвае далей дырэктар выдавецтва. Створана свая камп'ютэрная служба. Падрыхтавана да друку серыя «Святыя зямлі беларускай».**

Застаецца спадзявацца, што выдавецтва «Мастацкая літаратура» пры падтрымцы ўрада Беларусі паспяхова здзейсніць свае задумы.

**Эмануіл ІОФЕ.**

---

ляюся камуністам, зазначыўшы, што ў раённай газеце ёсць публікацыя і самога Сіняка.

І яшчэ адзін успамін. Было гэта, здаецца, пад восень 1942 года. Іду я па Студэнцкай вуліцы, насустрач едзе падвода ў суправаджэнні двух паліцаяў. На возе сядзяць Іван Крынчык, брат вядомага пасла польскага сейма Паўла Сцяпанавіча Крынчыка, і Іванава жонка, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР Клаўдзія Тарасюк з малым дзіцем на руках.

— Браток, ратуй! — азваўся Іван.

— Што з вамі?

— Арыштавалі. Вязуць.

— Нехта ж набрахаў?

— А хто ж, як не Сіняк...

Слонімскім падпольшчыкам-антыфашыстам не ўдалося выратаваць гэтую маладую сям'ю былых падпольшчыкаў КПЗБ. Зняволеных расстралялі на Пятралевіцкай гары, што каля Слоніма...

Сіняк... Я не пракурор і не хачу абвінавачваць чалавека. Хай будзе Бог сведкам, што нічога, пра што я тут напісаў, не прыдумана. Магу сказаць і сваю думку. Сяргей Сіняк бярэ шмат на сябе, многа хваліцца, а значыць, і хлусціць. Чаго толькі ён не піша ў сваім «Беларускім голасе»! Напрыклад, калісьці, яшчэ ў пяцідзесятыя гады, ён напісаў, што я камуністамі быў «пасланы на фронт, у карны батальён», дзе нібыта і загінуў. Праўды тут — ні каліва, ніхто мяне на фронт, а тым больш у нейкі карны батальён, не пасылаў.

Цяпер Сіняк зноў актывізаваўся, усюды рассылае свае газеты, у тым ліку і ў Слонім, піша артыкулы-ўспаміны. Толькі не гаварыць аб тым, як ён працаваў у палітычным аддзеле Слонімскага гебітскамісарыята, узначальваў рэдагаванне і вёў радыёперадачы на беларускай мове, усяляк ганьбіў нашых народных мсціўцаў, прарочыў «вялікай Германіі» хуткую перамогу, за што дасціпныя сяляне празвалі яго «слонімскім Гебельсам».

С. Чыгрын допіс пра Сіняка назваў: «Лятаючы рыцар Грамады». А ці не лепш падышоў бы загаловак «Лятаючы здраднік»? Мне думаецца, што аўтар публікацыі, прыводзячы гутарку Барыса Сачанкі з Масеем Сяднёвым, не зразумеў, што замежны паэт проста не хоча гаварыць пра Сіняка-Хмару. Мне таксама не надта прыемна пісаць пра ўсё гэта...

**Анатоль ІВЕРС.**

г. Слонім.

---

## 26 лютага Уладзіміру КАРПАВУ споўнілася б 80...

Было б Уладзіміру Барысавічу Карпаву ўжо восемдзесят. А мо ўсяго восемдзесят? Не, восемдзесят — гэта нямала і не кожнаму лёс дае магчымасць, на жаль, наблізіцца да гэтага жыццёвага рубяжа ці, тым больш, пераступіць яго. Не пашчасціла ў гэтым сэнсе і У. Карпаву — яго сэрца, якое перад гэтым вытрымала тры інфаркты, пасля чацвёртага ўжо не змагло доўга працаваць. Спынілася 6 лютага 1977 года. Сказаліся пастаянныя творчыя нагрузкі—хто-хто, а Уладзімір Барысавіч працаваў вельмі плённа, напружана, не даючы сабе палёгкі. Далася ў знакі і Вялікая Айчынная вайна, у час якой ён, спачатку падпольшчык, а пасля намеснік камандзіра спецгрупы Мінскага абкома партыі, неаднойчы глядзеў смерці ў вочы, трапляў у такія небяспечныя сітуацыі, пра якія можна прачытаць хіба што ў самых закручаных дэтэктывах.

Засталіся раманы «За годам год», «Вясеннія ліўні», «Нямігі крывавыя берагі», «Сотая маладосць», кніга апавяданняў і ўспамінаў «Прызнанне ў нянавісці і любві», зборнікі літаратурна - крытычных артыкулаў «Па шляху сталасці», «Крылаты ўзлёт»... Лепшыя з гэтых твораў сабраны ў пяцітомніку, выпушчаным выдавецтвам «Мастацкая літаратура» пасля смерці У. Карпава.

Кнігі яго шмат гавораць і пра самога пісьменніка, асабліва тымі сваімі старонкамі, на якіх узнаўляюцца падзеі мінулай вайны. Шмат можна даведацца пра У. Карпава і з яго кнігі «Прызнанне ў нянавісці і любві», а таксама з аўтабіяграфіі, напісанай для кнігі жыццяпісаў беларускіх літаратараў «Пяцьдзесят чатыры дарогі». Прынамсі, у біяграфіі важны такі момант. Як вядома, У. Карпаў нарадзіўся ў волжскім горадзе Хвалынску, дзе яго бацька працаваў земскім урачом, але ў галодным 1921 годзе маці, выхавацельцы дзіцячага дома, ратуючы сваіх траіх дзяцей ды і чужых таксама, давялося апынуцца на Беларусі. Гэты прымусовы пераезд, можна сказаць, і зрабіў рэзкі паварот у далейшым лёсе Уладзіміра Барысавіча. Гэта ён хораша засведчыў сам: «Нельга сказаць, што жыццё ў прыдняпроўскай вёсцы Ёлча на Камарыншчыне было вельмі лёгкае. Дзевяцігадовым хлапчуком я каштаваў ужо хлеб падпаска... Але дабрату і спагаду ёлчанскіх кабет, сваю першую настаўніцу — самотную Марыю Ёсіпаўну Шастаковіч... я заўсёды буду ўспамінаць з замілаваннем, з удзячнасцю. Пасля я жыў і працаваў шмат у якіх вёсках Камарыншчыны, ды павага і любоў да людзей, якія прытулілі нашу сям'ю, ідуць усё-такі з Ёлчы. І тут я ў свае дзесяць год прысягнуў аддзячыць ім, чым будзе ў маіх сілах...»

Аддзячаннем беларускаму народу за спагаду і стала ўсё яго далейшае жыццё. У. Карпаў належаў да тых рускіх, хто, апынуўшыся ў новай для сябе моўнай стыхіі, пачаў вывучаць беларускую мову. Як Пічэта, як Замоцін, як дзесяткі і сотні прадстаўнікоў іншых народаў, якія, жывучы ў нашай рэспубліцы, не на словах, а на справе сцвердзілі сваю любоў да зямлі, што назаўсёды стала роднай.

Светлы воблік гэтага абаяльнага чалавека з прыязнасцю прыгадваюць яго сябры і паплечнікі на старонках кнігі «Успаміны пра Уладзіміра Карпава», складзенай дачкой пісьменніка Л. Карпавай і выпушчанай выдавецтвам «Мастацкая літаратура» напярэдадні 80-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Барысавіча. Найперш хочацца згадаць успаміны жонкі пісьменніка Марыі Міхайлаўны. У іх шмат асабістага, аднак жа ў дачыненні да знакамітага літаратара ўсё, што тычыцца яго асобы, набывае і грамадскае значэнне. Вось, здавалася б, самае найасабістае прызнанне, але досыць прыгадаць далейшыя падзеі, каб убачыць, што і тут ужо адчуваўся карпаўскі характар. Не кожны асмеліцца ў першы ж вечар прапанаваць дзяўчыне руку і заявіць так рашуча, што і сумненняў ніякіх не можа быць: «Так і толькі так... Да канца месяца мы здаём апошнія залікі, ідзём у загс, а пасля разам едзем у маю школу». Ці не гэтая рашучасць дапамагала Уладзіміру Барысавічу, калі ён быў падпольшчыкам? Цікава, што разведчыкам ён узяў псеўданім сабе не абы-які, а менавіта «Учитель». І ў грозны для Радзімы час ён як бы не развітваўся са сваёй асноўнай прафесіяй: перад вайной яму давялося настаўнічаць і на Гомельшчыне, і на Віцебшчыне.

Старонкі ваеннай біяграфіі У. Карпава ўзнаўляюць многія аўтары, але найбольш падрабязна пра гэты перыяд у яго жыцці расказвае І. Новікаў. Ужо сама назва яго ўспамінаў характэрная — «І пісьменнік, і герой». Адначасова І. Новікаў прыадкрывае і некаторыя сакрэты творчай лабараторыі Уладзіміра Барысавіча. «Мяне, як і кожнага, хто апынуўся б на маім месцы, — прызнаецца ён, — здзівіла: вядомы пісьменнік удзельнічаў у такіх выдатных баявых і разведвальных аперацыях, сам усё бачыў, перажыў, а не напісаў пра перажытае нічога. Чаму?». Вось што адказаў на гэта сам У. Карпаў: «Калі гаварыць шчыра, то я не магу брацца за гэты матэрыял. Занадта блізкі ён мне. Ведаеце такую асаблівасць зроку: калі паднесці кніжку да самых вачэй, то літары расплываюцца. Нешта падобнае і ў мяне. Усё перажытае і дагэтуль яшчэ балючае, жывое. Патрэбен нейкі час, каб убачыць яго на адлегласці, вачыма пабочнага чалавека. Тады менш будзе суб'ектывізму ў ацэнках людзей і падзей». Сапраўды, так і сталася, што гэтае перажытае ўбачылася з кнігі «Прызнанне ў нянавісці і любві» — «з адлегласці».



Творчы вечар У. КАРПАВА. 1963 г.

Фота Ул. КРУКА.

Як патрабавальна ставіўся У. Карпаў да сябе, сваёй пісьменніцкай працы гавораць многія. Вось толькі некалькі сведчанняў М. Карпава: «...кожная з яго кніг мае некалькі варыянтаў. Толькі скончыўшы працу над імі, ён браўся за новую работу, ды і то час ад часу ўносіў праўкі, дапаўненні ў папярэднія свае творы». У. Юрэвіч: «Аднойчы не вытрымаў, спытаў у яго: «Чаму ты такі скупы на паперу?». Адказаў: «Знарок так пішу, каб прымушаць сябе перапісваць, бо калі перапісваеш, яшчэ раз перадумваеш». С. Грахоўскі: «Партызаншчыну, Мінскае падполле, матэрыял, які стаў асновай яго кніг, ён ведаў дасканала, жыў ім, збіраў па каліву рысачкі і рысы герояў будучых кніг. Пра Мінск старажытны, даваенны, зруйнаваны і адроджаны Карпава можна было слухаць гадзінамі». І. Шамякін: «...вялікі працаўнік, Уладзімір Карпаў грунтоўна рэдагаваў кожнае новае выданне сваіх раманаў».

Ад У. Карпава — творцы неаддзельны і У. Карпаў чалавек. Тыя, хто яго добра ведаў, і тут аднадушныя ў меркаваннях і ацэнках. С. Кухараў: «Ягоныя парады заўсёды былі тактоўныя і ішлі ад сэрца, ад жадання памагчы таварышу, падбадзёрыць і заахвоціць, ад умення распаліць тую іскрынку, якая прасіла цёплых далоняў, каб не пагаснуць. Справядлівасць і чысціня ў творчасці і ў жыцці — ягонае маральна-этычнае крэда». Б. Бур'ян: «Уладзімір Барысавіч быў прынцыповай і неўтаймаванай асобай, і сам правяраў усе тэзісы і высновы бурлівага жыцця». А. Асіпенка: «Уладзімір Карпаў належаў да пакалення «жорсткіх крэслаў», якое не любіла выстаўляць сябе, затое з захапленнем расказвала пра справы сваіх сяброў, ганарылася імі». А. Савіцкі: «...чалавек чыстай, як вясновае неба, душы».

А як шмат гаворыць пра У. Карпава гэтае сведчанне яго былой вучаніцы, настаўніцы Г. Юдзянок: «Нас вельмі ўражвала веданне Уладзімірам Барысавічам літаратуры. Ён ведаў на памяць усяго Пушкіна, Лермантава, Маякоўскага і вельмі артыстычна дэкламаваў. Мы проста раты адкрывалі ад захаплення і здзіўлення».

Чытаеш «Успаміны пра Уладзіміра Карпава» і неаднаразова вяртаешся ў думках да сказанага І. Новікавым: «...пры жыцці заслужаных, цікавых людзей мы неяк саромеемся захоўваць сляды іх творчай дзейнасці, іх вонкавы вобраз, іх голас. А не стане чалавека, і толькі тады спахопліваемся: як жа гэта мы ўпусцілі! А тады ўжо нічога нельга паправіць». Балазе, гэтая кніга ўсё ж з'явілася. Як штрыхі да партрэта пісьменніка, які пакінуў у літаратуры свой прыкметны след. Як напамінак, што падобныя выданні — патрэбны. Бо шмат даюць яны душы і сэрцу. Бо нябачнай ніццю звязваюць дзень учарашні і сённяшні.

**А. КУНЦЭВІЧ.**

**Кастусь ІЛЬЮШЧЫЦ**



## Ліст да салдата

Куды падзеўся той мастак,
Што маляваў нам рай за так!..

Ізноў для нас лязом нажа
Блішчыць дзяржаўная мяжа.

Крамсае нож не сельсавет, —
Крамсаць спрабуе цэлы свет.

Народы болей не браты, —
Народам лепш без дабраты.

Ні там, ні тут дурных няма
Раздорваць спадчыну дарма.

Ваўком галодным жорсткі час
Па стойлах разганяе нас.

І не ўсявышнія з нябёс
Наш перайначыць прагнуць лёс.

І выбіваюць з песняў-дум
Дубінкай чорнай даўні сум.

І там браты, і тут браты...
А на мяжы — мішэнню ты.

І там браты, і тут браты...
Не стань, салдат, забойцам — ты!..

## Не стала ворагаў у свеце...

Не стала ворагаў у свеце, —
Іх запісалі мы ў сябры,
І рады кожнага прывеціць,
Каб не пакрыўдзіць пры двары.

О, час дзіцячага даверу!
Пасля грымот і навальніц
Мы расчыняем насцеж дзверы
Дзяржаўных сэрцаў і граніц.

Усім прабачылі забойства
І, памяць страціўшы бацькоў,
Заводзім новае сяброўства,
Былых згубіўшы дружбакоў.

З палос газетных фотаздымкі
Зямных багоў глядзяць штодня,
Як іх усмешкі і абдымкі
Незразумела з кім радняць.

А мне ні холадна, ні душна
Ад потных поціскаў іх рук.
І больш здзіўляе раўнадушша,
З якім сякуць уласны сук.

За грэх які ж наш перад Богам
Патухла радасць у вачах!
Куды ідзём, якой дарогай
І хто нам выбраў гэты шлях!

Каму патрэбен будзе вопыт
Прайсці праз пекла ў светлы рай!..

. . . . . . . . . . .

Я не жадаю рыць акопы
Ні за каго...
Ты ж — выбірай!

## Не страць жа ты памяць, народ!..

Жабрачкай, у сукні картовай,
Свой скарб несучы за спіной,
Як цень, мая родная мова
З працягнутай ходзіць рукой.

У вечным маўклівым паклоне
Хавае зажураны твар,
Жыве, як Рагнеда ў палоне
Чужых іншаверцаў-пачвар.

Штодня аббівае парогі
За крэпасць мацней камяніц,
Дзе служкі руйнуюць дарогі
Да сонца, да чыстых крыніц.

Ёй, роднай, хіба ж дапаможа
Дзяржаўны чыноўнік, які
З трыбуны народнай вяльможам
Кідае на хлеб пятакі.

Ускормлены матчынай мовай,
Не бачыць карміцелькі слёз,
Забыў, як спявае дуброва,
Як плача дзесь каняю плёс.

Пасаднік надзейна вартуе,
Каб вусны нямымі былі
Усіх, хто ашчадна ратуе
Пявучую мову зямлі.

Дзе ж тая Свабода і Роўнасць
У братнім Саюзе дзяржаў,
Калі і над мовай бяскроўнай
Вісіць самаўладдзя дзяржак!

Няблага жывецца манкуртам,
Прадаўшы і мову, і род...
Лёс з мовай абходзіцца крута, —
Не страць жа ты памяць, Народ!

## Няшчасці нас не абышлі...

Няшчасці нас не абышлі, —
У пекла навалач праперлі...
З мячоў на даланю зямлі
Сцяклі крывёй гарачай перлы.

Няўжо яшчэ не да канца
Мы зведалі святога блюда,
Куды гарошыны свінца
Тайком падкладвае Іуда!

Летува, г. Пабрадзе.

# Незабыўны Тарас

**Тарасу ХАДКЕВІЧУ споўнілася б 80...**

Мастак двойчы нараджаецца і двойчы памірае. Другое нараджэнне адзначана з'яўленнем твора, здольнага ўсхваляваць, акрыліць, сагрэць людскія душы. Бывае: мастак адышоў у нябыт, а творы яго жывуць і радуюць, хвалююць і натхняюць людзей яшчэ доўга-доўга. Чытач чуе яго голас, шчырую інтанацыю, спрачаецца, згаджаецца з ім, адкрывае нешта сабе не вядомае.

Горш, калі аўтар перажыве свае творы: ён — усё сярод людзей, а кнігі яго, карціны і оперы, спектаклі і песні даўно забытыя, нібыта іх ніколі і не было. Гэта — трагедыя мастака. І ўсё ж, так ці інакш кожны ў свой час нешта дадаў сваё ў духоўны свет народа.

Колькі за маёй памяццю адышло, як кажуць, у лепшы свет нашых пісьменнікаў. У пэўныя даты мы іх успамінаем, хоць і не надта рвуцца маладзейшыя літаратары на такія ўшанаванні, мы аддаём належнае іх таленту, іх укладу ў нашу культуру і літаратуру.

Вось і мне выпала нагода ўспомніць майго даўняга добрага таварыша і захацелася нешта расказаць і вам.

**Пачну здалёк. На пачатку дваццатых гадоў на той час маленькую па тэрыторыі Беларусь захліснула паводка літаратурных выданняў. Хапала чамусьці паперы і прымітыўнейшых паліграфічных «магутнасцяў». Было вялікае жаданне і вера ў адраджэнне роднай культуры і літаратуры. Народ, хоць і ненадоўга, здабыў права гаварыць і пісаць на сваёй мове. Літаратурная арганізацыя «Маладняк» мела свае філіі ва ўсіх акругах, студыі пры тэхнікумах і школах, у акруговых гарадах выдаваліся альманахі і літаратурныя дадаткі да газет.**

У 1928 годзе ў полацкім альманаху «Наддзвінне» побач з вершамі Дудара, Броўкі, Відука (Скрыгана) упершыню сустрэў імя Тараса Хадкевіча і здымачак хлапчука ў шарачковай світцы і шапачцы-васьміклінцы. Вершы былі па-юначы наіўныя і па-маладнякоўску квяцістыя.

Неўзабаве імя Хадкевіча замільгала ў рэспубліканскім друку, нарысы і карэспандэнцыі часта друкавалі «Звязда» і «Чырвоная змена». У 1932 годзе ў Мінскім педінстытуце (тады ён называўся Вышэйшы педагагічны імя Горкага) на крытычна-творчым аддзяленні літфака вучыліся маладыя паэты і празаікі і сярод іх быў цёмна-русы, усмешлівы рослы і ладны Т. Хадкевіч. Многія студэнты працавалі ў рэдакцыях газет або на радыё, часта выязджалі ў камандзіроўкі, прапускалі лекцыі, а залікі і экзамены пасля некалькіх «штурмавых» начэй неяк здавалі.

**З Тарасам мы часам сустракаліся ў інстытуцкіх калідорах і на сходах камсамольскай ячэйкі пры доме пісьменніка. Ён заўсёды некуды спяшаўся, часта ездзіў у камандзіроўкі на сваю Полаччыну. Ён ужо быў аўтарам першай кніжкі вершаў «Смялей, таварыш», а гэта ўжо здавалася дыпломам на аўтарскую сталасць.**

У 1935 годзе рэдакцыя «Звязды» камандзіравала Т. Хадкевіча ў Асвейскі раён. Неўзабаве адтуль паведамілі, што «карэспандэнт Хадкевіч цяжка захварэў і адпраўлены на лячэнне ў Ленінград». Упэўнены, што гэтая хвароба ўратавала Тараса ад масавага «хапуна» 1936-37 гадоў.

Мяне ён не абмінуў, і ў Мінск я вярнуўся толькі ў 1956 годзе. Першым з даўнейшых знаёмых сустрэў Т. Хадкевіча. Ён не спалохаўся, як некаторыя, не адвярнуўся, не прыкінуўся, што не пазнаў. Мы адышлі ўбок ад людскога патоку, Тарас расказаў, што быў на фронце, камандаваў узводам, паранены трапіў у палон, прайшоў усе кругі фашысцкага пекла, у 1945 годзе ўцёк з палону, вярнуўся ў вызвалены Мінск і пайшоў працаваць раз'язным карэспандэнтам у «Звязду». Цяпер — кансультант па прозе ў Саюзе пісьменнікаў.

**Калі я жыў у Сібіры, часам сустракаў апавяданні Тараса ў «Огоньке», імя яго мільгала ў літаратурных хроніках. Вайна, палон, усе далейшыя нягоды праклалі прыкметныя баразёнкі на Тарасавым твары, а ён заставаўся па-ранейшаму ўсмешлівы, уважлівы і вясёлы. Распытваў пра мае справы, намеры і планы, а я сябе адчуваў нікому не патрэбным, выкінутым штормам на бераг. Хадкевіч параіў мне абавязкова зайсці ў Саюз пісьменнікаў і запэўніў, што «Пятрусь падтрымае». Так яно і было: я паступова вяртаўся ў літаратуру.**

У 1957 годзе каля Полацка пачалі будаваць новы горад будучых нафтавікоў. Я першы паехаў туды ў творчую камандзіроўку. На льнішчы каля вёскі Слабада паставілі першыя палаткі і баракі, па камсамольскіх пуцёўках прыехалі ўчарашнія дзесяцікласнікі, без спецыяльнасці, без фізічнай загартоўкі, не прывычныя да цяжкасцей, звычайных на нашых будоўлях: не было ні святла, ні цяпла, ні студні, ні лазні. Тады ніяк не верылася, што на гэтым месцы вырасце вялізны сучасны горад і некалькі заводаў, што перапрацоўваюць нафту і так бязлітасна труцяць усё наваколле. Я захапляўся рамантыкай цяжкасцей, пісаў бадзёрыя вершы і нарысы, а прыехаўшы на некалькі дзён у Мінск, угаварыў Тараса, і ён неў-

*Міхась Даніленка*

# АБРАЗКІ



## След на зямлі

Многія ў гарадскім пасёлку Лоеве (ды і ў раёне) добра ведалі Івана Рыгоравіча Ермакова. Адзін час ён узначальваў раённы аддзел народнай асветы, потым працаваў дырэктарам мясцовай сярэдняй школы, выкладаў гісторыю. Чалавек эрудзіраваны, ён выдатна разбіраўся ў літаратуры, асабіста ведаў некаторых беларускіх пісьменнікаў. У гады мінулай вайны Ермакоў мужна змагаўся з фашысцкімі захопнікамі, сярод яго ўзнагарод быў і ордэн салдацкай Славы. Вечнай марай гэтага чалавека было: заснаваць у Лоеве музей.

— Няхай людзі ведаюць, якія тут грымелі баі, колькі людзей палягло на гэтых крутых дняпроўскіх кручах, — часам дзяліўся ён з сябрамі запаветнай думкай.

З высокага правага берага Дняпра, дзе ў вольныя хвіліны любіў стаяць Ермакоў, віднеліся зарэчныя лазнякі. У іх вясновымі начамі не змаўкалі — аж захлыналіся — салаўі. Віліся па пясчаных пагорках дарогі. Яны вялі ў бліжнія зарэчныя ўкраінскія вёскі. Шустры буксір цягнуў паром, на якім драмалі грузавікі, падводы, на другі бераг. «Вось бы тут і музей паставіць», — думалася настаўніку.

Пакрысе, як яшчэ працаваў дырэктарам школы, Іван Рыгоравіч пачаў збіраць унікальныя рэчы. З'ездзіў у Кіеў да славутага партызанскага камандзіра Каўпака — прывёз яго не менш вядомую па партрэтах папаху. Свае рэчы перадалі будучаму музею генерал арміі Батаў (65-ая армія, якой ён камандаваў, штурмавала ў гэтых мясцінах фашысцкія ўмацаванні), многія блізкія Герояў Савецкага Саюза, якія пахаваны ў Лоеве паблізу Дняпра.

Музей адкрылі пры школе. Ды тое не задавальняла Івана Рыгоравіча: мала туды заглядвала дарослых людзей. Да таго ж — неўзабаве ў гарадку пабудавалі новую дзесяцігодку, а тую, дзе працаваў Ермакоў, зрабілі васьмігадовай. Для музея трэба было шукаць іншае памяшканне.

І ўсё ж мару сваю Іван Рыгоравіч здзейсніў. Ён адшукаў Герояў Савецкага Саюза, якім гэтае званне было прысвоена за гераізм пры фарсіраванні Дняпра. Ад іх імя падрыхтаваў ліст у самыя высокія інстанцыі. А пакуль папера блукала па кабінетах, бязлітасная хвароба непрыкметна падточвала сілы чалавека.

— Не бяда, — прызнаўся Іван Рыгоравіч мне пры размове па тэлефоне. — Вось толькі палячуся ў Мінску і вярнуся ў свой музей.

Музей быў адкрыты. Назвалі яго «Бітва за Дняпро» — дакладна і трапна. Ён стаў філіялам Беларускага дзяржаўнага музея Вялікай Айчыннай вайны. На высокім правым беразе Дняпра на вечны прычал сталі армейскія пантоны, гаўбіцы — такія, якімі штурмавалі нашы байцы фашысцкія ўмацаванні на правым беразе. Збудавалі армейскі бліндаж — дакладную копію бліндажа камандарма Батава...

У адзін з дзён ціха адышоў у нябыт Іван Рыгоравіч Ермакоў. На мясцовых могілках родныя паставілі яму прыгожы помнік. Але бадай самым лепшым помнікам гэтаму чалавеку будзе тое, што зрабіў ён сам, калі пакінуў такі след на зямлі. У музеі «Бітва за Дняпро» ёсць спецыяльны стэнд, прысвечаны Ермакову. Але звычайна экскурсанты на яго мала звяртаюць увагі: ёсць нямала больш кідкіх экспанатаў і стэндаў...

## Зямля з магілы Джуры

Цяпер, калі няма ў жывых паэта Анатоля Грачанікава, аб гэтым можна расказаць. Успомніць з чыстым сумленнем.

Было тое, калі Грачанікаў працаваў першым сакратаром Гомельскага гаркома камсамола. Пісаў вершы. Зрэдку друкаваў іх на старонках «Гомельскай праўды». Якраз у тую вясну павінна была праходзіць ва Узбекістане першая Беларуская дэкада літаратуры і мастацтва. У Ташкент меліся паехаць Пятрусь Броўка, Пімен Панчанка, Аляксей Пысін, многія вядомыя артысты. Цераз Міколу Аўрамчыка з Саюза пісьменнікаў папрасілі, каб Анатоль Грачанікаў прывёз і перадаў цераз лётчыкаў у Мінск зямлю з магілы вядомага ўзбекскага паэта Султана Джуры. (Яго прозвішча чамусьці на Гомельшчыне перарабілі на Джураева; так нават назвалі адну з вуліц у Гомелі).

Султан Джура загінуў пры фарсіраванні Дняпра, служыў ён кулямётчыкам у корпусе генерала Крукава. Пахаваны ў вёсцы Казярогі, што за пяць кіламетраў ад Лоева. Над гранітнай плітой, пад якой спіць вечным сном узбекскі паэт, цвітуць настурцыі, шапочуць лістотай вярбінкі, пасаджаныя мясцовымі школьнікамі.

— Паедзем разам, — падахвоціў мяне Грачанікаў. — Вы ж казалі, што збіраецеся адвезці на радзіму ў вёску нейкія рэчы.

Я і сапраўды за некалькі дзён да таго гаварыў пры выпадковай сустрэчы, што трэба адвезці ў вёску, куды я звычайна прыязджаю летам у водпуск, сякія-такія рэчы.

забаве пасяліўся разам са мною ў брыгадзе бетоншчыкаў.

**Цэлымі днямі мы хадзілі па будоўлі, калі трэба было, браліся за рыдлёўку і тачку, ішлі на растворны вузел, дапамагалі арматуршчыкам і бетоншчыкам. Ніхто нас не бачыў з блакнотамі ў руках, ні ў кога не бралі інтэрв'ю, — жылі клопатамі будоўлі і хлопцаў нашага барака. Вечарамі часам заходзілі да дырэктара трэста № 16 Пятра Іванавіча Катаводава, чалавека адукаванага, дэмакратычнага, чулага і ўважлівага да патрэб кожнага рабочага. Ён быў летуценнік і захоплена расказваў пра будучы горад, у якога яшчэ і назвы не было. Вось яго Тарас падрабязна распытваў пра ўсе складанасці і цяжкасці будоўлі. Часам Пятро Іванавіч нас частаваў халасцяцкаю вячэраю, а калі на будоўлю прыехаў кампазітар Д. Лукас, нашы пасядзелкі ў Катаводава былі асабліва вясёлыя.**

Вось пішу і з болем думаю, што даўно ўжо няма ні Лукаса, ні Катаводава, ні Хадкевіча, але ёсць прыгожы і светлы горад. Засталіся песні Лукаса, напісаныя ў той час, і мастацкі дакумент — раман Т. Хадкевіча «Песня Дзвіны». Калі б аўтар пашкадаваў лакіровачнага бляску, раман не пабачыў бы свету. Таму так пакутліва і марудна ён пісаўся, і ўсё ж пад тонкім пластом палітуры больш суровай праўды, складаных і цяжкіх людскіх лёсаў.

**Калі мы вярнуліся ў Мінск, відаць, па рэкамендацыі Тараса, Броўка прапанаваў мне работу ў Саюзе пісьменнікаў кансультантам па паэзіі. Мы з Тарасам апынуліся ў адным пакоі ў колішнім пісьменніцкім доме на вуліцы Энгельса. Хадкевіч быў вопытным, акуратным, да педантызму абавязковым работнікам. Тоўстыя рукапісы пачаткоўцаў і адстаўнікоў-пенсіянераў ён уважліва чытаў у кансультацыі, а калі не ўпраўляўся прачытаць на рабоце, забіраў рукапісы дамоў, пісаў аўтарам падрабязныя адказы: самую горкую ісціну ўмеў сказаць далікатна, абнадзейваюча-добразычліва. Калі ж трапляў таленавіты рукапіс, або ўгадваліся здольнасці нявопытнага аўтара, ён радаваўся, як уласнаму поспеху, «перспектыўных» аўтараў выклікаў у Мінск, запрашаў на нарады маладых пісьменнікаў, грунтоўна разбіраў іх творы, лепшыя рэкамендаваў рэдакцыям часопісаў, дамагаўся выдання асобнай кнігаю, а здольнага аўтара часта запрашаў да сябе начаваць. Большасць нашых сучасных празаікаў прайшла школу Хадкевіча, адчула яго клопат, увагу і падтрымку, многія ўвайшлі ў літаратуру з благаслаўлення Тараса Хадкевіча. Калі б сабраць і выдаць усе яго адказы маладым аўтарам, гэта быў бы карысны падручнік пачынаючым аўтарам.**

Напэўна, з полацкіх часоў, як малодшага брата, любіў Хадкевіча Пятрусь Броўка, даручаў яму рыхтаваць самыя адказныя матэрыялы, выконваць неадкладныя справы, бо ведаў: Тарас ніколі не падвядзе.

Для сваёй творчай работы заставалася толькі ноч. Гэта стала звычкаю, і ў доме творчасці ён працаваў амаль да раніцы.

Аўтар многіх кніг апавяданняў і аповесцяў, раманаў «Даль палявая» і «Песня Дзвіны», Хадкевіч заставаўся няўрымслівым і дапытлівым журналістам, вострым і прынцыповым публіцыстам. Ён часта бываў на заводах Мінска, сябраваў з рабочымі і інжынерамі, ведаў іх патрэбы і праблемы і напісаў у стылі таго часу кніжку «Мая Беларусь», выдаў некалькі цікавых кніг для дзяцей.

**Звычайна зімою некалькі пісьменнікаў збіралася ў лясным утульным Доме творчасці імя Якуба Коласа. У вольны час хадзілі на лыжах, вечарамі ў холе каля тэлевізара заседжваліся часта дапазна, успаміналі пераžытае, чутае і бачанае, спрачаліся пра самыя апошнія творы, радаваліся ўдачам таварышаў. Толькі далёка за поўнач свяцілася адзінае акно ў пакоі Тараса Хадкевіча.**

**Нечакана напрадвесні ў наш ціхі дом творчасці прыехалі былы дырэктар выдавецтва Захар Пятровіч Матузаў і галоўны рэдактар Янка Казека і здзівілі нас: на гэты раз не аўтары, а выдаўцы прасілі тэрмінова напісаць кнігу пра Мінск, каб паспець выдаць да юбілею сталіцы. Пасля ўгавораў згадзіліся пісаць кнігу Уладзімір Карпаў, Раман Сабаленка, Тарас Хадкевіч і я. Работа захапіла нас. Мы абмяркоўвалі яе план, раздзелы, успаміналі самыя цікавыя факты, размеркавалі тэматыку. Тарас адразу ўзяўся пісаць пра буйную прамысловасць горада. Тады яна толькі сталела, набірала сілу, станавілася гонарам краіны.**

Кнігу напісалі даволі хутка. Добра афармленая мастаком Л. Асецкім яна паспела выйсці перад самым юбілеем і стала добрым падарункам гасцям сталіцы. Памятаю, калі быў гатовы тэкст, ілюстрацыі і афармленне, не хапала толькі назвы. Перабралі мноства варыянтаў і ўсе бракавалі. Нехта спытаў: «А што мы раскажам пра Мінск?». «Вось вам і назва», — сказаў Матузаў і ўсе згадзіліся: «Мы раскажам пра Мінск».

Пры гэтых успамінах мяне агортвае сумна-жалобная думка: з нашага дружнага аўтарскага калектыву застаўся я адзін...

**Аднойчы ў літфондаўскай паліклініцы знаёмы доктар па сакрэту і з жалем сказаў, што надоечы ў Хадкевіча знайшоў прыкметы невылечнай хваробы. Прычынаю стаў дробны выпадак: аўтааматар Тарас Канстанцінавіч паддамкраціў машыну, каб нешта пад ёю паправіць, дамкрат сарваўся, ударыў па плячы. З гэтага і пачалося.**

**Тарас, ведаючы пра небяспеку, ніколі не скардзіўся, не падаваў і знаку пра сваю бяду: па-ранейшаму жартаваў, нястомна працаваў у саюзе.**

У канцы ліпеня 1975 года я быў у каралішчавіцкім доме творчасці. У гарачы поўдзень адведаць дачку і ўнука прыехаў Хадкевіч. Я ўзрадаваўся, убачыўшы яго за рулём, і толькі пасля здагадаўся, што гэта было развітанне з любімымі мясцінамі, з домам, дзе столькі ён папрацаваў, развітанне з сябрамі і знаёмымі. Мы селі пад старою ялінаю. Тарас не скардзіўся, але цяжка дыхаў і ў вачах быў глыбокі сум. Тарас сеў за руль, усміхнуўся, памахаў рукою на развітанне. Гэта быў яго апошні рэйс. Праз два тыдні Тараса Хадкевіча не стала, але засталіся яго кнігі — сведкі свайго часу, і добрая памяць у кожнага з тых, хто хоць раз сустракаўся з ім.

Закрыўся, апусцеў наш каралішчавіцкі дом творчасці. Там цяпер адпачываюць незнаёмыя людзі, ссохла і старая яліна, праз шчыліны лаўкі прабілася крапіва. Пахадзіў на самоце і агарнуў мяне глыбокі сум: успомніліся ўсе, хто тут жыў, натхнёна працаваў, і кожны пакінуў хоць невялікі след у нашай літаратуры. Як жывы ўспомніўся шчыры, адкрыты, заўсёды добры Тарас Хадкевіч. Было б яму цяпер 80 гадоў.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ.**



Ю. БАГУШЭВІЧ, Т. ХАДКЕВІЧ.

Фота Ул. КРУКА.

**УПЕРШЫНЮ Ў «ЛіМе»**

**Мы ўжо, здаецца, пагадзіліся з тым, што ў чалавека ёсць душа. Толькі як пачуць яе ў нашым мітуслівым жыцці, у калаўроце горада? У нашых учынках яе ўсё менш і менш...**

**Душа прамаўляе ў паэзіі. Сапраўднай.**

**Учытайцеся ў гэтыя радкі. Іх аўтару — Максіму Шчуру, хлапчуку-берасцейцу, беларусу, узгадаванаму рускамоўным гарадам — усяго 15 гадоў. Ужо гады тры я з непрытоенай цікавасцю назіраю за ягонай творчасцю. І не нарадуецца маё сэрца: мужней, Максіме, вальней распраўляй свае крылы! І, дасць Бог, адгукнецца на твой голас, на галасы нашых наступнікаў бязмоўная пакуль што «краіна-бранaчка»...**

**Мікола ПРАКАПОВІЧ.**

**Максім ШЧУР**



# ГОРАД

●

**Уваходзіць лета на струнах-пальцах,**
**да месяца ручкі дзвярэй прывязвае.**
**Зоры моўчкі ў балконы звальваюцца,**
**закалыхваюць горад сваімі назвамі.**
**І ніхто не кранае лісце з пяшчотаю,**
**і няма ў каго пра дзень запытацца...**
**У горад салодкаю адзінотаю**
**уваходзіць лета на струнах-пальцах.**

●

**Навошта пастрыгся дажджом гэты**
**горад!**
**Выпадковая восень, выпадковая**
**восень...**
**Заходзяць у мой пакой незнаёмцы,**
**я ім адчыняю.**
**На іх паліто — непамытыя зоры;**
**яны малявацць на мурах мяне просяць**
**і белыя вершы спіною да Сонца**
**маўкліва чытаюць.**

●

**Аднолькавасць твараў. Чужая вопратка.**
**Пад чэрапам раніцы — думкі аблокаў.**
**Ідзем. Вецер з намі гаворыць коратка.**
**Сонца тузае цябе пад локаць.**
**Мы — заложнікі гэтых станцыяў,**
**мы — свету гэтага новая вокладка!**
**Думкі аблокаў пад чэрапам раніцы.**
**Аднолькавасць твараў. Чужая вопратка.**

●

**Ёсць людзі, што дождж адчуваюць**
**вейкамі**
**ў горадзе ночы, што там, за ракой.**
**На плошчы з будынкамі-батарэйкамі**
**прахожыя моўчкі нясуць спакой.**

●

**Мне абрыдла бегчы па гэтых раніцах,**
**дзе вокны забруджаны ценьмі людзей,**
**і дзе вочы ліхтарныя ў шыбах плямяцца,**
**І тралейбуснасць колаў па днях ідзе.**
**Я хацеў бы з табою глядзець**
**у лужыны**
**і вочы прымружаныя кахаць...**
**Гэта мокрае вецце вісіць над ружамі.**
**Разрыўныя кулі дажджу. Страха.**

●

**Калі не трэба нешта гаварыць**
**ля вокнаў зморшчаных і дрэваў**
**непрычэсаных,**
**мы дзверы ў вуліцы жадаем расчыніць,**
**каб шаргатаннем ног асфальт**
**закрэсліваць.**

**Там твары скачуць у начных вачах**
**машын,**
**мы смех свой кідаем у неба весела,**
**а ён заблытваецца ў валасах жанчын,**
**дзяўчатак лялечных і дрэваў**
**непрычэсаных.**
**Яны ідуць насустрач нам і спяць.**
**Я разумею зоры.**

●

**Святыя ліхтары**
**схавалі агонь у вецці.**
**Рамансы чужой пары**
**спяваюць начныя дзеці.**

**На Месяцы тушаць вокны...**

●

**Людзі з вузкімі вачыма**
**падмятаюць снег.**
**Я чытаць не паспяваю ветравыя**
**скруткі.**
**Нехта звонкія крышталіны скідвае**
**са стрэх.**
**Сонца тваёй жоўтай курткі.**

г. Брэст.

---

**— Добра, едзем, — пагадзіўся я.**

У той год у распараджэнні Грачанікава быў лядашчы «Масквічок». Невядома, які год ён вазіў гаркомаўскіх работнікаў па гарадскіх прадпрыемствах. Да вёскі Баршчоўка, што ў Рэчыцкім раёне, мы даехалі без асаблівых прыгод. Але далей «Масквіч» усё часцей пачаў «натурыцца». Ён шпарка імчаў, і Анатоль Сямёнавіч зухавата пакручваў руль (якніяк, чалавек закончыў чыгуначны інстытут, за плячыма была служба ў арміі ля пагранічнай станцыі Чоп). А потым легкавічок спыняўся, бы ўкопаны. Грачанікаў браў адвёртку, забіраўся пад днішча, нешта там падвінчваў. Матор зноў вуркатаў, але цяпер «Масквіч» ехаў... толькі задам.

**— Ведаеш што? — рашыў я браць грэх на сваю душу. — Давай возьмем зямлі вось тут — у любым месцы. Навошта нам пакутаваць да тых далёкіх Казярогаў? Якая розніца? Зямля ёсць зямля.**

— Не! Што вы, — адмоўна круціў галавой Грачанікаў. — Як-небудзь дабяромся.

Адпрасаваны святочны касцюм на ім пакамечыўся, стаў брудным ад пяску. На шчацэ цямнела пісяга ад змазкі.

Сяк-так мы дабраліся да вёскі Гарошкаў. Потым — да павароту на Лоеў. З Лоева павярнулі цераз малады сасоннік (садзілі мы яго з вучнямі ў пасляваенныя гады) на Казярогі. Тут пайшлі пясчаныя каляіны. Машына часта натурылася, буксавала. Але пакрысе мы набліжаліся да вёскі.

Каля мармуровай пліты за металічнай агароджай Анатоль набраў у цэлафанавы мяшок шэрай зямлі. Зямлі, на якой загінуў кожны чацвёрты...

...Назад даехалі больш-менш нармальна. Толькі занадта прыпазніліся. Пакет з зямлёй з магілы Султана Джуры Грачанікаў перадаў лётчыкам на самалёт, які ляцеў з Гомеля ў Мінск. А там (пазней ён мне сам казаў) ледзь паспелі з Саюза пісьменнікаў перадаць на самалёт, што адлятаў з беларускай дэлегацыяй у Ташкент.

...Калі перадавалі тую зямлю ва ўрачысты прэзідыум, што засядаў у акадэмічным тэатры імя Алішэра Наваі, назвалі і нашы імёны. І было тое якраз у дзень, калі ў Ташкенце адбылося жахлівае землетрасенне...

## Плыты і... цыганка

Некалькі гадоў назад прыехалі кіношнікі на Гомельшчыну здымаць дакументальны фільм пра Івана Шамякіна. Такія фільмы здымаліся пра ўсіх народных пісьменнікаў Беларусі. Разам з Шамякіным прыехалі Андрэй Макаёнак і Анатоль Грачанікаў. Мы з Пятром Белавусам — фотакарэспандэнтам «Гомельскай праўды» — дабраліся таксама ў раён Старой Рудкі былога Церахоўскага раёна, каб расказаць аб тым у газеце.

Каля старога рэчышча Сожа высіліся магутныя дубы. У цёмнае люстэрка вады глядзеліся іх кучаравыя верхавіны. У затоках застылі на вадзяной роўнядзі белыя гарлачыкі. Над імі ляталі стракозы.

— Вось тут у дзяцінстве, — расказваў Іван Шамякін, — я неяк бегаў басанож па плытах. А бацька касіў на тым беразе ракі. Я неяк паслізнуўся ды і нырнуў з галавой пад ваду між бёрнамі. А бацька косіць сабе — не чуе майго крыку... Добра, што па беразе ішла цыганка. Ухапіла мяне за валасы, выцягнула з вады...

Андрэй Ягоравіч хітравата прыжмурыў вока, зірнуў на прысадзістую, каржакаватую постаць сябра.

— Цяпер бы яна цябе не вывалакла,— мімаходзь кінуў ён.

Аператар здымаў Івана Пятровіча з рыдлёўкай каля леснічоўкі. Якраз у такой некалі нарадзіўся будучы пісьменнік. Але тая згарэла. Здымалі ў іншай — дакладнай копіі той. Шамякін расказваў, што леснічоўкі гэтыя будавалі па загаду князя Паскевіча (яны і цяпер стаяць). Пасярод ставілі печ.

— Гэта — каб ляснік мог займаць «кругавую абарону», калі нападуць лясныя бандыты. Так тлумачыў мой бацька, — расказваў Шамякін.

Пісьменнік прыгадаў, як у галодны трыццаць трэці год хадзіў за бацькавым «пайком» з леснічоўкі ў лясніцтва. Давалі бутэльку алею і бохан чэрствага хлеба. Хлапчук прыціскаў да грудзей, як самы дарагі скарб, той бохан, калі вяртаўся дадому. А навокал стаялі стромкія сосны, бярозы. І тут на яго напаў худы, цыбаты дзяцюк. Рвануў да сябе торбу з алеем і хлебам. Малы Іванка з усіх сіл учапіўся ў торбу. Барукаліся доўга, зацята — быццам ад таго залежала жыццё. (А мо яно так і было?)

— Мусіць, аслабеў ён, — расказваў пісьменнік, — бо ўсё ж не адабраў ад мяне бацькаў «паёк». А ростам вышэйшы за мяне быў, ды, відаць, і старэйшы. З Украіны, мусіць, прыбіўся сюды, пад Гомель...

У двары леснічоўкі, дзе мітусіўся з кінаапаратам аператар, буяла крапіва. Над вушаком будынка знайшлі прытулак восы. Усё было «закінута», забыта, хоць бярвенні леснічоўкі не патачыў шашаль. Умелі будаваць пры Паскевічы...

# КЛЮЧЫ АД ЦЫРКА БЕЛАРУСІ

**Размова на арэне «ЛіМа»**

**НАВЕДНІКАЎ рэдакцыі прадставіў наш даўні аўтар Аляксандр Росін, адзін з нямногіх журналістаў, дасведчаных у мастацтве цырка, лаўрэат часопіса «Советская эстрада и цирк». Такім чынам, пазнаёмімся.**

**Валянцін Кашуба, дырэктар фірмы «Арт-экспрэс», таварыства з абмежаванай адказнасцю, зарэгістраванага ў Мінску летась у верасні. 24 гады прарабіў у «Союзгосцирке» (пачынаў у Мінску).**

**Валерый Маторын, галоўны рэжысёр фірмы «Арт-экспрэс», пачынаў вучобу ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце (курс У. Маланкіна), скончыў ГИТИС, у канцы 70-х быў галоўным рэжысёрам Мінскага цырка, затым — цырка ў Адэсе.**

**Васіль Крамянецкі, афіцыйны беспрацоўны, 32 гады прарабіў у сістэме «Союзгосцирка», у тым ліку 20 — рэжысёрам-інспектарам манежа ў Мінску.**

**Усе трое — спрактыкаваныя і дасведчаныя спецыялісты, маюць багаты вопыт замежных гастроляў. Усе трое не ўяўляюць сваё жыццё без цырка і — без Беларусі. Усе яны — мінчане.**

**Мабыць, у іхніх руках — і ключы ад будучыні цырка Беларусі? І так, і не. Пакідаю «за кулісамі» жыццяпіс Мінскага цырка, пра які падрабязна распавялі мае суразмоўнікі. Для разумення праблемы, з якой яны сутыкнуліся, дастаткова, бадай, некалькіх штрыхоў.**

**Прынамсі: на пасаду дырэктара сюды тройчы і запар прызначаліся работнікі апарату ЦК КПБ, бо ў тагачасных умовах дырэктарам цырка мог зрабіцца чалавек без спецыяльнай адукацыі. Усё цыркавое прадпрымальніцтва было засяроджана ў главку ў Маскве. Мінскі манеж існаваў як пляцоўка для пракату прывезеных праграм. Ды летась «Союзгосцирк» распаўся, работнікі гэтай сістэмы аўтаматычна зрабіліся беспрацоўнымі. Дырэктар жа Мінскага цырка, чыя працоўная кніжка таксама знаходзілася ў Маскве, застаецца на сваёй пасадзе, і ягоная дзелавая актыўнасць зусім не адпавядае становішчу беспрацоўнага, у якім, паводле логікі, ён мусіў апынуцца нароўні з іншымі калегамі-беларусамі.**

**Іван Сямёнавіч Пашкевіч паранейшаму гаспадар у цырку, хоць знаны будынак перастаў быць пракатнай пляцоўкай магутнай усесаюзнай індустрыі, перайшоўшы пад апеку Міністэрства культуры Беларусі, якое павінна зацвердзіць новага (ці пакінуць старога) кіраўніка.**

**Арганізатары фірмы «Арт-экспрэс» (першапачатковы капітал яны атрымалі ад спонсара — Беларускай камерцыйнай прамысловай асацыяцыі, «БЕЛКАМАС»), маючы на мэце стварэнне праграм беларускага цырка і садзейнічанне іх шырокаму пракату, запрасілі да супрацоўніцтва і тав. Пашкевіча, прапанавалі яму ўвайсці ў савет заснавальнікаў. Той пагадзіўся. Усё гэта было юрыдычна, праз гарвыканком, аформлена, пра што сведчыць дакумент з пячаткай, але...**

**Але энтузіясты згуртаваліся не дзеля таго, каб рабіць грошы, многа і хутка, — іх турбавалі перш за ўсё творчыя праблемы. Долары з неба пакуль не пасыпаліся. А Пашкевіч, па невытлумачальных прычынах, удзельнічаць у таварыстве раптам адмовіўся.**

**Збянтэжаныя і ўстрывожаныя шэрагам акалічнасцей, дзеячы новага цыркавога прадпрыемства звярнуліся ў «ЛіМ»...**

## Якія праблемы?

**А. РОСІН.** Праблема нашых энтузіястаў у тым, што іхнія правы і аўтарытэт засталіся ў былым «Союзгосцирке», там іх не трэба было прадстаўляць — іх ведалі. А ў сябе дома даводзіцца пачынаць з нуля. І ў неспрыяльных умовах. Шкада, што пакуль прафесіяналы давядуць усім перавагі сваёй канцэпцыі цырка суверэннай Беларусі, шмат часу сплыве марна. Якія б добрыя намеры не меў Пашкевіч, ён, працуючы па-старому, зможа толькі скласці праграму з нумароў расійскага цырка, аздобіўшы яе беларускім пралогам.

**В. КАШУБА.** Склалася ўражанне, што дырэктар і не хоча рабіць сваё — лягчэй з дапамогай «Росгосцирка» сабраць гатовае, апрануць артыстаў у беларускія касцюмы, аздобіць відовішча адпаведнай музыкай і выдаць за дасягненні нацыянальнага цыркавога мастацтва. Ды колькі б маскоўскіх «зорак» ні запрашалі на стварэнне новай праграмы, гэта будзе ўсё па сутнасці чужое, яны ніколі да нашых краёў не прыгорнуцца.

**С. БЕРАСЦЕНЬ.** Якім жа чынам прапануеце ствараць беларускі цырк вы?



Адсюль пачынаецца шлях новага цырка Беларусі.

**В. КАШУБА.** А мы для гэтага ўжо сёе-тое і робім. Беларусь багатая народнымі цыркамі: Брэст, Жодзіна, Барысаў, Наваполацк... Трэба зладзіць кантакты з самадзейнасцю, і мы сядаем ва ўласную машыну, і едзем...

**В. МАТОРЫН.** Днямі вярнуліся з Брэста, глядзелі там вядомы цырк Даўгялаў, які ўзначальвае дырэктар спартшколы Сяргей Калачоў. Ён сам працаваў у цырку, рыхтуе досыць добрага ўзроўню акрабатычныя нумары. Прапанавалі ўдзельнічаць у нашай першай беларускай праграме — а ён падзяліўся сваімі планамі наконт стварэння ў Брэсце школы цыркавой акрабатыкі. Гэтая задумка стасуецца і з нашай ідэяй.

**В. КРАМЯНЕЦКІ.** А яшчэ мы перамовіліся з дырэктарам стацыянарнага цырка ў Гомелі, Якавам Лабовічам. Сам ён музыкант, граў у цыркавым аркестры, працаваў адміністратарам. Словам, прайшоў школу жыцця ў цырку. Таму зразумеў нас адразу, гатовы далучыцца да стварэння цырка Беларусі, прадаставіць сваю базу для рэпетыцый, гасцініцу артыстам... Мы маглі б ставіць і пытанне наконт сваёй цыркавой школы, але пакуль ранавата. Адкрыць хоць бы спецкурс, дапусцім, пры Мінскім інстытуце культуры ці пры акадэміі мастацтваў адразу немажліва, бо хто там будзе выкладаць? Дэфіцыт прафесійных кадраў. Ма і ёсць добрыя педагогі, трэнеры сярод ветэранаў, пенсіянераў, але іх адштурхнулі ад цырка. Адзін з такіх, напрыклад, уладкаваўся масажыстам у лазню, у бок цырка стараецца не глядзець, бо крыўдна.

## Гэта штосьць дзіўнае...

**В. КРАМЯНЕЦКІ.** Цырк ператварыўся ў нейкі замкнёны аб'ект! Губляюцца глыбінныя сувязі паміж моладдзю і старымі, якія маглі б сказаць: «Цырк — гэта наш дом». Раней жа ў цырку жылі, разам смажылі бульбу ў будні, разам адзначалі святы; дзеці цыркавых артыстаў тут жа гадаваліся. Пра іх так і казалі: «Нарадзіліся ў пілавінні». Былі свае традыцыі: у цырку моладзь віталася са старэйшымі, нават незнаёмымі. Да старэйшага пачціва звярталіся «дзядзечка». Манеж шанавалі, як святыню: сесці спіною да манежа лічылася страшным грэхам, за гэта маглі даць добрага выспятка. Цяпер жа моладзь, якая прыходзіць са спорту, выказвае да цырка непавагу. Элементарна нявыхаваныя дазваляюць сабе свістаць на манежы...

Дзе вы яшчэ бачылі, каб гэтак бяздумна зніштажалі традыцыі, адштурхоўвалі ветэранаў ад новых пакаленняў? Нават на рэжымных прадпрыемствах такога няма! А для нашых пенсіянераў уваход у цырк замкнёны. Іх не запрашаюць на прэм'еры, на рэпетыцыі, на мастацкі савет, не цікавяцца іх меркаваннямі, ігнаруюць найбагацейшы вопыт. Хоць зразумела, што з цырка на заслужаны адпачынак ідуць не знямоглыя дзядулі, а спрактыкаваныя артысты, якія ведаюць і падкажуць пачаткоўцу тое «нешта», з-за чаго ў маладзёна можа месяцамі не атрымлівацца трук.

**А. РОСІН.** Усялякі дырэктар мусіць мець зацікаўленасць у прыцягненні людзей, якія пісалі б пра справы ягонага прадпрыемства. І дзе б я ні быў па журналісцкіх камандзіроўках, мяне заўсёды гасцінна прапускаюць у цырк. Апроч... мінскага, пра які я пішу ўжо два дзесяткі год!

**В. МАТОРЫН.** А тутэйшыя адміністратары ганарацца тым, што кагосьці не пускаюць у цырк! Не так даўно бачыў, з якімі праблемамі праходзіла сюды па справах карэспандэнт рэспубліканскага часопіса. Я выказаў сваё абурэнне. І пачуў: «Падумаеш, журналіст! Мы нават Эсамбаева ў цырк не пусцілі!»

**В. КРАМЯНЕЦКІ.** З-за таго, што на прахадной не прапускалі тых, чыё жыццё прайшло ў цырку, мы страцілі шмат...

**А. РОСІН.** Вось так марнуецца і цяперашні патэнцыял беларускага цырка, і ягоная перспектыва, бо ў дырэкцыі няма клопату пра тых ураджэнцаў Беларусі, якія вучацца ў Дзяржаўным вучылішчы цыркавога мастацтва ў Маскве. Я размаўляў нядаўна з аршанскім хлопцам, таленавітым эквілібрыстам, які праз 2 гады канчае вучыцца, але ўжо занепакоены: куды ж уладкавацца?

**В. КАШУБА.** І такіх многа! Сярод будучых выпускнікоў ДВЦМ, напрыклад, — дзяўчынкі-блізняткі з Гродна, унікальны жанглёрны нумар...

**В. МАТОРЫН.** А беларусы-клоуны Гулевіч ды Варанецкі, якія працуюць яшчэ на колішнім цыркавым «канвееры»? Яны ўжо неўзабаве выходзяць на пенсію: узрост... Маглі б прычыніцца да стварэння беларускага цырка.

**В. КРАМЯНЕЦКІ.** Трэба неяк заахвочваць, «прывязваць» да рэспублікі нашых землякоў: у каго як не ў іх будзе зацікаўленасць працаваць менавіта тут?

**В. МАТОРЫН.** Мы, дарэчы, і ў Мінску знайшлі сяго-таго для сваёй праграмы: ёсць гімнасты-турністы, акрабаты-вальціжоры, акрабаты-скакуны... Але яны пазбаўлены магчымасці рэпеціраваць у цырку! Усе беларусы, усе — жыхары сталіцы, вымушаныя туліцца ў спартыўных залах ці адпрацоўваць свае нумары, скажам, у Палацы МАЗа. І гэта — вось што крыўдна! — у той час, калі манеж пустуе.

## «А в терем тот высокий...»

**С. БЕРАСЦЕНЬ.** Няўжо і вашу суполку не пускаюць у цырк?

**В. МАТОРЫН.** Творчыя праблемы дырэктара не цікавяць; відавочна таму многія памяшканні дзяржцырка (няйначай, вельмі выгадна) здаюцца ў арэнду кааператарам. Тут парабілі склады, наладзілі нейкі крамны гандаль. Жуйку гумавую прадаюць... Не здзіўлюся, калі зручны па форме круг арэны зойме пад свае патрэбы якая-небудзь біржа. Так, для нашай фірмы тут не знайшлося нават аднаго пакоя. Мы вымушаныя туліцца ў вагончыку летняга цырка, арандуючы яго «на птушыных правах». Калі б у Пашкевіча быў сапраўдны клопат пра будучыню беларускага цырка, ён зрабіў бы, відаць, так, як зрабіў ягоны калега на Украіне: той звярнуўся з адозвай да землякоў, яны сабраліся «пад адным дахам», і цяпер Украіна мае свой цырк.

**С. БЕРАСЦЕНЬ.** Пашанцавала Украіне. Тым больш, ёсць і сваё цыркавое вучылішча. А ў нас, значыць, зноў славутае беларускае самаедства. І «в терем тот высокий нет хода никому».

**В. МАТОРЫН.** Ну, не ведаю, як гэта назваць... Я хацеў далучыцца да працы ў сябе «дома», нікуды не хачу з'язджаць. Маючы вопыт працы ў манежы, прапаноўваў свае паслугі не толькі ў якасці рэжысёра, а і ў якасці «ковёрного». Прапаноўваў прадаўжаць правядзенне «ранішнікаў» для дзяцей у дні канікулаў. І тое не трэба, і гэтае не трэба. Так мне Пашкевіч і не растлумачыў, дзе ж мусіць працаваць, ствараць свой нумар артыст, які жыве ў Мінску! Кастрама яго не возьме, Кіеў таксама. А я з 62-га года ў цырку і больш нічога не ўмею рабіць. І я не хачу нават галоўным рэжысёрам з'язджаць ва Уладзівасток ці ў Кастраму. Я хачу працаваць «дома»!

**В. КРАМЯНЕЦКІ.** Вось з-за такога прыніжэння і ветэраны даўно рукой махнулі на гэты «дом»! З чым ён у рэшце рэшт застанецца?

**С. БЕРАСЦЕНЬ.** Ну, вы мяне пераканалі, што ключы ад «дома» ў спрытных руках. Вось кааператары знайшлі сабе тут прытулак. А манеж «парадавалі» пачвары «Шок-шоу», якое, паводле рэкламы, людзям са слабымі нервамі не рэкамендавалася глядзець...

**А. РОСІН.** Вось-вось! Куды прасцей — не займацца ўсур'ёз творчасцю, а хуценька «зрываць грошы» за кошт якойсьці, даруйце, брыдоты, накшталт таго самага «Шок-шоу» (20 руб. за білет!) ці «Балю сатаны», ці конкурсу татуіраваных голых цел...

**В. КАШУБА.** Дзеля чаго тады будавалі цырк? Мінкультуры, яго цяперашні куратар, павінна было б звярнуць увагу на тое, як выкарыстоўваецца будынак. Дарэчы, І. С. Пашкевіч, калі працаваў у ЦК, глядзеў усе новыя праграмы, пільнуючы іх ідэйна-эстэтычную чысціню, а цяпер як дырэктар цырка, відаць, «страціў пільнасць», калі дапускае на арэну відовішчы такога гатунку...

**В. МАТОРЫН.** Гэта шлейф сістэмы цягнецца: прыходзілі кіраўнікі, «спушчаныя зверху», аддалялі прафесіяналаў, каб лепш выглядаць на фоне дылетантаў; займацца, так бы мовіць, вытворчасцю арыгінальнага цыркавога прадукта не было патрэбы, бо займаліся пракатам гатовых праграм — як кінатэатры займаюцца пракатам фільмаў, не маючы ніякага дачынення да іх здымкаў. Але ж трэба было «ажыццяўляць кіраўніцтва»! Папярэднікам Пашкевіча быў таксама колішні работнік ЦК, дык ён чамусьці любіў гэта падкрэсліваць, пакуль адзін артыст не вытрымаў: «Ну, чаго вы ўсё напамінаеце нам, што прыйшлі з ЦК? Калі б вы з цырка ў ЦК пайшлі, мы б вас паважалі».

**А. РОСІН.** Вось ужо і ЦК няма, і «Союзгосцирка». Зна-

# СПАСЦІГНУЦЬ КОСМАС, У ЯКІМ ЖЫВЕ НАЦЫЯ



Каменны ідал, перароблены на крыж.

(Пачатак на стар. 5).

фальклору. Можна канстатаваць узаемапранікненне традыцый, іх сінтэз.

Безумоўна, хрысціянства за тысячу гадоў аказала значны ўплыў на мараль грамадства, змякчэнне яго нораваў. Але традыцыйныя культы, каляндарная абраднасць за гэты час мала змяніліся. Хаця на шляху сінтэзу рэлігій былі і страты. Дагматычная частка духавенства імкнулася выкараніць усё, што не адпавядала «класічнаму» хрысціянству.

**— Нарэшце хацелася б пачуць ваша разуменне беларускага светапогляду ці менталітэту. Пытанне гэтае многіх з нас сёння хвалюе, прыцягвае пільную ўвагу і даследчыкаў, і палітыкаў, і шараговых грамадзян. У «ЛіМе», дарэчы, год таму распачалася палеміка наконт гэтага пытання, але яно далёка не высветленае...**

— Фармаванне беларускага светапогляду ўяўляецца дужа складаным працэсам найперш з-за складанасці беларускае гісторыі. Кожны новы гістарычны паварот накладаў на светапогляд, на нацыянальную ментальнасць свой адбітак. Калі першакрыніцу, вытокі шукаць дужа глыбока, дык ужо сам пачатак — гвалтоўны — нашае датаванае гісторыі (падзеі, звязаныя з Рагвалодам і Рагнедай) павінен быў адбіцца на этнапсіхалогіі. Бліжэй да нашага часу моцны дэфармуючы ўплыў на нацыянальны менталітэт аказала працяглая адсутнасць беларускае дзяржаўнасці. Можна таксама выдзеліць такія «шокавыя» моманты, як «мураўёўшчына» і звязаная з ёй дзейнасць «западноруссов», пазней — сталінскія «вялікія пераломы».

Даследаваўшы, можна знайсці і іншыя чыннікі, але ці не самым важным, фаталістычным для лёсу нацыі можна лічыць расколатасць беларусаў-вернікаў на праваслаўных і каталікоў, што часта вяло і цяпер вядзе да памылковага атаясамлівання рэлігійнай і нацыянальнай прыналежнасці... Што варта



Капішча з Дажбогавым каменем (в. Крамянец Лагойскага раёна).

адзначыць яшчэ? У адрозненне ад шэрагу краін Еўропы ў нас празмерна хутка адбылася урбанізацыя, у часе якой расейскамоўны горад паглынуў вялізную масу вяскоўцаў са сваімі незнішчальнымі комплексамі «калгаснасці» і непаўнавартасці. Тыя прышлыя вяскоўцы не зрабіліся сапраўднымі гараджанамі па духу, па ўспрыманні гарадской культуры... У наш век прэсы, радыё і тэлебачання нельга не ўлічваць і шматгадовую, масіраваную прапаганду імперскасці, з-за чаго свядомасць значнае часткі нашых суграмадзян засмечана «саўковай» маскультурай. Ніколі не забудуся, як у радыёінтэрв'ю загадчыца аднаго вясковага клуба з захапленнем па-беларуску распавядала пра святкаванне ў іхнім месцы «проводов русской зимы». Вось жа—нават і зімы сваёй людзі не маюць!..

Тым не менш пад усім наносным шалупіннем існаваў і захаваўся беларускі менталітэт з яго плюсамі і мінусамі. Яшчэ на пачатку XIII ст. крыжакі папракалі палачан за тое, што яны «стараюцца пакарыць краіны не для адраджэння праз веру Хрыстову, а дзеля падаткаў і здабычы». Тут мыназіраем знаёмую беларускую рысу— адсутнасць імкнення навязаць свае перакананні іншым. Але ж, дальбог, «нашы недахопы — працяг нашых вартасцяў». Пэўная частка беларусаў вызначаецца адсутнасцю настойлівасці ў абароне ўласных перакананняў. Заціснутыя паміж моцнымі суседзямі, беларусы так і не набылі псіхалогіі месіянізму, уласцівай расейцам і палякам, жадання сілком ашчасліваць іншых. Калі ж даводзілася жыць пад уладай іншых дзяржаў, народ Беларусі ў большасці ставіўся абыякава да абароны чужых інтарэсаў, замыкаючыся ў сваёй тутэйшасці, любові да роднай зямлі. Так было, напрыклад, у апошні перыяд існавання Рэчы Паспалітай, калі з-за паланізацыі вышэйшых саслоўяў паміж імі і асноўнай масай беларускага люду ўзнікла значнае адчужэнне, так было і пазней... Найлепшага выніку, як паказвае гісторыя, беларусы дасягаюць пры ўмове ўласнае самастойнасці, без чужога нагляду і загаду. Найбліжэй па развіцці да Заходняй Еўропы Беларусь стаяла менавіта ў сярэдзіне XVI ст., калі наша дзяржава з'яўлялася ЦАЛКАМ НЕЗАЛЕЖНАЙ.

**— Вернемся, калі ласка, да фаталістычнай рэлігійнай расколатасці беларусаў. Даводзіцца чуць выказванні, што гэтая расколатасць з'яўляецца ці не галоўнай прычынай нашых нацыянальных няшчасцяў. Ці слушна так адназначна трактаваць гісторыю?**

— Рэлігійная раздвоенасць у сэнсе ментальным якраз мела і пазітыўнае значэнне. Не маючы адзінай рэлігіі-кансаліданта, падзеленыя на каталікоў і праваслаўных, беларусы праз тую расколатасць не набылі ні польскага фанатызму, ні маскоўскай «истовости в вере». Гэта можна заўважыць нават чыста знешне: цэркваў і касцёлаў «на душу насельніцтва» на Беларусі заўсёды было значна менш, чым у Маскоўшчыне або ў Польшчы. Вера беларуса заставалася пераважна ўнутранай, без паказной набожнасці. У гэтым — наша адрозненне ад усходніх і заходніх суседзяў, якія не раз выкарыстоўвалі знешняе «благочестие» як палітычную карту.

Паводле вядомай прытчы, Бог пры падзеле свету даў беларусам самую цудоўную зямлю, але і самае кепскае начальства. Наконт начальства прыкмечана дакладна, але праўда і тое, што не заўсёды хапае ініцыятывы ды настойлівасці яго «падправіць». Нам чужыя як пасіўная сузіральнасць Усходу, гэтак і ягонае ж славутае «Ты моему надрыву не препятствуй!». Але энергія актыўнейшай часткі народа заўсёды шукала выйсця, і не віна народа, а яго бяда, што пры адсутнасці сваёй дзяржавы (ці толькі фармальным яе існаванні) гэтая энергія часта служыла ўзвелічэнню **чужой** дзяржавы, Бацькаўшчыны (прыклады — Тадэвуш Касцюшка, Аляксандр Меншыкаў, Ігнат Дамейка, Зыгмунт Мінейка ды безліч іншых дзеячаў).

**— У палітычнай палеміцы, якая вядзецца цяпер, тутэйшыя «касмапалітычныя» дэмакраты — абаронцы правоў рускай меншасці на Беларусі — выкарыстоўваюць хадульны аргумент прарасейскай палітыкі: «родство душ» (рускай і беларускай). Знаёмы ўжо «расцвет наций через их сближение»...**

— «...Через их слияние», — так будзе дакладней. Што да «родства», дык пры пэўным знешнім падабенстве ніякага падабенства светапогляднага мы не знаходзім. Беларускі светапогляд значна адрозніваецца ад расейскага. Узяць такі прыклад: тое, што для расейцаў «благо» (г. зн. добра), для беларусаў папраўдзе блага (кепска).

Для беларусаў не характэрна знешняя бравада, накшталт услаўляемай у песнях «русской удали». Яшчэ ў сярэднявеччы для беларусаў, прынамсі, для незапрыгоненай іх часткі, было ўласціва пачуццё годнасці, у дакументах адсутнічалі такія звароты, як «твой холопишко Петруша». Раба, лянівага, задзірыстага толькі ў адсутнасці гаспадара, выхоўвае, як вядома, сістэматычнае прыніжэнне чалавека. Беларусь жа не ведала азіяцкага іга з яго жорсткім падаўленнем асобы, накіроўваннем энергіі пераважна на знешняе. Імкнення да крыклівай вонкавай паказухі ў нас ніколі не было: скажам, звычаю пакрываць пазалотай купалы цэркваў—і зусім не з-за беднасці.

Добра гэта ці блага, але Беларусь абмінулі такія прэтэнцыёзныя ідэі, як канцэпцыя апошняй цытадэлі праваслаўя альбо «трэцяга Рыму». Працяглыя і сталыя кантакты Полацка і Турава, а потым Вялікага княства з Заходняй Еўропай абумовілі спакойныя і блізкія адносіны беларусаў да еўрапейскай культуры, пазбеглі мы і супрацьпастаўлення «разбэшчанага» Захаду «праведнаму» Усходу.

**— У сучасных беларусаў, пры іх адноснай еднасці, можна знайсці значныя адрозненні ў паводзінах, светапоглядзе, мове таксама — напрыклад, у жыхароў заходняй Гарадзеншчыны і Усходняй Магілёўшчыны. Чым абумоўлены, на вашу думку, такія адрозненні, і ці можна казаць, што дзесьці, на нейкім арэале сучаснай Беларусі, існуе праўдзівая беларуская супольнасць, а дзесь — не зусім праўдзівая?**

— Пачну з рэплікі трохі не па тэме. У еўрапейскай традыцыі прынята ўсе імёны ўласныя, у тым ліку назвы народаў, пісаць з вялікай літары. Ва ўсходніх славян этнічныя назвы так пісаліся да 1917 года. Змена правіла была, бадай, першым адлюстраваннем змен у адносінах да этнасаў як самацэнных сацыяльных супольнасцяў.

Працэс фармавання беларускае нацыі з-за шэрагу гістарычных абставінаў аказаўся недастаткова завершаным. Трэба ўлічваць разарванасць Беларусі на часткі пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, па Рыжскай дамове 1921 года і сталінскіх перадзелах. Яшчэ цяпер старэйшае пакаленне ўсведамляе даваенны падзел на «заходнікаў» і «ўсходнікаў». Жыццё гэтых дзвюх частак у тагачасных СССР і Польшчы сапраўды наклала адчувальны адбітак на ментальнасць жыхароў, ён адчуваецца і цяпер. У межах Заходняй Беларусі можна таксама прасачыць адрозненні ў паводзінах і мове асобных мясцовасцяў з праваслаўным, каталіцкім ці рэлігійна змешаным насельніцтвам (чаго нельга сказаць пра моладзь, якую нівелюе русіфікаваны горад).

У тых частках беларускага этнасу, якія воляю палітычных камбінацый апынуліся за дзяржаўнымі межамі Рэспублікі Беларусь, мова і ментальнасць зазналі значныя змены. Напрыклад, беларусы Віленскага краю, захаваўшы беларускую мову, тым не менш лічаць сябе палякамі. (Мне вядомы і такі факт, што ў вёсцы на Мастоўшчыне ксёндз пагражаў праклясці тых вернікаў, хто афіцыйна не запішацца палякам). На беларусаў заходняе Смаленшчыны аказала ўплыў поўная адсутнасць беларускіх школ і ўстаноў культуры, а таксама шматгадовая прапаганда пра тыя землі, як «западный форпост России». Свае асаблівасці склаліся і ў беларусаў Беласточчыны...

Гаворачы пра ўсебеларускую еднасць, трэба мець на ўвазе, што пасля страты дзяржаўнасці і паланізацыі альбо русіфікацыі вышэйшых саслоўяў культура мусіла развівацца пераважна ў фальклорна-сялянскай форме. Прафесійная гарадская надрэгіянальная сфера культуры перастала адыгрываць кансалідуючую ролю, не здолела прапагандаваць агульныя для ўсяе нацыі каштоўнасці. Такое становішча існавала і пад савецкім часам. Можа, таму захаваліся рэгіянальныя адрозненні ў светапоглядзе і паводзінах.

Наконт арэалу з найбольш «праўдзівай» беларускай супольнасцю магу выказаць дапушчэнне, што найперш гэта тэрыторыі паміж сучаснай і колішнімі сталіцамі — Менскам, Полацкам, Навагрудкам, Вільняй. Своеасаблівы прыём — картаграфаванне мясцін нараджэння беларускіх пісьменнікаў — выявіў найбольшую іх канцэнтрацыю ў раёне Слуцак — Капыль — Узда. Хаця, канешне, невядома, наколькі апошні паказчык можа служыць індыкатарам «пасіянарнай актыўнасці» нашага этнасу.

З пункту гледжання археолага магу канстатаваць, што найбольш характэрная этнічная тэрыторыя — гэта арэал, дзе ў старажытнасці адбывалася змешванне славянаў з балтамі. Рызыкую стаміць пільнага чытача даведкамі, але скажу, што ўжо ў V—VIII стст. існавала банцараўская культура, межы якой на ўсходзе, паўночным усходзе і поўдні супадаюць з этнічнымі межамі беларусаў (па Я. Карскаму). Дастаткова дакладна этнічная мяжа пазнейшага часу прасочваецца таксама не толькі па моўных прыкметах, але і па арэалу распаўсюджання такой з'явы, як валачобныя песні.

**— Ізноў паганства... Дык ці верыце вы ў адраджэнне традыцый паганства, аднаўленне ягонай маральнай функцыі ў нашым народзе?**

— Поўнае адраджэнне паганства немагчымае хаця б па той прычыне, што мы ніколі не адновім той сумы звестак, якія адносяцца да гэтага комплексу вераванняў. Некаторыя звенні беззваротна згублены, і навука не можа іх рэканструяваць. Нават пра антычныя рэлігійныя сістэмы, якія добра адлюстраваны ў пісьмовых крыніцах, невядома абсалютна ўсё, а беларускае паганства ў многіх адносінах магчыма вывучыць толькі па ўскосных дадзеных. Дый веды пра старажытную рэлігію мы ўспрымаем вачамі людзей канца XX стагоддзя. Не ўсё з паганскіх маральна-этычных нормаў прымальна сёння. Тым не менш вяртанне да каранёў, да вытокаў этнічнае аўтэнтычнасці — натуральны працэс, які паклікаsuccessful нацыянальным Адраджэннем. Без такога вяртання немагчыма захаванне гістарычнае памяці.

Нельга забывацца пра тое, што паганская рэлігія беларусаў — вынік развіцця незлічоных пакаленняў нашых продкаў на працягу тысяч гадоў, і таму гэтая рэлігійная сістэма ў максімальнай ступені адлюстравала як псіхалогію людзей нашае зямлі, гэтак і іх духоўны вопыт. Гэта, на маю думку, не супярэчыць хрысціянству, як маральнай аснове сучаснага грамадства. Хрысціянства як сусветная рэлігія нічога не страціць, калі будзе мець нацыянальныя дадаткі ў выглядзе фальклору, эпасу, літаратуры, выверaных стагоддзямі звычаяў. Накшталт як у Бібліі ёсць адлюстроўваючы старажытную гісторыю яўрэяў Стары Запавет, дык варта падумаць, каб у кожнага народа ў якасці такога запавету выступалі здабыткі яго народнае творчасці і гісторыі.

У цяперашні час, калі ўскладніліся экалагічныя праблемы, аднавіць суладдзе ў адносінах чалавека з прыродай дапамагло б вяртанне да выверанага тысячагоддзямі светапогляду **зліцця** з прыродай. Вяртанне да старажытных традыцый спрыяла б і гарманізацыі адносін паміж людзьмі. Вывучэнне і ўзнаўленне здабыткаў нацыянальнага паганства даўно разгарнулася ў краінах Заходняе Еўропы, дзе гэта выклікана рухам за вяртанне да ўласных этнічных каранёў.

Зрэшты, мае меркаванні можна ўспрымаць па-рознаму, бо яны не прэтэндуюць на бясспрэчнасць. Але несумненна тое, што беларусы, страціўшы многае за апошнія стагоддзі, не павінны абмяжоўвацца ў духоўным працэсе тым, што з'явілася пасля прыняцця хрысціянства, а творча і па-гаспадарску выкарыстаць усю папярэднюю духоўную спадчыну.

**— Дзякую за гутарку.**

МУЗЫКА

## Тры канцэрты ў Іспаніі

Напрыканцы лютага ў ДАВТе Беларусі запанавала нязвыклая цішыня. Аркестр тэатра, на чале з галоўным дырыжорам А. Анісімавым, з'ехаў... у Іспанію. Такія «малыя гастролі» ў гісторыі гэтага творчага калектыву першыя. Упершыню разам з аркестрам выехалі і салісты оперы: Н. Кастэнка, Н. Руднева, Э. Пелагейчанка ды А. Саўчанка. Майстры музычнага мастацтва Беларусі меліся даць у Іспаніі тры канцэрты, у тым ліку і ў Мадрыдзе. Што і як — пра гэта чытачы разам з намі даведаюцца ў бліжэйшы час.

Н. К.

## Ёсць у Барысаве дом...



Так, ёсць у Барысаве будынак, трапляючы ў які, школьнікі ператвараюцца ў маленькіх артыстаў: музычная школа. Сёлета ёй — 40 гадоў. Гэта адна з лепшых школ на Міншчыне, яна лічыцца базавай школай зоны — аб'ядноўвае 6 навучальных устаноў вобласці. Сёння тут вучыцца больш як 600 таленавітых дзяцей.

Захопленыя й дасведчаныя педагогі школы дапамагаюць юным не толькі навучыцца іграць (навучанне вядзецца на 15-ці інструментах), але і прылучыцца да мастацтва. Шмат намаганняў аддаў станаўленню школы П. Клопаў, яе першы дырэктар, чые традыцыі прадоўжылі сын — цяпер педагог баяннага аддзялення, і ўнук. З 70 педагогаў школы 45 — яе выпускнікі.

З 1 класа юныя музыканты выступаюць на сцэне, удзельнічаюць у розных конкурсах... Але давайце зазірнём у клас, адкуль чуваць гукі фартэпіяна. Урок вядзе старэйшы педагог І. Уладзімірава. Многія педагогі школы — яе былыя вучні: напрыклад, Я. Качубей, які штоконкурс паказвае цікавых маленькіх віртуозаў. А ў зале ідзе рэпетыцыя унісона цымбалаў, пераможцы абласнога конкурсу (кіраўнік Л. Скачак). А вось — чароўныя гукі скрыпкі: на струнным аддзяленні ёсць таленавітая дзяўчынка Л. Бацека (клас А. Фаменкі), лаўрэат двух фестываляў народнай музыкі «Сымон-музыка».

Вучні школы выступаюць з канцэртамі на заводах, у ПТВ, дзіцячых садах, у вёсках, у санаторыі «Бярэзіна», у гарадской бібліятэцы... На жаль, сёлетнія цяжкасці з транспартам не дазваляюць рэгулярна выступаць па-за сценамі школы. Шкада, бо, апроч 15-ці інструментаў, маглі б жыхары Барысава слухаць камерны, народны, духавы аркестры, унісоны скрыпачоў ды цымбалістаў, фальклорны ансамбль. Заўсёды падзея — канцэрты педагогаў, чый прафесіяналізм дорыць нямала прыемных хвілін. А сёлетнімі іх выступленнямі будзе адзначаны юбілей школы.

М. ПІШЧАНКА.

г. Барысаў.

## Як лепей падарожнічаць...

Відаць, хутка наўрад ці знойдуцца жадаючыя выконваць папулярную песню: «А я еду, а я еду за туманом...» Бо што казаць пра нейкія далёкія «запахи тайги», якія да ўсяго знаходзяцца за мяжой, у чужой краіне, калі і па роднай Беларусі не надта паездзім. Кусаюцца білеты! І аўтобусныя, і чыгуначныя, не кажучы пра авіябілеты.

У такім разе выйсце адно — купляць кнігі серыі «Па родным краі», якую з 1985 года выпускае выдавецтва «Полымя». Праўда, кошт іх таксама павялічыўся, але не настолькі, як кошт білетаў. Скажам, толькі што ў згаданай бібліятэчцы выйшла кніга М. Ткачова і А. Трусава «Старажытны Мсціслаў». Каштуе яна ўсяго рубель.

Так што, шаноўнае спадарства, заплаціце рубель і, калі ласка, — Мсціслаўшчына перад вамі.

## «Дзень...» застаўся... днём

І сапраўды, хоць штогоднік «Дзень паэзіі-91» (укладальнік В. Шніп) запазніўся і прыйшоў да чытача толькі сёлета, ён адпавядае свайму профілю. Знаёміць з паэтычнымі навінкамі (асноўны раздзел так і называецца «Новыя вершы»), не забываецца пра юбілеі (напачатку вялікая падборка твораў М. Багдановіча, з дня нараджэння якога летась, як вядома, споўнілася 100 гадоў). Знімае «белыя плямы» з гісторыі нацыянальнай паэзіі (падборка «З літаратурнай спадчыны», у якой прадстаўлены В. Ластоўскі, Х. Ільяшэвіч, У. Клімовіч, Р. Крушына, А. Салавей, Л. Бялькевіч). Аналізуе набыткі («Пра паэтаў і паэзію»)... Працягвае жартаваць («Па дарозе на Парнас»).

А што будзе надалей, гэта залежыць ужо ад выдавецтва «Мастацкая літаратура». Хаця і не ад яго аднаго... Праўда, пакуль што ў выдавецтве разумеюць важнасць такіх выданняў. Прынамсі, цана зборніка зусім не рынарная...

## Нешта з «Памяццю» маёю стала...

«Гісторыка - дакументальныя хронікі «Памяць»: праблемы і перспектывы» — так называлася двухдзённая рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя, якая праходзіла ў Інстытуце гісторыі Беларускай Акадэміі навук. Кіраўнік арганізацыйна-метадычнага цэнтра па выданні хронік «Памяць» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь А. Петрашкевіч і іншыя выступоўцы адзначалі, што намер выпусціць 130 кніг — важны крок у нацыянальным Адраджэнні. Тым больш прыемна, што ўжо выйшла шэсць кніг, прысвечаных Быхаўскаму, Ляхавіцкаму, Бешанковіцкаму, Бярозаўскаму, Шумілінскаму і Талачынскаму раёнам, а таксама памяці тых, хто загінуў на афганскай вайне.

Праўда, дамініравала думка, што выдадзеныя кнігі завельмі акцэнтуюць увагу на пасляка-стрычніцкім перыядзе, прытым робіцца гэта з яўнай ідэалізацыяй. У той жа час замоўчваліся трагічныя моманты з гісторыі Бацькаўшчыны.

І ўсё ж выпуск чарговых тамоў «Памяці» адкладваць нельга. Зразумела, карэкціруючы работу ў кірунку большай аб'ектыўнасці і праўды. Такой думкі, як бачна было з яго выступлення, прытрымліваецца і міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь А. Бутэвіч.

## Вуліцам — імя паэтаў

З Краснаполля прыйшла прыемная навіна: там новай вуліцы прысвоена імя Аляксея Пысіна. Так вырашылі працаўнікі мясцовага калгаса імя У. І. Леніна. Прапанову землякоў знакамітага паэта падтрымалі ў гарпасялковым Савеце.

У Чавусах жа яшчэ раней па хадайніцтве мясцовых літаратараў адной з вуліц прысвоена імя паэта-земляка Андрэя Ушакова, які загінуў на фронце.

І. ГАЛІНОЎСКІ.

## «Роднае слова», № 2

Адраджэнскія матэрыялы — асноўны пафас чарговага нумара часопіса «Роднае слова» («Беларуская мова і літаратура ў школе»). Начальнік Мінскага абласнога ўпраўлення народнай адукацыі А. Новік расказвае пра вяртанне роднай мовы ў паўсядзённы ўжытак на Міншчыне — «Хай гучыць Купалава слова». Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута педагогікі Т. Мушынская раіць настаўнікам, як лепей данесці да школьнікаў значнасць аповесцяў М. Гарэцкага «У чым яго крыўда?» і «Меланхолія» («А там гарэла ціхае сялянскае святло»). А. Бельскі ў артыкуле «Да глыбіняў жыцця» разважае аб маладой беларускай прозе 80 — пачатку 90-х гадоў. Якуб Колас і літаратурная мова — тэма артыкула А. Каўруса «Пяром душа вадзіла». У нумары — штрыхі да творчага партрэта Л. Геніюш «Адзінай мэты не не зракуся», слова пра 60-гадовы шлях «ЛіМа».

## І выбралі «Выбар»...

Пасля правалу жнівеньскага путча адбыўся ідэйны раскол у абласной газеце «Віцебскі рабочы», які пазней аформіўся арганізацыйна. Частка калектыву на чале з загадчыкам аддзела Л. Цвіка ўтварылі па сутнасці альтэрнатыўнае выданне. Яно мае назву «Выбар» і прытрымліваецца дэмакратычнага кірунку.

«Выбар» прадстаўляе слова многім настворыным партыям, выкрывае негатыўныя з'явы з жыцця былой партыйнай наменклатуры, якая па-ранейшаму кіруе горадам і вобласцю. Была спроба выжыць калектыў з памяшкання, дзе паспелі пасяліцца партыйныя і камсамольскія кааператывы, але цяпер, калі вырашана пытанне з маёмасцю КПСС, «Выбару» бяздом'е не пагражае.

НАШ КАР.

ВЕЧАРЫ, СУСТРЭЧЫ

## І прэм'еры песень

Новыя творы Уладзіміра Будніка пачулі наведнікі яго творчага вечара, што адбыўся ў Доме літаратара. «Тураўскі рэквіем» на словы П. Шруба выканаў сам кампазітар, а песню «Сумная каліна» на тэкст гэтага ж паэта праспявала Н. Мікуліч, «Святочны дзень» на словы Л. Пранчака заўзята выканаў В. Касенка. На вечары прагучала і шмат вядомых песень У. Будніка на вершы В. Аколавай, Г. Бураўкіна, А. Грачанікава, Н. Гілевіча, А. Лягчылава, А. Русака, іншых беларускіх паэтаў. Спявалі А. Цівуноў і М. Скорыкаў. З цёплымі словамі пра вядомага песенніка выступілі паэты В. Аколава, П. Шруб, кампазітар У. Дамарацкі і іншыя госці вечара.

П. ГАРДЗІЕНКА.

НОВЫЯ ВЫДАННІ

## «Судовы веснік» і закон




Прыйшоў да чытачоў — і немалым для пачатку накладам — пяць тысяч экземпляраў — першы нумар новага часопіса «Судовы веснік», заснавальнікам якога з'яўляецца Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь. Гэтае выданне заменіць сабой «Бюллетень Верховного суда Республики Беларусь», асноўнай сваёй мэтай ён ставіць адлюстраванне шматграннай дзейнасці судоў усіх узроўняў, праваахоўных органаў суверэннай нацыянальнай дзяржавы. Толькі ў ім зараз будуць публікавацца тлумачэнні, пастановы пленума і прэзідыума Вярхоўнага суда па канкрэтных справах, а таксама вызначэнні яго судовых калегій па касацыйных справах і справах, што разглядаюцца ў парадку нагляду. Знойдуць месца на старонках «Судовага весніка» і асобныя пастановы прэзідыумаў абласных і Мінскага гарадскога судоў.

У дадатак да гэтага «афіцыёзу» рэдакцыя мае намер друкаваць судовыя нарысы, сустрэчы з цікавымі людзьмі, мастацкія творы, гумар.

У першым нумары чытачы знойдуць шэраг дакументаў, у тым ліку і законы Рэспублікі Беларусь аб Дзяржаўным сцягу, Дзяржаўным гербе і іншыя. Тут жа гутаркі са старшынёй Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь У. Караваем і Генеральным пракурорам М. Ігнатовічам, інтэрв'ю з выконваючым абавязкі рэктара Акадэміі кіравання пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь А. Бязлюдавым.

Артыкулам «Суды феадальнай Беларусі» дацэнт Белдзяржуніверсітэта, кандыдат юрыдычных навук Т. Доўнар распачынае рубрыку «З гісторыі суда».

Гэта матэрыялы, змешчаныя па-беларуску. Часопіс жа зарэгістраваны як выданне адразу на дзвюх мовах — беларускай і рускай. Рэдакцыя, як гэта бывае ў падобных выпадках, паспяшалася зрабіць прыпіску: «Лісты чытачоў друкуюцца на мове арыгіналаў». Узнікае пытанне: а самі супрацоўнікі? Яны павінны аддаваць перавагу дзяржаўнай мове. На жаль, пасля знаёмства з дакументамі, апублікаванымі ў «Судовым весніку», узнікае сумненне, ці дзяржаўная беларуская мова ў дзяржаве Беларусь. Дзіўна, але нават Закон Рэспублікі Беларусь аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь, падпісаны спадаром С. Шушкевічам, рускамоўны: у канцы гэтага дакумента, датаванага 18 кастрычніка 1991 года, стаіць рэгістрацыйны нумар: «№ 1181 — XII». Вось вам і практычнае выкананне Закона аб мовах.

І ўжо зусім незразумела, чаму верш М. Танка «Непадсудная», апублікаваны як вітанне да жаночага свята, пададзены ў рускамоўным перакладзе Я. Хелемскага.

Спадзеючыся, што «Судовы веснік» усё ж пачне паважаць Закон, падтрымаем думку М. Ігнатовіча аб павелічэнні перыядычнасці часопіса: пакуль што ён — усяго-наўсяго штоквартальнік.

ТЭАТР

## З жыцця маёра Козлікава

Тэатр-лабараторыя нацыянальнай драматургіі «Вольная сцэна» пад кіраўніцтвам Валерыя Мазынскага наўрад ці браў на сябе абавязак выпускаць штомесяц па спектаклю. Ды так атрымалася: 1 лютага тэатр адкрыўся пастаноўкай п'есы «Ку-ку» М. Арахоўскага, а 1 сакавіка — зноў запрасіў на прэм'еру. Гэтым разам на «Вольнай сцэне» дэбютаваў Уладзімір Сауліч, аўтар п'есы «Сабака з залатым зубам».

У. Сауліч родам з Глыбоччыны, настаўнік паводле адукацыі, зараз працуе ўласным карэспандэнтам газеты «Віцебскі рабочы». Дзве ягоныя камедыі, «Халімон камандуе парадам» і «Адзін Гаўрыла ў Полацку», раней былі пастаўлены ў самадзейных тэатрах. Прафесійнай сцэне драматург прапанаваў гісторыю з жыцця маёра Козлікава — ці то сон, ці то яву начальніка медвыцвярэзніка, які захацеў займець пародзістага сабаку. Што з гэтага атрымалася, глядач даведаецца са спектакля, пастаноўку якога ў Тэатры-лабараторыі ажыццявіў Валерый Раеўскі (рэжысёр Аляксандр Ільіных, мастак Барыс Герлаван, кампазітар Уладзімір Кур'ян).

Не будзем загадваць, як складзецца далейшы тэатральны лёс У. Сауліча, ды, пагадзіцеся, не кожнаму драматургу выпадае шчасце быць «ахрышчаным» выдатнымі акцёрамі-купалаўцамі Стэфаніяй Станютай і Генадзем Аўсяннікавым. Ролі ў новым спектаклі «Вольнай сцэны» выконваюць таксама Галіна Арлова, Фама Варанецкі, Уладзімір Кін-Камінскі, Яўгенія Кульбачная і Віктар Радзько.

ВЫСТАВЫ

## Выцінанка

Выстава выцінанкі экспанавалася нядаўна ў мінскім Палацы мастацтваў. Выцінанка вядома на Беларусі здаўна, але пэўны час гэтае мастацтва лічылася амаль забытым. І сёння традыцыя падтрымліваецца дзякуючы высілкам энтузіястаў. А шкада, бо магчымасці выцінанкі амаль невычарпальныя. Яны могуць быць скарыстаны ў кніжнай аздобе і рэкламнай графіцы, у многіх відах дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва.

В. БОГУШ.



Работа Н. СОКАЛАВАЙ-КУБАЙ.

ЛІТКУР'ЕР

## Яшчэ адзін музей

8 лютага, у дзень 78-й гадавіны з дня нараджэння Валянціна Таўлая, у сярэдняй школе № 4 г. Баранавічы адкрыўся літаратурна-краязнаўчы музей, матэрыялы якога знаёмяць з жыццём і творчасцю паэта-рэвалюцыянера, а таксама Сымона Буднага, Яна Чачота, Уладзіслава Сыракомлі, Паўлюка Багрыма, Міхася Забэйды-Суміцкага. У экспазіцыі музея імя В. Таўлая і матэрыялы, якія расказваюць пра рамёствы XIX—XX стагоддзяў, узнаўляюць іншыя старонкі мінулага краю.

Матэрыялы сабраны ўдзельнікамі школьнага клуба «Полымя», якім на працягу пяці год кіруе настаўніца беларускай мовы і літаратуры Алена Яхант. Метадычную дапамогу ў складанні плана-экспазіцыі музея яна атрымала ад прафесара, загадчыцы кафедры беларускай літаратуры Брэсцкага педінстытута В. Ляшук, супрацоўніцы Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея Р. Івановай і кабінета беларускай мовы і літаратуры абласнога інстытута ўдасканалення настаўнікаў.

М. КРАШАНІННІКАВА.

ДРУК

## «Вясёлка»: пакуль усе колеры

Пасля доўгага перапынку (падпісчыкі за мінулы год, як вядома, атрымалі толькі сёмы нумар) зноў прыйшла да чытачоў «Вясёлка». Праўда, гэта першы нумар за сёлетні год. Што тычыцца запазычанасці, дык ці будзе яна вернута, пакуль цяжка сказаць. Адно вядома: ёсць папера яшчэ на некалькі нумароў.

І ўвогуле, на сёлетні год на часопіс лепш за ўсё падпісацца. Па падпісцы кошт асобнага нумара — сорак капеек, а ў розніцу — рубель. У рэдакцыі спадзяюцца, што такая цана ўтрымаецца на працягу года. А пасля? Бог ведае, што будзе пасля.

Бо вось жа: газета «Звязда» спадзявалася на лепшае, а — з першага сакавіка падпіска на месяц ужо каштуе 10 рублёў 40 капеек, а на год — 124 рублі 80 капеек.

АНОНС

## Паяднаюцца аркестры

7 сакавіка ў зале Белдзяржфілармоніі адбудзецца выдатная падзея: тут у супольным выступленні сустрэнуцца Акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі ды Смаленскі рускі народны аркестр. Дырыжор — народны артыст Расіі, заслужаны артыст БССР Віктар Дуброўскі. Прагучаць творы М. Мусаргскага, І. Якушэнкі, Р. Штрауса, Р. Вагнера, П. Чайкоўскага, Д. Шастаковіча, І. Брамса, Н. Паганіні. На канцэрт запрошаны Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіч, кіраўніцтва Міністэрства культуры Расіі, іншыя афіцыйныя прадстаўнікі дзвюх незалежных дзяржаў.

Г. ПЯТРОЎСКІ.

# КІТАЙЦЫ ДАПАМОГУЦЬ...

(Пачатак на стар. 3).

у тры з паловай разы даражэй.

Нехта, адчуваю, можа папракнуць аўтара ў некампетэнтнасці: маўляў, ён не ведае, што аптовая цана заўсёды ніжэйшая за рознічную. Але ці павінен быць такі вялізны разрыў паміж імі? Няўжо калгасу было лягчэй тую бульбу вырасціць, чым пасрэднікам яе захоўваць і прадаваць?

І ўсё-такі давайце паглядзім, як набягаюць тыя 2 рублі розніцы.

Эканамісты камбіната неахвотна, але паднялі паперы з разлікамі. Бульба. Нарыхтоўчая цана — 850 рублёў за тону. Да гэтай сумы, тлумачаць мне, дадайце 1140 рублёў накладных выдаткаў. 540 рублёў — гандлёвая надбаўка (25 працэнтаў ад прадажнай цаны тавара). Плюсуем яшчэ 120 рублёў — падатак на так званы дадатковы кошт (дарэчы, што гэта за «звер», як мне падалося, не вельмі ўцямна ўяўлялі і мае субяседнікі). 60 рублёў камбінат бярэ за фасоўку тоны клубняў у сеткі. (А як жа — сервіс, хоць «сервіс» гэты абмінае такое пытанне, як якасць прадукцыі. Якасць жа па сведчанні шматлікіх пакупнікоў, з якімі я гутарыў у гародніных магазінах, — горшай не бывае. Палова бульбы пры абіранні ідзе ў памыйнае вядро. Я слухаў гэтыя скаргі і думаў: дзе ў свеце гандляр-прыватнік адважыўся б прадаць кліенту няякасны тавар? Не ўлічы ён інтарэсы пакупніка — адразу разарыцца, бо страціць яго давер). Вось і набягаюць тыя самыя два рублі на кіло! А ў дадатак мяне на камбінаце «суцешылі»: вясной бульба ў магазінах яшчэ больш падаражэе — растуць накладныя выдаткі на электраэнергію, транспарт, вось-вось работнікам павінны павысіць зарплату...

Дык што гэта я ўсё пра бульбу ды пра бульбу? Шалёнымі тэмпамі расце рознічная цана на ўсю гародніну. Вось, скажам, морква. У магазінах гэта вельмі неапетытнага выгляду «овощь» каштуе 7 рублёў 65 капеек за кілаграм —супраць мінулагодніх—10 — 12 капеек. Праўда, галоўны таваразнаўца аптова- рознічнага садавіна-гароднiннага камбіната Савецкага раёна Людміла Шайкевіч даводзіла мне, што леташняй восенню камбінат нарыхтоўваў яе ў гаспадарках таксама нятанна — па 1200 рублёў за тону. Але ж зноў параўнаем рознічную цану з аптовай, якая больш чым на 6 тысяч рублёў ніжэйшая. І зноў, як з бульбай, гэтыя грошы набягаюць за кошт накладных выдаткаў на аплату працы, электраэнергіі, транспартных сродкаў, амартызацыю абсталявання, а таксама падатку на дадатковы кошт, гандлёвай дваццаціпяціпрацэнтнай нацэнкі, фасоўкі і да т. п.

Усе дзевяць аптова-рознічных садавіна-гародніных камбінатаў Мінска падначалены гарадскому Упраўленню сельскай гаспадаркі і харчавання, якое, дарэчы, яшчэ ў канцы мінулага года насіла назву гарадскога аграпрамысловага камітэта (шыльда з такой назвай яшчэ вісіць на будынку).

Разабрацца ў хітрасплячэнні нашых упраўленчых структур зусім не проста. Упраўленне гэта, напрыклад, спецыялізуецца на нарыхтоўцы і продажы мінчанам гародніны і бульбы праз свае 126 магазінаў. Праўда, у распараджэнні яго знаходзіцца яшчэ і мінскія мясакамбінаты, малочныя заводы і завод безалкагольных напіткаў, прадукцыі якіх рэалізуецца насельніцтву ўжо праз магазіны ўпраўлення гандлю Мінгарвыканкома.

— Упраўленне гандлю рэалізуе прадукцыю, якую атрымлівае ад нас — мяса, кілбасы, малако і малочныя прадукты, безалкагольныя напіткі і г. д. — не без гонару сказаў мне першы намеснік начальніка Упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Вячаслаў Казіміравіч Крыштаносаў.

— А каму падначалены вы? — пацікавіўся я.

— Таксама Мінгарвыканкому, а таксама яшчэ і Міністэрству сельскай гаспадаркі і харчавання рэспублікі, — растлумачыў Крыштаносаў.

Сама думка аб ненармальнасці існавання дзвюх, у многім дубліруючых адна адну структур, як я ўбачыў, здаецца супрацоўнікам абодвух упраўленняў проста кашчуннай.

— Як вы можаце так ставіць пытанне? — вельмі незадаволеным тонам сказала мне начальнік гандлёвага аддзела ў «аграрнікаў» Ніна Пятроўна Цюшкевіч. — Калі нас аб'яднаць — будзе такая неразбяраха, бо ўчасткі працы і ў нас, і ў іх вельмі складаныя...

Прыблізна такія ж меркаванні пачуў я і ва ўпраўленні гандлю Мінгарвыканкома. Я спытаў тут у аднаго з досыць адказных клеркаў, як ён ставіцца да рашэння расійскага ўрада скасаваць гандлёвыя аддзелы пры выканкомах Саветаў. «Вельмі негатыўна, — пачуў я ў адказ. — Гандлёвыя аддзелы каардынуюць працу магазінаў. Як можна абысціся без іх?» У Мінску такіх гандлёвых аддзелаў — дзевяць, па колькасці райвыканкомаў, працуе ў кожным з іх па 40—50 рознага роду «арганізатараў» гандлю. Цікава, як яны бавяць час пры нашым татальным таварным дэфіцыце? Хоць, з другога боку, і ім хапае зараз клопатаў — у кожнага ж сям'я, сваякі, знаёмыя, знаёмыя знаёмых...

Зараз, калі я пішу гэтыя радкі, перад маімі вачыма паўстае адна і тая ж карціна — пакоі, цесна застаўленыя сталамі, людзі, якія, схіліўшыся над лічыльнымі машынкамі, нешта заўзята падлічваюць. Тысячы, мільёны лічбаў чародамі вылятаюць з незлічоных нашых сучасных «Геркулесаў» (чытач, спадзяюся, помніць фірму, апетую Ільфам і Пятровым у «Залатым цяляці»), дзе ўся работа заключаецца ў пераліванні з «пустого в порожнее».

У час сваіх вандровак па розных мінскіх установах я вынес адно пэўнае меркаванне, з якім хачу падзяліцца. Звычайна віну за маруднасць ажыццяўлення новых эканамічных рэформ у нас ускладаюць на ўчарашнюю партыйна-дзяржаўную наменклатуру, якая заняла зараз многія кіруючыя крэслы. Абвінавачванні гэтыя маюць пад сабой глебу. Менш, ці зусім мы не звяртаем увагі на той магутны кансерватыўны пласт грамадства, які складаюць дзесяткі тысяч радавых клеркаў, што з-за сваёй палітычнай абмежаванасці, адданасці сацыялістычным каштоўнасцям, а яшчэ больш з-за невысокага прафесійнага ўзроўню, як кажуць, на дух не прымаюць рыначнай эканомікі, відаць, не без падстаў мяркуючы, што там змогуць абысціся без іх. Так, ад гэтага, як у нас прынята гаварыць, — сярэдняга звяна быццам бы нічога не залежыць, рашэнні прымае не яно — начальства. Але паспрыяць стварэнню пэўнага выгаднага ёй палітычнага клімату армія чыноўнікаў можа. Яна гэта і робіць. Помню гаворку з адным са столаначальнікаў упраўлення гандлю гарвыканкома. Калі я спытаў у свайго суразмоўніка, як ён ставіцца да прыватызацыі магазінаў — працэс гэты поўным ходам ідзе, як, ведаем, у Расіі, мой візаві катэгарычна быў супраць гэтага. «Перадаць гандаль у прыватныя рукі — значыць, пагубіць яго на корані, — кіпяціўся ён. — Ва ўсякім разе сёння». «Чаму?» — не зразумеў я.

— Каб канчаткова «дабіць» мяне, ён з яхідствам спытаў: «А як вы, цікава, прымусіце прыватніка гандляваць па купонах?» Суразмоўнік мой, відаць, лічыў, што рыначная эканоміка не рэгулюецца ніякімі заканадаўчымі актамі ці пастановамі, абавязковымі для выканання ўсімі грамадзянамі. А мо і ведаў, ды рабіў выгляд, што не ведае...

Як бы там ні было, але з 700 магазінаў упраўлення гандлю Мінгарвыканкома яшчэ не прыватызаваны ніводны.

І яшчэ пра адно. Нішто не выклікала такога незадавальнення ў грамадстве, як лібералізацыя цэн. Калі ж гаварыць пра мяне асабіста, дык я падтрымліваю гэты крок на шляху да рынку, як бы моцна ён не біў і па маёй сям'і. Але падтрымліваю пры адной умове — я павінен ведаць, што шалёны скачок цэн рэзка стымулюе вытворчасць. На жаль, пакуль што вызваленне цэн стымулявала толькі з'яўленне за парогам жабрацтва соцень тысяч людзей. Тавараў, прадуктаў не пабольшала. Вось і з той жа гароднінай і бульбай. Хоць закупачныя цэны на гародніну дзяржава павысіла яшчэ тры гады назад, у тым жа Мінскім раёне плошчы пад гароднiннымі культурамі зменшыліся з 1768 гектараў у 1990 годзе да 1080 — летась... У пазамінулым годзе гаспадаркі раёна прадалі 50 тысяч тон гародніны, летась — толькі 34.

Першы намеснік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Мінскага райвыканкома Міхаіл Мікалаевіч Рабушка тлумачыць гэта тым, што некаторыя гаспадаркі лічаць цяпер нявыгадным вырошчваць гародніну — вельмі працаёмкую культуру. Хоць закупачныя цэны, скажам, з 1990 года ўзраслі, сабекошт прадукцыі застаецца ўсё роўна высокім, бо рэзка ўзрос кошт тэхнікі, будаўнічых матэрыялаў, гаручага, мінеральных угнаенняў.

Я слухаў яго і думаў, што калі б той жа калгас меў магчымасць прадаваць сваю бульбу, капусту, тую ж цыбулю без пасрэднікаў, па схеме: калгаснае сховішча — калгасны ці арандаваны ў дзяржавы магазін, прыбытак ад агародніцтва і бульбаводства тут узрос бы ўдвая-ўтрая. Быў бы стымул пашыраць плошчы пад гароднінай і бульбай, нарошчваць іх ураджайнасць. Ва ўсякім разе фермер зрабіў бы менавіта так. А калгасы... А з калгасаў (саўгасаў) восенню гародніну і бульбу вязуць на машынах у нагаданыя кабінеты, а зімой і вясной частку прадукцыі, тую, што сапсавалася ў тутэйшых сховішчах, вязуць зваротным маршрутам на корм жывёле. Вядома, за грошы. Напрыклад, у снежні мінулага года аптова-рознічным камбінатам, што ў Савецкім раёне Мінска, было прададзена гаспадаркам 102 тоны сапсаванай гародніны. У лістападзе — 79 тон.

...Пад заслону свайго выступлення па радыё Вячаслаў Францавіч Кебіч паведаміў, што параіў з'ездзіць па вопыт у Кітай кіраўнікам Брэсцкай вобласці. Шырэй кішэні, спадары, кітайцы нам дапамогуць!

**Міхась ЗАМСКІ.**



*Мартыралог Беларусі: імёны і факты*

# Арышт і смерць кс. Адама Станкевіча

## Да 100-годдзя з дня нараджэння

**Сёння аб творчасці і дзейнасці ксяндза Адама Вікенцьевіча Станкевіча ведаюць нямногія. Яго імя, яго кнігі былі забаронены ў гады савецкай улады, а сярод старонак тых, што былі ў 20—40-я гады выдадзены ў Літве і захоўваліся ў Савецкім Саюзе ў спецфондах, яшчэ і зараз можна сустрэць паперкі з запісамі нейкіх «экспертаў»: «Змест антысавецкі, варожы. Кніга павінна быць знішчана».**

**Але яго кнігі ў Беларусі існавалі. Іх копіі, перафатаграфаваныя, перапісаныя ад рукі, употай перадавалі адзін аднаму, зачытвалі «да дзірак». А беларусы старэйшых пакаленняў распавядалі аб ім з той вялікай павагай, з якой гавораць аб нямногіх, кананізаваных памяццю народа яго славутых сынах.**

Усю моц свайго багатага інтэлекту і палымянага сэрца А. Станкевіч прысвяціў беларускай нацыянальнай ідэі і ідэі хрысціянскай. Ён імкнуўся абараніць правы беларускага народа на сваю нацыянальную незалежнасць, абгрунтоўваючы іх, з аднаго боку, нацыянальнай прыродай беларуса, з другога — хрысціянскімі, агульначалавечымі ідэаламі. Яго думкі — у яго кнігах. Іх — вялікіх і малых — каля 20: самыя адметныя з іх «Родная мова ў святынях», «Хрысціянства і беларускі народ», «Доктар Францішак Скарына — першы друкар беларускі», «З жыцця і дзейнасці Казіміра Сваяка», «Вітаўт Вялікі і беларускі народ», «Магнушэўскі, Паўлюк Багрым, Баброўскі», «Прафесар Браніслаў Эпімах-Шыпіла», «Міхаіл Забэйда-Суміцкі і беларуская народная песня», «Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення» і іншыя.

Яго кнігі нараджаліся з казанняў. Ён іх — адзін з першых — пачаў гаварыць па касцёлах на беларускай мове. Паслухаць яго казанні вернікі прыязджалі за сотні кіламетраў. Але работай духоўніка не абмяжоўвалася яго дзейнасць. Кс. А. Станкевіч — пасол ад беларускага народа ў Варшаўскім сойме, стваральнік беларускай друкарні імя Фр. Скарыны, дырэктар Беларускай Дзяржаўнай прагімназіі, старшыня Беларускага Цэнтра Літвы, адзін з кіраўнікоў Таварыства Беларускай Школы, Беларускага выдавецкага Таварыства... Бадай што кожная нацыянальна-дэмакратычная справа ў 20—40-я гады атрымлівала самую актыўную падтрымку ксяндза — дэмакрата, барацьбіта за нацыянальную незалежнасць беларускага народа.

Аб жыцці і дзейнасці кс. А. Станкевіча, безумоўна, яшчэ будуць напісаны артыкулы і кнігі, зроблены навуковыя даследаванні. Але вялікай таямніцай з'яўляецца ягоная смерць...

Жыццё кс. А. Станкевіча абарвалася ў адным з лагераў ГУЛАГа. Дакументы рукапіснага архіва распавядаюць аб яго арышце і смерці.

1944 год. Літву пасля разгрому фашыстаў займае Чырвоная Армія. Кс. Адам разумее, што яму ўратавання ад Савецкага ўрада не будзе. Ён адчуў гэта яшчэ ў 1938 годзе, калі быў, як сцвярджае Я. Шутовіч, па загадзе савецкай улады высланы з Вільні. А сярод яго дзённікавых запісаў між летам 1940 і вясною 1941 ёсць радкі: «15.IV.40. Заняцьце Вільні і Літвы ўсёй Чырвонай Арміяй... 15.IX.40. Я зволены з дырэктарства... 25.III.41. Я ў НКВД як сведка ў справе Клімовіча. Мая там гутарка ў працягу 5 гадзін... 23.IV.41. Маё звальненне з пасады... 1.IX.41. Клімовіч на волі...» І імёны, імёны тых, хто арыштаваны, сасланы, пахаваны, або, наадварот, заняў раптам высокія пасады, атрымаў Сталінскія прэміі...

Многія гады — у даваенны польскі перыяд, а таксама ў часы нямецкай акупацыі і пасля яго аж да свайго арышту — кс. Адам жыў у Вільні на кватэры М. Я. Шутовіч і сталаваўся ў яе. Марыянна Язэпаўна была сястрой вядомага беларускага дзеяча Я. Шутовіча. Ёй і яе сястры Ганне кс. Адам перадае ўсю сваю небагатую маёмасць, ім прысвячае свае самыя глыбокія і шчырыя пачуцці.

Прадчуваючы свой арышт, а можа, і немінучую смерць, 7.07.1944 кс. А. Станкевіч піша свой тастамент, які назваў «Мая апошняя воля»:

**«На выпадак прымусовага майго выязду із Вільні, або на выпадак сьмерці маей, усю маю рухомую маёмасьць (бібліятэку, адзежу, хусьцё, радыё, пішучую машынку і ўсё іншае) перадаю Марыянне і Ганне Шутовічанкам (Вільня, Полацкая вул. 9—4) на іх поўную ўласнасьць. Гэта мая ім скромная падзяка (асабліва Марыянне Ш.) за іх даўгалетнюю безінтэрэсоўную для мяне працу і апеку. Адносіны нашы заўсёды былі самыя чыстыя і шчыра прыязныя. У маёй доўгалетняй працы на ніве Божай і беларускай народнай мае сьлёзы і мая радасьць былі такжа іх сьлязьмі і радасьцю. Сэрца мае да іх поўнае ўдзячнасці і прыязьні. Паручаю іх Божай Апецы і сам паручаюся іх малітвам і іх мілай памяці. Паручаю такжа іх памяці сваю дарагую старушку Матку і дачушку маёй нябошчыцы сястры Ганны малалетнюю Вальцю.**

**Сьвятар Адам Станкевіч.**
**Вільня, 7.VII. 1944, у дзень Апосталаў Славян святых братоў Кірыла і Мяфода».**

7 снежня 1944 г. на кватэры кс. А. Станкевіча адбыўся вобыск, былі канфіскаваны яго дакументы, асабістая перапіска, кнігі, а сам ён, пэўна, у той жа дзень быў арыштаваны. Захаваліся запіскі з турмы, адрасаваныя М. Я. Шутовіч. Напісаны яны былі па-руску, з відавочным разлікам на перлюстрацыю.

**«Посылку получил 8.12. Новую готовьте к празднику. Вы сами бедные, попросите кусок сала у хозяина бывшей духовной семинарии. К празднику пришлите: луку, кусок сала или масла, платков носовых, хлеба немножко. Может быть, про это еще напишу. Я здоров, чувствую себя хорошо. Нужна моя фотография, поищите у себя, думаю, что у Вас найдется».**

**14.XII.44: «Здравствуйте! С Новым годом поздравляю Вас всех! Но не даром, за поздравление прошу передачу. Конечно. если можете и что можете: хлеба (немного), лук, чеснок, жир (масло, сало) не в бумаге, но в тряпке или банке; пришлите также полотенце. Грязное белье когда-нибудь, может быть, сумею Вам прислать для стирки. Чистое белье пока имею. Как вы живете? Мужайтесь, дорогие, чтобы Новый год принес мир всему миру и полную победу нашей славной Красной Армии над врагом!»**

Тады, пасля першага арышту, кс. А. Станкевіча пратрымалі ў турме нядоўга. Ён вяртаецца для работы ў касцёле. Але вакол — палітычны тэрор, арышты, ссылкі... Як заўсёды — і «за палякамі», і «за немцамі» — ён адчувае сябе адказным за лёс вернікаў, лёс беларускага народа, хрысціянства на Беларусі. Ён вельмі добра разумее, што рызыкуе жыццём, але зноў і зноў звяртаецца з мемарандумамі да Савецкага ўрада, у якіх, скарыстоўваючы ўсе свае веды, дыпламатычныя здольнасці, патрабуе даць магчымасць беларускаму народу захаваць і развіць сваю нацыянальную самасвядомасць, а каталіцызму — хоць бы адносную незалежнасць ад дзяржавы, просіць аб вызваленні з савецкіх астрогаў рэпрэсіраваных беларускіх ксяндзоў...

Ёсць яшчэ адзін бок у жыцці кс. Станкевіча ў гэты час. Раней, у часы нямецкай акупацыі, ён, будучы адміністратарам касцёла св. Міхала ў Вільні, у манастырскіх будынках пры гэтым касцёле перахоўваў беларускіх партызан. Зараз ён зноў, рызыкуючы сваім жыццём і здароўем, робіць усё магчымае, каб захаваць жыццё і здароўе тых, што за кратамі савецкіх турмаў.

Будуць ісці з Вільні, з вул. Полацкай, д. 9, нават і тады, калі кс. Адама ўжо не будзе ў жывых, пасылкі па розных адрасах ГУЛАГа з тым, што можна есці, яны дапамогуць многім захаваць жыццё, вярнуцца на волю... Трэба ведаць тыя галодныя і халодныя пасляваенныя гады, каб зразумець, як невымоўна цяжка было сабраць такую пасылку...

13 красавіка 1949 — другі арышт кс. А. Станкевіча. У красавіку М. Шутовіч атрымае дазвол перадаць штосьці з ежы і адзення ў астрог. У архіве — амаль штодзённыя заявы яе на імя начальніка турмы з просьбай перадаць вязню, якога яна называе братам сваім, хлеб, муку, яблыкі, аладкі бульбяныя... На заяве ад 24.10.49: «Получил. Ад. Станкевіч».

У кастрычніку Марыянна Язэпаўна перадае «валенки, галоши, рукавицы теплые, носки теплые, куртку ватную» дзеля яго апошняга доўгага шляху — у Сібір — і атрымлівае апошняе пісьмо ад яго:

**«Вильнюс. 24.X.49. — Милые, дорогие сестрицы! Писал Вам с пересыльной 22.X. Пишу еще. Спасибо за передачу, жаль ваших трудов, можно было бы обойтись. Продуктов достаточно; а какие роскошные брюки и ватовка! Жаль, што нельзя повидаться! Но ничего — все равно душой мы едино. Сегодня, завтра уезжаем; куда — не знаем. При первой возможности напишу, но когда это будет — Бог знает. 23.X. я отправил здесь вс. Мшу. Какое счастье! Я служил, а мне прислуживали два ксендза. Горячо я молился и о Вас, мои милые. Приготовьте (если удастся) молитвенник с мшой по латыни, польский или литовский, а также молитвенник литовский, открытки, карандаш, бумагу, иголку, ножницы (малые, к рукам), пришлете, когда сообщу свой адрес. Привет там кому следует. Какой я счастливый, что Вас имею, мои светлые ангелы, икак я благодарен Вам! Марыська и Аннушка — не горюйте, берегите здоровье, молитесь, Бог даст увидимся. Я счастлив, что терплю за такие возвышенные идеалы и что Вы мои в этом помощницы. Воспитывайте Ядзю! Целую Вас крепко. Ваш неизменно Ад. Станкевич».**

Аб тым, куды павезлі кс. Адама, даведацца было немагчыма. І пачне Марыянна Язэпаўна хадзіць па турмах і пракуратурах, каб даведацца, дзе ж знаходзіцца яе названы брат, ці не памёр ён ужо.

**«Республиканскому Прокурору ЛССР от Шутович Марии Иосифовны, прож. гор. Вильнюс, ул. Полоцкая № 9-4**

**Заявление**

**Прошу Вас дать знать о месте нахождения заключенного Станкевича Адама Викентьевича 1891 года рожд.**

**Станкевич А. В. был арестован 13.IV.1949 г. и до 21.X.1949 г. находился в тюрьме № 1 на Лукишках. С 21 по 25.X.1949 г. был на пересыльной тюрьме и с этого времени я не имею никакого сведения о его существовании.**

**Прошу Вас сообщить мне о его состоянии здоровья и месте пребывания.**

**Шутович Мария И.»**

**Вильнюс, 20.III. 1950 г.**

Ніякага адказу на свае заявы ад органаў яна не атрымала. І толькі 19.11.55 ад Пятра Сікоры, які вярнуўся з лагера, даведалася, што кс. А. Станкевіч ужо некалькі год як памёр у лагеры, які знаходзіўся па адрасе: «Горад Тайшет, Братский р-н, станица Вихоревка, п/я 215/026. Лагерный пункт № 22. Железнодорожный разъезд 22». Сярод лагернікаў П. Сікора назваў імя А. Цвячкоўскага, і толькі напісаўшы яму, яна, нарэшце, даведалася аб абставінах апошніх дзён і часоў жыцця кс. Адама.

Пісьмо Цвячкоўскага:

**«25-VI-56 г. Вельмі Паважаная Спадарыня!**

**...Я з далёкай, снежнай, марознай, цынготнай, праклятай людзьмі і Богам Калымы, па пяцігоднім там пажыванні праехаў, як у нас кажуць, на Вялікую Зямлю. Тут сустрэў аднаго святара з Вільні, езуіта, паляка, прозвішчам Зомбак, які мне сказаў, што тут, гдзе мы находзімся, у канцы 1949 г. памёр светлай памяці Адам. Я крэпка засумаваў, зняў шапку і доўгім маўчаннем выказаў пашану Таму, каго ўжо даўно нестала паміж намі, пазней памаліўся за спакой Яго душы. На маё пытанне, гдзе знаходзіцца магіла, звястун гробавай весткі не знаючы сказаў, пра гэта я магу даведацца ў аднаго літоўскага інжынера Забулёніса. Я разыскаў яго. Даведаўся. Інжынер Забулёніс разам сядзеў у Вільні, разам выехалі, бачыў ён вас і Ганку на станцыі. Ганка трымала лісток паперы. Штосьці там было напісана. Не маглі прачытаць, было далёка. Яны разам елі, разам спалі. Ён рабіў гроб для свайго сябра нядолі. А. Цвячкоўскі».**

(Інжынер Забулёніс не проста пасябраваў з кс. Станкевічам, ён у мінулым вядомы ў Літве баксёр, абараняў свайго сябра. Тыя, хто сустракаў літоўскіх вязняў на перасылках і турмах, успаміналі, як вакол ксяндзоў арганізоўвалася група больш моцных мужчын. І калі ўставала пагроза з боку ўсялякіх падонкаў, якіх багата было вакол, яны сцяной закрывалі слабейшых. Мо гэтыя ўспаміны датычацца і кс. Адама.)

Прыводзім пісьмы К. Забулёніса да М. Шутовіч.

**«13.V.56. Анзеба.**

**Уважаемая Мария Шутович. Извините, что я незнакомы, но только я вас видел, как нас увозили в далёки Сибир. Я и Станкевич смотрели через окно. И у меня осталась память. И вашу имя и фамилию я ни забыл потому, что Станкевич просил миня чтобы я вам пиредал последни слова иво. И был все время с ним вместе и ехали и спали и кушали вместе когда приехали, стал болеть и особенно сердце. И последни раз попросил ксендза Пшыялгоўскага для исповеди и потом на другой день умер. Если будет возможно когда быть у вас, то я расскажу все. Сиводня я только достал ваш адрес и решил вам написать хотя пара слов о вашим Станкевиче. Я был его другом хотя ни по профессии, но по заключению. Но жалко, что пришлося скоро растацца. Я покамис остался и уже белый, хотя 52 года, но как снег.**

**Уважаемая Мария, если что вам нужно будет узнать, то вы напишите и я отпишу вам. Моя родина была Вильнюс. Я там родился а за последни время жил в Каунасе. Я сам инженер-строитель.**

**Низнакомы К. Шабулёніс.**

**Мой адрес: Иркутская обл., Братский р-н п/о Анзеба. П/я 215/3-043. Забулёнис Казимирас Ионо».**

**«14/VI. 56 г. Анзеба.**

**Уважаемая Мария. В первых словах моиго письма, шлю вам горячий привет из далекого и холодного Сибира. Спасибо вам за письмо, которое я от вас получил, писано 4/VI.56г., а я достал 13/VI-56 г. Я очин рад что вы получили моио письмо. Вы спрашивате кто мне дал адрис, то я вам пишу кто. Цвячковски Антон Станислававич. Вы его хорошо знаите, он у вас был на квартире — жил, когда учился. Он приехал с Колымы, а ему сказал один свяшчэнник который из Вильнюса, иво фамилию узнаю и напишу. Он сказал что вы живете на этой же улицы. Я буду сиводня говорить с ним и вам напишу, все подробно. Вы миня спрашивате что говорил последни слова, на счот вас то я как буду у вас то пирадам все подробно, писать ни буду. Простите что я плоха по руску пишу — как-нибудь прочитаете, и будьте здоровы, остаюсь низнакомы но можит будим знакомы.**

**К. Забулёнис.**

**Ожидаю ответа».**

Я. Шутовіч успамінаў, што і К. Забулёніс і кс. Пшыялгоўскі вярнуліся з лагера, сустрэліся з М. Шутовіч. Яны гаварылі, што кс. Адам Станкевіч па прыездзе ў лагер захварэў на дызентарыю, яго слабае сэрца не дазволіла яму пераадолець хваробу, і ад яе ён памёр.

Пасля сустрэчы з К. Забулёнісам Марыянна Язэпаўна запісала на асобных лістках паперы:

**«Вільня 16.VII-56**

**Быў у мяне інж. літоўскі Казімір Забулёніс, каторы з кс. Адамам быў разам у турме, увесь час быў разам, аж да яго смерці 1949 г. з 29.XI па 30, калі ўмер светлай памяці кс. Адам. Прад сьмерцяй прасіў Забулёніса, каб ён перадаў Яго пасьледняе слова для мяне, што ён гэта і зрабіў. Вельмі плакаў і казаў, каб я ўсё, адзенне і ўсё, што да яго належа, каб прадавала і ратавала сваё жыццё і каб помніла і аб ім, кс. Адаме. У адной шафе у кнізе што-та ёсць, каб я звярнула ўвагу на гэта, а рэшта, казаў, што я сама ведаю, дзе што ляжыць.**

**Прад сьмерцяй папрасіў кс. Прыялкоўскага, каб ён яго выспавядаў. Гэта было 28.XI.49, а на другі дзень памёр. Выдалі цела 4.12, рабіў труну Забулёніс, казаў, што труна была дужа прыгожая, але там, дзе яго мелі вязьці, ня ўлезла, дык мусіў рабіць другую, не знаю, што гэта значыць.**

**Памёр з 29.XI на 30.1949 г. Выдалі цела 4.XII пасля 6.XII, 8.XII, 10.XII пахаранілі. На пытанне маё, дзе ж магіла нашага Дарагога змагара за справядлівасць і Хрыстову і беларускую ідэю, адказ Забулёніса быў: невядома, бо там так хаваюць, каб людзі не ведалі. Хоць мы ня ведаем яго магілы, дык няхай неба яму будзе сьветлым раем, а хмары і ветры няхай нясуць яму, кс. Адаму, з роднага краю сьлёзы, каторыя мы выліваем за яго. Ойце Адам ад'ехаў далёка, далёка, нас пакінуў, але ў нашых сэрцах жывець і будзе жыць назаўсёды. Ойце Адаме, прасі Найвышэйшага, каб Ён сьцярог Вашу спадчыну і каб яна была ў руках таго народу, за які цярпеў і сьмерць панёс прадраньняю. Дык няхай будзе зямелька сібірская лёгкай, няхай зімой над магілай сьвісьціць мяцеліцай сьнежнаю, а вясной няхай сібірскае сонца грэе і птушкі няхай песні сьпяваюць, а мы будзем маліцца за душу, каб Бог залічыў да сьвятых. Бо жыцьцё, якое пражыў сьветлай памяці кс. Адам, было глыбока Хрысьціянскае. Кс. Адам быў вялікім хрысьціянінам і справядлівым чалавекам.**

**Што было пры ім, усё спісалі і забраў начальнік лагера, былі абкралі. Яшчэ як чуў, усіх тых, хто краў, пацягнулі да адказнасьці і ўсё павярнулі; быў пры кс. Адаме квіт на грошы — 3 тысячы 300 руб. Забулёніс здаў гэны квіт начальніку лагера. З рэчаў было коц плюшавы, 1 пара ботаў, 1 пара комаш і ўсё, што было пры ім, усё зьвязалі ў адно месца і аддалі начальніку. Забулёніс напісаў мне аб гэтым і аб смерці, залавілі пісьмо, прызвалі Забулёніса і казалі, каб перад імі парваў і спаліў гэна пісьмо, што ён гэта і зрабіў».**

... У Урлянятах, што на Ашмяншчыне, — сімвалічная магіла Адама Вікенцьевіча Станкевіча. Яна побач з магілай яго маці Антаніны. Два сціплыя помнікі. На адным надпіс: «Антаніна Станкевіч. 1855—1944. Маць кс. Адама. Душам іхнім неба!». На другім помніку словы: «Кс. Адам Станкевіч. Выдатны грамадска-культурны дзеяч, палымяны патрыёт Беларусі. Памёр у Іркуцкай вобл. Вечная чэсць і слава!

Высока ў буру і ў пагоду
Ты родны сцяг і крыж
трымаў.
Між беларускага народу
Святую праўду засяваў».

Магілы гэтыя былі зроблены клопатамі М. Шутовіч і яе родных, надпіс прапанаваны А. Клімовічам. Ці захаваліся яны сёння — пра тое нам невядома. Але мы ўпэўнены, што будзе час, калі гэтае месца стане святыняй для кожнага шчырага беларуса.

**Ларыса ЭТЭНКА.**

## АД РЭДАКЦЫІ

Амаль адначасна (ці выпадковае супадзенне?) з матэрыялам Л. Этэнкі рэдакцыя атрымала ліст былога палітзняволенага Рыгора Сяргеевіча Клімовіча. Мусім яго змясціць разам з дасланай ім жа даведкай, атрыманай з Упраўлення УС Іркуцкага аблвыканкама.

Перш дакладна дакумент:

**«О наличии сведений об Станкевич А. В.**

**Уважаемая Нина Васильевна!**

**На Ваш запрос сообщаем: Станкевич Адам Викентьевич, 1891 года рождения, уроженец дер. Урленяты, Крево волости, Ошмянского уезда, Белорусской ССР, настоятель католического костела «Терезия» в г. Вильнюс, проживавший г. Вильнюс ул. Полоцкая д. № 9 кв. 4.**

**Был арестован 13 апреля 1949 года.**

**Был осужден Особым Совещанием при МГБ СССР 31 августа 1949 года по ст. 58-4, 58-10 УК РСФСР сроком на 25 лет. Начало срока 13.04.1949 г. Был направлен в Озерный лагерь г. Тайшет Иркутской области. Прибыл 21.11.1949 года. Умер 4 декабря 1949 (в колоне № 026). Похоронен на кладбище центральной больницы вблизи дер. Шевченко Тайшетского р-на, могила обозначена знаком № 3-43.**

**Основание: фонд 10 опись 18 дело 465.**

**Зам начальника ИЦ УВД**

**Иркутского облисполкома В. И. ПОПУГАЕВ».**

А зараз — ліст нашага чытача.

**У вашым штотыднёвіку двойчы друкаваліся ўспаміны пра беларускага святара і публіцыста Адама Станкевіча, які быў нявінна асуджаны і загінуў у Азёрлагу. Мне таксама давялося быць у Азёрлагу, і для мяне А. Станкевіч з'яўляецца як бы братам па зняволенні, таму я звярнуўся да добрых людзей — супрацоўнікаў Іркуцкага мемарыяла — настаўніка Л. С. Мухіна, паэта В. С. Сербскага і пенсіянеркі Н. В. Янкоўскай з просьбай адшукаць магілу А. Станкевіча. І вось на адрас Н. Янкоўскай прыйшоў адказ з Іркуцкага абласнога УУС.**

**Я і мае сябры-беларусы, былыя заняволеныя Азёрлагу, спадзяёмся, што з вашай дапамогай прах А. Станкевіча будзе перавезены на радзіму і пахаваны ў той зямлі, якую ён шчыра любіў і якім беларусы могуць ганарыцца. Але пры гэтым і я, і супрацоўнікі Іркуцкага мемарыяла жадаем захаваць памяць аб А. Станкевічу і ў тым месцы, дзе ён загінуў як зняволены, мы вельмі жадалі б памясціць фатаграфію і падрабязныя звесткі аб ім у музеі гор. Брацка, і таму я звяртаюся да вас, каб вы надрукавалі артыкул пра Станкевіча, пра яго жыццё і дзейнасць, і змясцілі ў «ЛіМе» яго фота...**

**Зараз могілкі, дзе пахаваны палітзняволеныя, знаходзяцца ў запусценні, і нельга дапусціць, каб згубілася магіла выдатнага сына беларускага народа — Адама Вікенцьевіча Станкевіча. Усе мы павінны зрабіць усё магчымае, каб па-людску пахаваць прах А. Станкевіча і паставіць на яго магіле помнік, а фатаграфію яго і біяграфічны нарыс аб ім змясціць у Брацкім музеі. Думаю, што мяне ў гэтым падтрымаюць былыя зняволеныя — беларускія пісьменнікі Сяргей Грахоўскі, Павел Пруднікаў, Алесь Звонак.**

**Па запрашэнні Нарыльскага «Мемарыяла» мне давялося быць у Нарыльску, як аднаму з кіраўнікоў нарыльскага паўстання. У гэтым паўстанні я ўзначальваў беларусаў і ад іх імя вёў перагаворы з маскоўскай камісіяй — палкоўнікам Зверавым і генераламі Гаглідзе, Папюковым, Вавілавым. У гэтым паўстанні загінула звыш тысячы чалавек. І вось зараз прыбалты, украінцы і рускія паставілі сваім помнікі. І толькі няма помніка беларусам, а нас там было не менш за прыбалтаў. Гэта вельмі крыўдна. Ці ж мы ўжо не народ?! І тым больш крыўдна, што так усюды ў месцах былых лагераў. Толькі беларусам няма помнікаў. А таму мы і хацелі б звярнуцца да БНФ і да згуртавання «Бацькаўшчына», да ўсіх іншых дэмакратычных партый з заклікам пачуць голас загінуўшых у няволі беларусаў. А каб наш голас гучаў мацней, мы хацелі б, каб разам з намі выступілі ўсе знакамітыя былыя палітзняволеныя Беларусі. Справа гонару беларусаў ушанаваць памяць бязвінных ахвяр бальшавіцкага тэрору. Над магіламі беларусаў павінны стаяць помнікі і ў Горлагу, і ў Азёрлагу, і ў Стэплагу, і ў Берлагу, і ў Рэчлагу ды іншых лагерах...**

**Рыгор КЛІМОВІЧ.**

г. Гомель.

## З ПОШТЫ «ЛіМа»

# ПАМАЖЫЦЕ ЗНАЙСЦІ КАМПАЗІТАРА!

У шостым нумары «ЛіМа» змешчаны матэрыял пра кампазітара З. Яўтуховіча. Дапамажыце нам, скаўтам Гарадзенскай харугвы, звязацца з ім і з паэтам Леанідам Пранчаком. Сёння амаль з нябыту адраджаецца беларускае скаўцтва, а песень ні для малодшых (8—11 год), ні для старэйшых амаль няма. І зусім няма сучасных. Шмат каго з самадзейных паэтаў і кампазітараў мы прасілі, але пакуль без вынікаў. А вось у гэтых творцаў павінна атрымацца. Іх песні сваім гучаннем, весялосцю, беларускасцю вельмі адпавядаюць ідэалу скаўцкай песні (скаўт заўсёды вясёлы, заўсёды смяецца, заўсёды гатовы дапамагчы бліжняму). Бо хто ж нам дапаможа, калі не патрыятычныя творцы. Мы гатовы нават падрабязна выказаць, якія песні нам патрэбны. Усе яны павінны быць пра Беларусь, патрыятычныя, вясёлыя. Песні пра жыццё ў лесе, на волі, пра звяроў і птушак, пра сонца і вечар ля вогнішча. Песні маршавыя, каб лёгка крочыць і лёгка спяваць. Усё гэта ёсць у «дарослых» песнях З. Яўтуховіча і Л. Пранчака. Канешне, мы не пакрыўдзімся, калі нам адмовяць, але гэта было б вельмі горка.

**А. ЖУКОЎСКІ,**
**старшыня аргамітэта Гарадзенскай харугвы скаўтаў Беларусі.**

(Паштовы адрас—у рэдакцыі).

## «ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

# Конкурс часопіса «Мастацтва»

**Часопіс «Мастацтва» абвясціў сярод мастакоў і фотамайстроў конкурс на лепшую калядную і велікодную паштоўкі. Пераможцаў чакаюць прэміі памерам 2000 (першая), 1500 (другая) і 1000 (трэцяя) рублёў. Умовы конкурсу змешчаны ў снежаньскім нумары часопіса.**

**Калегі з «Мастацтва» прасілі таксама паведаміць, што да 1 мая г. г. часопіс прымае рэкламу і аб'явы ў галіне культуры і мастацтва бясплатна. Даведкі па тэлефонах 39-40-86, 39-50-89 ад 14 да 17.**

# Смачна есці!

**Шаноўныя сябры!**

**Пасля перапынку зноў адчынілася кафэ Дома літаратара, якое запрашае членаў творчых саюзаў рэспублікі штодня ад 13.30 да 16.00 і ад 17.00 да 23.00.**

**Прымаюцца таксама папярэднія заказы на правядзенне ўрачыстасцяў, вечарын і г. д. Магчымы безнаяўны разлік.**

**Тэлефоны для даведак: 36-89-34, 36-42-13.**

## АБ'ЯВА

# Неабходнае ўдакладненне

Не так даўно ў друку, у тым ліку і ў «ЛіМе», была апублікавана белтаўская карэспандэнцыя «Адкрыем культуры граніцы». Можна было б не звярнуць увагу на недакладнасць у назве Галоўнага ўпраўлення па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў гісторыі і культуры пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь. Не так, відаць, важна, якім імем цябе назавуць. Горш, калі пра твае памкненні сказана нібы між іншым, недакладна. Менавіта азначэнне функцыі Галоўнага ўпраўлення, як гэта пададзена ў публікацыі, і змусіла мяне сказаць пра накірункі яго дзейнасці.

Звернемся да дакумента — пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь за 17 студзеня 1991 года № 17, на падставе якой і створана Галоўнае ўпраўленне па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў гісторыі і культуры. Яго ўтварэнне мае на мэце «захаванне гісторыка-культурнай спадчыны на тэрыторыі Рэспублікі, удасканаленне ўпраўлення рэстаўрацыяй, кансервацыяй і прыстасаваннем помнікаў гісторыі і культуры». Такім чынам, Галоўнае ўпраўленне з'яўляецца органам дзяржаўнага кіравання справай рэстаўрацыі ў Рэспубліцы і выконвае ролю службы адзінага заказчыка на праектна-каштарысную дакументацыю і вытворчасць работ на помніках гісторыі і культуры. З гэтага вынікае, што дагавор на выкананне пэўных рэстаўрацыйных работ можа быць заключаны з любым падрадчыкам, у тым ліку і з СП «Рэнаватум». Што ж датычыцца турызму і гандлю, чым мяркуе таксама займацца сумеснае беларуска-польскае прадпрыемства, то гэтыя віды дзейнасці не адносяцца да функцыянальных абавязкаў Галоўнага ўпраўлення і ніякім чынам не перакрыжоўваюцца з дзейнасцю іншых устаноў ці арганізацый. Таму наўрад ці варта так адназначна гаварыць пра «Рэнаватум» і Галоўнае ўпраўленне як пра канкурэнтаў. Трэба сказаць, што вызначэнне апошняга як службы адзінага заказчыка па аб'ектах рэстаўрацыі не скасоўвае магчымасці некаму яшчэ займацца гэтай высакароднай справай. У прыватнасці, заказчыкам на аднаўленне многіх гістарычных аб'ектаў зараз сталі касцёл і царква. З'яўляецца такім і само Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. На 1992 год яно захавала за сабой 3 млн. 725 тыс. руб. у цэнах мінулага года бюджэтных сродкаў для гэтых мэт.

Каб не займацца адвольнымі развагамі, звернемся зноў да вышэйзгаданай пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь. На падставе вызначаных у ёй задач Галоўнаму ўпраўленню належыць займацца распрацоўкай, фінансаваннем і матэрыяльна-тэхнічным забеспячэннем рэспубліканскай праграмы рэстаўрацыі помнікаў, праводзіць нарматыўна-метадычнае забеспячэнне рэстаўрацыйных работ, развіццё вытворчай і сацыяльнай базы рэстаўрацыйных арганізацый, прыцягваць праектныя і будаўнічыя арганізацыі міністэрстваў і ведамстваў для работы з помнікамі гісторыі і культуры, а таксама — стварыць рэспубліканскі цэнтр дакументацыі па помніках гісторыі і культуры. Некаторыя з іх ужо рэалізуюцца або праводзіцца актыўная падрыхтоўка да іх рэалізацыі.

Варта сказаць, што Галоўнае ўпраўленне створана ў выніку выдзялення функцыі кіравання рэстаўрацыяй з шэрагу прыналежных Міністэрству культуры Рэспублікі Беларусь, якое гэтай справай займалася як і іншымі не менш важнымі менавіта сваімі спецыфічнымі накірункамі дзейнасці. Сярод прыярытэтных задач Галоўнаму ўпраўленню бачыцца распрацоўка нарматыўнай базы для правядзення рэстаўрацыйных работ, якая ў новых эканамічных умовах павінна аператыўна ўплываць на дзейнасць праектных і вытворчых арганізацый. Не менш важнай справай можна назваць і распрацоўку Нацыянальнай праграмы рэстаўрацыі, што б вызначыла бліжэйшыя і больш аддаленыя перспектывы ў адраджэнні і захаванні спадчыны народаў Беларусі. Тым самым можна стварыць абгрунтаваныя эканамічна і сацыяльна накірункі і метады развіцця рэстаўрацыйнай справы. У гэтым плане надзвычай важным бачыцца пераход да разгляду ў якасці помніка гарадскога асяроддзя. Нельга сказаць, што нічога падобнага на Беларусі не рабілася. Прыкладам таму можа быць распрацоўка рэгенерацыі гістарычнага цэнтра Мінска. Іншая справа, што ў гэтым дастаткова грунтоўным праекце ў сённяшніх жыццёвых рэаліях праявіліся асобныя недахопы, як і выявіліся пралікі ранейшага Мінгарвыканкама ў падыходзе па яго рэалізацыі. Немалаважным з'яўляецца і пытанне падрыхтоўкі кадраў рэстаўрацыі: праекціроўшчыкаў, даследчыкаў, розных спецыялістаў вытворчасці. Надзвычай важным з'яўляецца стварэнне тэорыі рэстаўрацыі, якая б адпавядала менавіта беларускім сацыяльна-культурным, геапалітычным ды эканамічным рэаліям. Без яе, думаецца, немагчыма далейшае паступальнае адраджэнне нацыянальнай матэрыяльнай і духоўнай спадчыны.

Гэта толькі тэзісны, да таго ж, зразумела, няпоўны пералік задач, якія неабходна вырашаць на рэстаўрацыйнай ніве Рэспублікі. І тут нельга не пагадзіцца з панам прафесарам Тадэушам Полякам, генеральным дырэктарам дзяржпрадпрыемства Майстэрні кансервацыі помнікаў (Pracownie Konserwacji Zabytków), які падкрэсліў у часе леташняй сустрэчы ў Гродне, што месца пад «сонцам рэстаўрацыі» хопіць усім. Гаворка тады ішла пра магчымасць супрацоўніцтва польскіх і беларускіх рэстаўратараў. Супрацоўнікі Галоўнага ўпраўлення ніколі не адмаўлялі такой магчымасці, мяркуючы, што сумесная дзейнасць можа мець плён, калі да яе будзе далучаны любы сур'ёзны замежны інвестар. Пры гэтым абавязковай умовай узаемадзеяння павінна быць выгада для абодвух бакоў. Аднак нельга было прыняць умоў, якія прапаноўваліся вядомым далёка за межамі Польшчы рэстаўратарам. Польскі бок прапаноўваў сваіх рабочых, якія на сённяшні дзень не заўсёды могуць знайсці работу ў рэспубліках Балтыі, Сярэдняй Азіі. Беларускаму боку прапаноўвалася не толькі аплачваць іх працу па дастаткова высокіх тарыфах, але і пераўтвараць зробленыя рублі ў высокагатунковыя тавары народнага спажывання, стварыўшы пры гэтым умовы для іх перавозкі ў Польшчу. Думаецца, сёння на такіх умовах знойдзецца нямала і айчынных вытворцаў, якія з задавальненнем возьмуцца за гістарычныя аб'екты. Узаемавыгаднасць супрацоўніцтва бачыцца ў прыцягненні з-за мяжы таго, чаго няма ў нас саміх. Рабочых жа рук пакуль хапае. Зрэшты, уважаючы на стан нацыянальнай спадчыны, у прыватнасці помнікаў дойлідства, і неабходнасць прыцягнення да іх аднаўлення значных сілаў. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пайшоў на стварэнне пры падаткаабкладанні льготных умоў усім арганізацыям, якія маюць працаваць на аб'ектах рэстаўрацыі. Як у нас прынята казаць: пажывём — пабачым ці гэтыя б словы ды Богу ў вушы. Ва ўсякім разе менавіта такія намеры ёсць сёння ў Галоўнага ўпраўлення па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў гісторыі і культуры пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь на шляху па адраджэнні нацыянальнай спадчыны. Думаецца, калі пры іх рэалізацыі не будуць тварыцца перашкоды, чаго ў цяперашні, як яго называюць, пераходны перыяд хапае па аб'ектыўных і суб'ектыўных прычынах, то станоўчыя вынікі неўзабаве маюць праявіцца і ў справе рэстаўрацыі.

**Ігар ЧАРНЯЎСКІ,**
**намеснік начальніка Галоўнага ўпраўлення па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў гісторыі і культуры пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.**

**Марцін КОЎЗКІ**

## ДОЛЯ ПРАЎДЫ

**Хіба пераўнаеш нашых з чужымі? Здраджваюць свае.**

●

**Павысілі бібліятэкарам зарплату, і вось яна, немінучая расплата — у бібліятэкараў на паліцах густа, у магазінах на прылаўках пуста.**

●

**Звыкла ды па-біблейску страшна: «Кніга скаргаў»... Велічнае, аднак, разбавілі дробным: «...і прапаноў».**

●

**Лад жыцця — калгасны: робяць разам, хутка сеюць, тэхнікі шмат, шчодра атрымліваюць крэдыты, ніхто ні за што не адказвае, пасеянае сабраць не паспяваюць, тэхніка больш стаіць, чым працуе, крэдыты спісвае дзяржава. Як гаспадаркі не развальваюцца? А лад жыцця — калгасны.**

●

**Пісьмо з завода. Партакамаўцы не спяшаюцца вяртацца ў «рабацягі». Ці то тайны рэзерв у іх маецца, ці то вераць: рэанімацыя верне партыі цягу. Ды мы знаем, чаго яна вартая, былая рабочая партыя, і хто яны, тыя «былыя», — як варону ні мый, не адмыеш.**

●

**З дрэнным і добрым так: з дрэнным усё ўжо добра, з добрым пакуль што дрэнь.**

●

**Песня: пра купца «Калашнікава».**

●

**Што нам рабіць са спадчынай сацыялістычнага рэалізму, плёнам мастацкай салдатчыны, лгунства, пратэкцыянізму? Хоць таленты не скараліся ідэалагічнай кодле, створанае імі «насуперак» усё адно выдавалася за «паводле»... Што ж нам рабіць са спадчынай, гэтай стракатай складчынай?**

●

**Старыя не пераводзяцца не таму, што яны бессмяротныя, а таму што пастаянна аднаўляюцца — маладзейшыя падпіраюць.**

●

**Апатычна паглядаю ў «скрынку», кіньце вашы абяцанкі-цацанкі, агітуйце за кілбасы і шынкі, а нашто мне тыя біржы і банкі.**

●

**Нешта мы людзям недагаворваем, быццам бы аром і недаворваем. Успамінаем тых, хто не дажыў, а маўчым пра тых, хто залажыў. Што чакаць ад зломаных людзей, у якіх ні веры, ні ідэй. Хай бы зрэдку, хоць бы ўначы ад жуды крычалі стукачы.**

●

**Чыноўнік глядзіць мне ў вочы старанна: «Пад Мінскам няма ўжо ўрадавых дач, аддалі ўсе ветэранам». «Радавым?» «Амаль што, урадавым».**

●

**Кадэбісты называюць сябе чэкістамі, гэта лашчыць слых і гучыць урачыста. Ды ці зробіцца страшнае слова новым, нават калі прызнаюць яго ганаровым?**

●

**Чаму пішу сцісла? Прамовы слухаць абрыдла.**

**ДЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ**

# ЧЫТАЙМА УСЕВАЛАДА ІГНАТОЎСКАГА

Дзякуючы выдавецтву «Беларусь», зноў прыйшоў да чытача «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі» Усевалада Ігнатоўскага. Выданне пятае — значыцца на ім. Чацвёртае ж, перапрацаванае самім аўтарам, пабачыла свет у Мінску ажно ў 1926 годзе (праз год яго паўтарылі ў Вільні).

Пра доўгае замоўчванне імя Ус. Ігнатоўскага, пра трагічны лёс гэтага выдатнага дзеяча на ніве нацыянальнага Адраджэння гаворыць у прадмове доктар гістарычных навук А. Грыцкевіч. Ён падрабязна і аб'ектыўна разглядае сам «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі». Канечне, кніга з'явілася не на голым месцы: яшчэ ў 1910 годзе Марцін Кухта ў сваёй віленскай друкарні выпусціў «Кароткую гісторыю Беларусі» В. Ластоўскага. «Гістарычны нарыс В. Ластоўскага, — падкрэслівае А. Грыцкевіч, — быў першым выданнем гісторыі Беларусі, напісаным беларусам, па-беларуску і для беларусаў яшчэ ў царскай Расіі».

«Кароткі нарыс...» упершыню з'явіўся ў 1919 годзе, у час белапольскай акупацыі. У аснову яго былі пакладзены лекцыі, якія Ус. Ігнатоўскі чытаў для настаўнікаў пачатковых школ Міншчыны.

Пазіцыя Ус. Ігнатоўскага пры напісанні «Кароткага нарыса...» відаць з яго прадмовы да 3-га выдання: «Нам усім добра вядомы той палітыка-сацыяльны ўклад жыцця, які быў пад цяжкаю рукою самаўладства ў Расіі наогул і ў нас на Беларусі... У часы імперыі не звярталася ўвага на тое, што з сацыяльнага і культурнага боку не магло быць і ніколі не было цэласнай і адзінай Расіі». І далей: «Узяўшы ў рукі ясны ліхтарык, павінны мы крок за крокам абысці мінулае нашай бацькаўшчыны. І ніводзін куточак нашага шматпакутнага жыцця не можа і не павінен застацца без стараннага агляду».

Кніга ахоплівае ўсю гісторыю беларускай зямлі ад сівой мінуўшчыны да 1924 года. Ус. Ігнатоўскі прытрымліваецца сваёй перыядызацыі, вылучаючы Полацкі, Літоўска-Беларускі, Польскі (калі Беларусь знаходзілася ў складзе Рэчы Паспалітай) і Расійскі перыяды, а таксама перыяд, пазначаны так: «Беларусь пасля звяржэння царызму». «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі» Ус. Ігнатоўскага і сёння застаецца адным з каштоўных твораў беларускай гістарыяграфіі.

**А. АН-ЕВІЧ.**



Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах. Друкарня «Беларускі Дом друку».**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.





Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12